УДК 261.7
ББК 86.2
Б90

**Буднік, І.Ф.**

Б90 Да падзеяў 1863 – 64 гг. на Гарадзеншчыне / Буднік Іван Фёдаравіч . – Гродна : «ЮрСаПрынт», 2013. – 108 с. : - іл..

ISBN 978-985-90264-8-5

**УДК 261.7**
**ББК 86.2**



**ISBN 978-985-90264-8-5**

Навукова-папулярнае выданне

**Буднік** Іван Фёдаравіч

**Да падзеяў 1863 – 64 гг. на Гарадзеншчыне**

Падпісана да друку 22.04.2013
Фармат 60х84/16
Ум.друк.арк.8,2. Ул.выд.арк. 568
Папера афсетная. Друк лічбавы
Тыраж 99 паас. Заказ 09/12

Выдавец і паліграфічнае выкананне
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «ЮрСаПрынт»
ЛІ № 02330/1010 ад 31.01.2012 г.
вул. Карла Маркса,11, 230005, г. Гродна
+375 152 7718 20
+375 295 87 84 11

# Ад аўтара

Падзеі 1863-64 г.г. для беларусаў застануцца на вякі важнейшым этапам на шляху да незалежнасці. Да іх мы будзем звяртацца і ў юбілейныя гады, і штогодна, бо яны з'явіліся чарговым яркім парывам народа да волі.

Хочацца звярнуцца да рэгіянальных падзей паўстання, што адбываліся на тэрыторыі тагачаснага Гродзенскага ўезда і горада Гродна. Паўстанню прысвечана вялікая літаратура, але гэта не гарантавала добрае веданне яго падзей і асобы яго кіраўніка асабліва людзьмі старэйшага веку, выхаваных на савецкай трактоўцы гэтага паўстання. Памятаючы аб гэтым, хацелася б вярнуцца да незабыўных падзей паўстання 1863-64 г.г., аддаць даніну павагі, выказаць захапленне подзвігам маладога пакалення, якое адважылася на самаахвярную барацьбу з адладжанай рэпрэсіўнай машынай Расійскай імперыі.

Падзеі памянёнага паўстання разглядаюцца ў нарысе ў межах сучаснага Гродзенскага раёна з улікам зацікаўленасці сучасных яго жыхароў. Тэрыторыя раёна часткова не супадае з тэрыторыяй уезда другой паловы XIX ст.: так, левабярэжная частка раёна ад дзяржаўнай мяжы з Літвой да в. Ласосна адносілася да Аўгустоўскага ўезда Царства Польскага, сучасны Адэльскі сельсавет – да Сакольскага.

# Падрыхтоўка паўстання

Само паўстанне 1863 г. не было выпадковай з’явай у гісторыі нашай краіны, а звязана з барацьбой нацыянальна свядомай часткі нашага грамадства за незалежнасць краіны, якая была страчана ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст.. Кожнае новае пакаленне грамадзян падзеленай дзяржавы праз 33 – 36 гадоў узнімалася на барацьбу за волю і незалежнасць, натхнёнае подзвігам і ідэаламі сваіх бацькоў і папярэднікаў, і знаходзіла падтрымку розных сацыяльных слаёў. Паўстанне адбывалася на фоне агульнага ўздыму дэмакратычнага руху ў Расіі, нацыянальна-вызваленчых і аб’яднаўчых працэсаў у некаторых краінах Заходняй Еўропы (Італія, Германія, Аўстрыйская імперыя). Да выбуху 1863 г. спрычыніўся і працяглы крызіс прыгонніцкай сістэмы, і нявырашанасць зямельнага пытання ў краіне, і падаўленне правоў і свабод чалавека і народаў у Расійскай імперыі. У такой сітуацыі даволі было з’яўлення іскры, каб патэнцыяльная энергія незадавальнення перарасла ў канкрэтныя паўстанцкія дзеянні. Такім дэтанатарам стаў набор ў рэкруты нацыянальна свядомай моладзі ў Царстве Польскім, які прывёў да выбуху паўстання, што перакінулася на беларускія землі. (Вядома, што расейскія ўлады ведалі пра падрыхтоўку паўстання і прынялі меры, каб яго не дапусціць ці, наадварот, справакаваць!)

Вялікую работу па падрыхтоўцы паўстання на Гродзеншчыне выканалі Кастусь Каліноўскі і створаная ім рэвалюцыйная арганізацыя. Пасля заканчэння Пецярбургскага ўніверсітэта ён вярнуўся на радзіму, на Беларусь, поўны планаў рэвалюцыйнага вызвалення краю. У Вільні і Варшаве ён устанаўлівае сувязі з падпольнымі рэвалюцыйнымі арганізацыямі і ў хуткім часе становіцца членам Літоўскага правінцыяльнага камітэта. Аб членах гэтага камітэта пазней пісаў удзельнік паўстання 1863 г., член Варшаўскай арганізацыі Нацыянальнага урада Польшчы Юзаф Яноўскі:

“Былі гэта людзі маладыя, поўныя гарачай любові да сваёй бацькаўшчыны, канспіратары, гатовыя да бязмежнай



Валерый Урублеўскі, паплечнік К. Каліноўскага ў стварэнні Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, адзін з кіраўнікоў паўстання ў Беларусі

самаахвярнасці... Самай выдатнай у гэтых адносінах асобай быў Канстанцін Каліноўскі. Ён быў адным з найшляхетных тагачасных мужоў Літвы, адукаваны, чысты, поўны высакароднасці, розуму і энергіі. Абходзіў пешкі Літву і Беларусь, несучы ў народ жар любві да бацькаўшчыны."

Як рэвалюцыянер, дэмакрат ён фарміраваўся ў час навучання ў Пецярбургскім універсітэце ў 1856-60 г.г., у асяроддзі расійскага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху, у асяроддзі такіх жа выхадцаў з Паўночна – Заходняга краю і Польшчы, як і ён, якія марылі аб незалежнасці краіны і складалі планы яе вызвалення. У студэнцкія гады Кастусь з старэйшым братам Віктарам уваходзілі ў склад пецярбургскай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі, якую ўзначальвалі афіцэры Генеральнага штаба Зыгмунд Серакоўскі і Ярослаў Дамброўскі. Пасля заканчэння ўніверсітэта К. Каліноўскі вярнуўся ў 1861 г. да бацькі ў в. Якушоўка і ўвесь свой час аддаў стварэнню арганізацыі, распрацоўцы планаў паўстання і яго падрыхтоўцы. Яго надзейнымі паплечнікамі і аднадумцамі былі Валерый Урублеўскі, інспектар егерскага вучылішча ў г. Саколка, акцызны чыноўнік Станіслаў Сангін, Фелікс Ражанскі, ксёндз Ігнат Казлоўскі з В. Бераставіцы і інш. У час паездак і вандровак па вёсках і гарадах Гродзенскай губерні яны сустракаліся з шляхтай, мяшчанамі, простым людам у маёнтках, корчмах, сялянскіх хатах, раскрывалі слухачам вочы на гаротны стан краю, на неабходнасць перамен, сярод іх вербавалі прыхільнікаў і памочнікаў.

# “Мужыцкая праўда” ва ўездзе

Важную ролю ў падрыхтоўцы грамадства да паўстання 1863 г. выканала газета “Мужыцкая праўда”, якую выдавалі сам К. Каліноўскі, С. Сангін, Ф. Ражанскі, доктар Баляславу Заблоцкі і іншыя сябры гродзенскай паўстанцкай арганізацыі і распаўсюджвалі ў час шматлікіх паездак па губерні, пакідаючы яе ў наведаных вёсках. Месца выдання газеты гісторыкам дакладна ўстанавіць не ўдалося, але выказваецца думка, што гэта найверагодней адбывалася на Гродзеншчыне, дзе ў К. Каліноўскага было шмат памочнікаў ( Г.Кісялёў). У невялікіх памерам лістках газеты “ Яська-гаспадар з-пад Вільні” (К. Каліноўскі) звяртаўся найперш да “мужыкоў панскіх і казённых”, таму што верыў у іх прыродны розум і сілу: “Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, но яшчэ і ўчыць мужыцкай праўдзе”. Ён тлумачыў, што “ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацца, бо яны не вольнасці, глуму і здзерства нашага хочуць”, што “з мужыка дзяруць на ўсякія падаткі астатнюю кашулю”, паказваў рабаўніцкі характар рэформы па адмене прыгоннага ладу. У сялянах К. Каліноўскі бачыў асноўную сілу паўстання, але звяртаўся і да шляхты, чыноўнікаў, памешчыкаў як нацыянальна свядомай часткі грамадства ў барацьбе за вольнасць Беларусі-Літвы. Таму так пільна сачылі за газетай паліцэйскія чыны. З’яўлялася яна ў розных месцах і Гродзенскага ўезда.

Яшчэ да пачатку паўстання, 14 студзеня 1863 г., гродзенскі ўезны спраўнік рапартаваў губернатару І.В. фон Галеру: “Пристав 1-го стана…донёс, что 10 января на Волковыском тракте в селении Коптевщизна найдены были два пакета без адреса, один при кузни недалеко речки сыном крестьянина Якова Вашкевича Адамом, глухонемым, а другой найден посредине деревни … Михаилом Садовским». Находку ўбачыў унтэр-афіцэр з размешчанай у вёсцы воінскай часці, ідучы насустрач, забраў і аднёс дзячку Капцёўскай царквы. Выяснілі, што “...это бумаги возмутительные, один экземпляр «Мужицкой правды», а другой – «Гутарка», в коих написано, чтобы не слушаться

никого из начальников, а быть с топорами, ножами и прочим оружием. Злоумышленник не найден». («Гутарка» - гэта хутчэй усяго « Гутарка двух суседзяў», блізкая па духу да "Мужыцкай праўды").

Вядомы гродзенскі краязнаўца Апанас Цыхун адшукаў матэрыялы аб распаўсюджанні "Мужыцкай праўды" у ваколіцах Адэльска. Для барацьбы з распаўсюджаннем газеты і іншымі падрыўнымі выданнямі была створана спецыяльная камісія пад кіраўніцтвам генерала Абрамовіча і размяшчалася ў заштатным горадзе Адэльску Сакольскага ўезда. Камісія выявіла некалькі жыхароў, якія займаліся падрыўной дзейнасцю і распаўсюджвалі "Мужыцкую праўду". Такімі былі мешчанін Мацей Цюхна і батрак Казімір Статкевіч. Яны заклікалі мясцовых жыхароў не выконваць загады царскага ўрада, не аддаваць сваіх сыноў у рэкруты, перадавалі ім газету К. Каліноўскага. Трэцім з падбухторшчыкаў быў Іосіф Гарчак з вёскі Скрабл які, былы студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях 1861г. ён быў арыштаваны і сядзеў у Кранштадскай крэпасці. Пасля яго выслалі на радзіму пад нагляд паліцыі. А тут якраз і разгарнулася тайная падрыхтоўка да паўстання і пачаліся самыя ваенныя дзеянні. Іосіф Гарчак раз'язджаў па суседніх вёсках, заклікаў сялян уступаць у паўстанцкія атрады, распаўсюджваў "Мужыцкую праўду". Царскія ўлады яго арыштавалі, але, не даказаўшы яго віны, як небяспечнага чалавека выслалі ў Пермскую губерню на пасяленне. Больш жорсткі прысуд чакаў Мацея Цюхну. Па прыгавору ваенна-палявога суда 6 чэрвеня 1863г. ён быў расстраляны ў г. Саколка. Следчая камісія ген. Абрамовіча у сувязі з актыўнымі дзеяннямі паўстанцкіх атрадаў з Адэльска хутка з'ехала.

А ўжо ў час паўстання сакольскі ваенны начальнік 11 ліпеня 1863 г. паведамляў губернатару, што ў паўвярсце ад вёскі Дубавая селянінам гэтай вёскі Вікенціем Дамшэлем знойдзена пракламацыя Часовага польскага ўрада, дзе змешчаны "приказ Жонду Польского над целым краем Литовским и Белорусским" ( напісана лацінкай на беларускай мове). Праз пяць дзён, 16 ліпеня, ён інфармаваў аб знойдзенай каля Кузніцы "Мужыцкай праўдзе". Небяспеч-

ная газета з’яўлялася то ў адным, то ў другім месцы ўезда і рабіла сваю падрыўную справу. У жніўні 1862 г. яна была знойдзена парабкам Міколам Таўрэлем пры ўездзе ў вёску Грандзічы з боку горада. Два месяцы  газета хадзіла па руках сярод жыхароў вёскі, і толькі 29 кастрычніка 1862 г. засядацель Гродзенскага земскага суда Лясота рапартаваў свайму начальству, што адабраў у мешчаніна в. Грандзічы Антона Яроцкага другі нумар газеты “Мужыцкая праўда”. У канцы ліпеня два лісты “ мятежнических приказов… найдены в имении Нетечи помещика Клюковского старостою Шидловским  позади дворов на тропинке … около деревни”, - паведамляў гродзенскі ўезны спраўнік 1 жніўня 1863 г.

Названыя факты сведчаць, што нягледзячы на перашкоды ў распаўсюджанні, у давядзенні да ведама непісьменнага народа “Мужыцкай праўды”, улётак, загадаў рэвалюцыйнага ўрада і кіраўнікоў паўстання, змест іх усё ж даходзіў да жыхароў уезда, падымаў іх на барацьбу.

# Гродзенская рэвалюцыйная арганізацыя

Намаганнямі К. Каліноўскага і яго паплечнікаў у 1861 – 62 г.г. у Гродзенскай губерні і ўездах была створана разгалінаваная нелегальная арганізацыя, вызначаны задачы і абавязкі кіраўнікоў розных напрамкаў дзейнасці, наладжана сувязь паміж акруговымі цэнтрамі. У яе ўваходзілі гродзенскі чыноўнік Эразм Заблоцкі, яго брат доктар Баляслаў Заблоцкі, каморнікі Фелікс Ражанскі і Ідальфонс Мілевіч, чыноўнік з Саколкі Станіслаў Сангін, інспектар лясной школы ў Саколцы Валерый Урублеўскі, ксяндзы Гінтаўт з Гродна, Ян Заржыцкі і Ігнат Казлоўскі з Гродзенскага ўезда і інш. Пазней да яго далучаліся новыя члены. У пачатку 1863 г. Кастусь Каліноўскі ўзначаліў Літоўскі правінцыяльны камітэт, які стаў начале паўстання ў Беларусі і Літве. Адхілены ў канцы лютага 1863 г. ад кіраўніцтва Часовым рэвалюцыйным урадам Літвы і Беларусі за незалежніцкія і радыкальныя памкненні, ён быў назначаны камісарам Гродзенскай губерні і накіраваў усю энергію на пашырэнне і ўмацаванне на яе тэрыторыі паўстанцкага руху і створанай арганізацыі. Пазней, калі яе ўдзельнікі былі арыштаваны расійскімі ўладамі, некаторыя з іх катэгарычна адмаўлялі свой удзел у арганізацыі і паўстанні, спадзеючыся на вызваленне ад пакарання з-за недаказанасці. Але ў час паўстання яны добрасумленна выконвалі свае абавязкі. Іншыя, абвінавачаныя прамымі і ўскоснымі доказамі, прызналі свой удзел у паўстанні. З іх паказанняў і матэрыялаў следства мы даведваемся аб структуры арганізацыі, яе ўдзельніках і іх дзейнасці.

Грамадзянскім (цывільным) начальнікам губерні спачатку з'уляўся ўраджэнец Брэста 38-гадовы Апалон Гофмейстар і кіраваў паўднёвымі ўездамі губерні, а яго памочнікам і куратарам паўночных уездаў стаў Эразм Заблоцкі, 33-гадовы чыноўнік Гродзенскай будаўнічай і дарожнай камісіі. Але для большай аператыўнасці кіравання і сувязі губерня ў красавіку была падзелена на Гродзенскае ваяводства з Эразмам Заблоцкім у якасці цывільнага начальніка і Брэсцкае, якое ўзначаліў А. Гофмейстар. У

кожным павеце (паўстанцы карысталіся гэтым тэрмінам замест рускага "уезд") былі назначаны павятовы цывільны і ваенны начальнікі.

Разам з Эразмам Заблоцкім у ваяводскай арганізацыі працавалі дэмакратычна настроеныя людзі:

чыноўнік палаты дзяржаўных маёмасцяў Ільдафонс Мілевіч у якасьці сакратара, адказнага за сувязь з павятовымі начальнікамі і Літоўскім камітэтам;

чыноўнік Ігнат Геніуш, як начальнік ваяводскага бюро складаў і рассылаў у паветы розныя дакументы, адозвы, улёткі рэвалюцыйнага зместу;

вольнапрактыкуючы ўрач Брыерэ дэ Мартэрэ і чыноўнік Адольф Талочка, якія былі перапісчыкамі рэвалюцыйных папер, а А. Талочка яшчэ і захавальнікам ваяводскай пячаткі ( яе і неабходную фарбу трымаў у вазонах);

чыноўнік палаты дзяржмаёмасцяў Людамір Абрэмскі, які па настойлівым перакананні К. Каліноўскага прыняў абавязкі ваяводскага касіра. Праз рукі гэтага сумленнага чалавек і даволі высокага чыноўніка прайшлі і не прыліплі да рук тысячы рублёў, ахвяраваных на паўстанне.

Гродзенскім павятовым начальнікам быў намінаваны ў сакавіку 1863 г. Станіслаў Сільвестровіч, 30 гадоў, які з братам Казімірам валодаў вялікім маёнткам Гожа – Пералом. Ён скончыў Дэрпцкі універсітэт, быў чалавекам ліберальных поглядаў, за што карыстаўся павагай гродзенскай моладзі. Пасля адмены прыгоннага права ў 1861 г. гожскія сяляне былі пераведзены ім на самы ўмераны аброк і атрымалі ў валоданне ад 16 да 36 дзесяцін зямлі (у тым ліку прыдатная, лес, паша і інш.). Гэта выклікала ў некаторых памешчыкаў-суседзяў незадавальненне і апасенні за паводзіны сваіх сялян. Прыходу Станіслава Сільвестровіча ў шэрагі "мяцежнікаў" садзейнічала пашырэнне нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі-Літве і Царстве Польскім. Весткі аб мірных дэмастрацыях у Варшаве ў лютым 1861 г. і расправе царскіх салдат з іх удзельнікамі праз некалькі дзён даходзілі да Гродна і выклікалі салідарнасць грамадскасці. Абурэнне рэпрэсіямі, крытыка расійскіх улад гучалі на ўсіх сходах шляхты, чыноўнікаў, і праводзіўся

збор сродкаў на ўзвядзенне помніка ахвярам беззаконня. Сваёй актыўнасцю вызначыўся і С. Сільвестровіч, які ахвяраваў і сабраў значную суму грошай (80 руб.) на гэтую справу. Абмеркаванне і польскіх, і мясцовых падзей пры частых прыездах у Гродна ўсё больш зблiжала яго з братамі Заблоцкімі. І нездарма Эразм Заблоцкі, стаўшы ваяводскім начальнікам, прапанаваў С. Сільвестровіча назначыць цывільным начальнікам Гродзенскага павета. Яшчэ да гэтага назначэння ён прапанаваў лясныя ўгоддзі ў сваім маёнтку Гожа для збора гродзенскай моладзі і фармавання там паўстанцкага атрада. Але маладыя людзі на чале з начальнікам чыгуначнай станцыі Гродна Ляонам Кульчыцкім вырашылі па-іншаму: на цягніку 2 сакавіка паспрабавалі прабіцца ў Парэчча для сустрэчы з атрадам Людвіга Нарбута.

Вайсковым начальнікам Гродзенскага павета быў зацверджаны чалавек вопытны ў ваеннай справе падпалкоўнік царскай арміі Лянкевіч Аляксандр Алойзавіч, 40 гадоў, якому Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК) надаў званне палкоўніка. Ён вышаў у адстаўку, быў чалавекам несямейным і разам з братам Антонам валодаў нераздзеленым невялікім маёнткам Панюкі ( 109 дзесяцін) каля р. Пыра ў 7 вярстах ад Скідзеля. Пасля смерці брата Аляксандр Лянкевіч кіраваў гэтым маёнткам, але ў пачатку 1863 г. ён пісьмова адмовіўся ад сваёй часткі ўласнасці і "пайшоў з інсургентамі ў мяцежніцкія шайкі". Пазней царская ўлада прызнала гэтую адмову несапраўднай.

Да пачатку паўстання для аператыўнасці ў яго падрыхтоўцы Гродзенскі павет быў падзелены на 5 акругаў ( у адпаведнасці з 5 паліцэйскімі станамі) і назначаны ЛПК іх кіраўнікі (акруговыя), а таксама вызначаны адказныя за накірункі дзейнасці (рэферэнты).

Акруговымі начальнікамі сталі:

у Індурскай акрузе – Эміл ьян Рэдых, аканом маёнтка Свіслач памешчыка В. Пуслоўскага,

у Лунненскай акрузе – Іван Каменскі, уладальнік з сёстрамі маёнтка Міневічы,

у Крынскай акрузе – памешчык Кандрат Дашкевіч,

 

Іван Каменскі, паўстанцкі начальнік Гродзенскага павета (злева); Цэлясцін Цэханоўскі у 1863 г. паўстанцкі начальнік г. Гродна (справа);

у Азёрскай акрузе – Пётр Пакубята з маёнтка Заблаць каля Гродна, чыноўнік грамадзянскай палаты,

у Скідзельскай акрузе – Андрэй Чаповіч, ксёндз-пробашч Мастоўскай парафіі.

Адказнымі за пэўныя ўчасткі дзейнасці (рэферэнтамі) з'яўляліся:

касірам – Севярын Ромер, уладальнік маёнтка Губінка, былы ўезны маршалак шляхты,

ваенным – Восіп Вайсятыч, аканом з маёнтка Краснік, былы міравы пасрэднік,

рэферэнтам камунікацый – Люцыян Завістоўскі, уладальнік маёнтка Алекшыцы,

рэферэнтам апекі – Франц Багатка, уладальнік маёнтка Котра в. Кашубінцы,

па надзяленню сялян зямлёй – Іван Каменскі (маёнтак Міневічы), былы міравы пасрэднік.

Надзейным памочнікам павятовага а пасля і ваяводскага начальніка Станіслава Сільвестровіча быў яго стрыечны брат 18-гадовы Сігізмунд Урублеўскі, які вёў усю канцылярыю і перапіску. Студэнт-першакурснік Кіеўскага ўніверсітэта, ён пакінуў вучобу, як толькі даведаўся аб вы-

буху паўстання ў Польшчы і Беларусі. З’явіўшыся ў Гродне, ён шукаў магчымасці далучыцца да паўстанцаў і ўступіць у які-небудзь атрад, але Станіслаў пераканаў яго застацца з ім, весці канцылярыю і трымаць сувязі з паўстанцкімі атрадамі і іншымі паветамі.

З пачаткам паўстання цывільным начальнікам г. Гродна быў зацверджаны аўтарытэтны ў горадзе доктар Цэлясцін Цэханоўскі, былы штатны лекар дваранскага пансіёна; яго надзейным памочнікам стаў Іосіф Руткоўскі, былы комнатны наглядчык таго ж пансіёна, і чыноўнік канцылярыі губернатара Уладыслаў Жалкоўскі.

Сябры Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі ў большасці былі маладымі, гарачымі прыхільнікамі вызвалення свайго краю ад царска – расійскага панавання і дэмакратычных пераўтварэнняў у ім, хаця чоткую праграму не кожны з іх уяўляў. Аб баявым уздыме, які панаваў сярод іх, сведчыць выказванне сакратара арганізацыі і захавальніка пячаткі Адольфа Талочкі, 30-гадовага чыноўніка казённай палаты:

“ У час мінулага мяцяжа воляй або няволяй амаль кожны служыў яму чым-небудзь і цяжка за кагосьці паручыцца, што ён быў выключэннем з агульнага правіла”.

Літоўскі правінцыяльны камітэт распрацаваў і перадаў у паветы ў кастрычніку 1862 – лютым 1863 г. інструкцыі аб асноўных абавязках ваенных, павятовых і акруговых начальнікаў і камандзіраў паўстанцкіх атрадаў. Ад іх патрабавалася пастаянна клапаціцца аб стане арганізацыі і дзейнасці яе членаў, стане і папаўненні павятовай касы; ведаць настроі ўсіх саслоўяў, урадавыя распараджэнні, перамяшчэнні войск; прымаць меры для вырабу і набыцця зброі, харчавання, адзення, медыкаментаў, для пашырэння паўстання; забяспечыць выкананне пастаноў Часовага правінцыяльнага ўрада аб арганізацыі ўлады на месцах, аб надзяленні сялян зямлёй, падтрымваць рэгулярную сувязь з вышэйшымі органамі – словам, вырашаць дзясяткі розных практычных пытанняў.

Сустрэчы і гарачыя спрэчкі ў падпольнай арганізацыі праходзілі ў Гродне на кватэры або ў гасцініцы Севярына



Гасцініца Севярына Ромера, дзе часта збіраліся члены Гродзенскай паўстанцкай арганізацыі (цяпер – вул. Савецкая, 23)

Ромер на вул. Дамініканскай (цяпер – вул. Савецкая, 23), на кватэры ў Э. Заблоцкага або І. Мілевіча (дом Фукса насупраць мужчынскай гімназіі), у маёнтку Станіслава Солтана па пытанні адшукання грошай на набыццё і выраб зброі, боепрыпасаў, медыкаментаў, выплату жалавання паўстанцам. С. Сільвестровіч у сваіх паказаннях асобай Віленскай следчай камісіі пасведчыў, што ў пачатку сакавіка сабраліся ўсе ў гасцініцы С. Ромера, дзе атрымалі намінацыі (дакумент аб назначэнні). Прысутнічалі вяводскі начальнік Э. Заблоцкі, Слонімскі павятовы Ф. Юндзіл, Станіслаў Солтан, акруговыя начальнікі, рэферэнты. Як і прапанавала Вільня, устанавілі 10-працэнтны грашовы збор з чыстага прыбытку ад усіх памешчыкаў уезда (за 3 мінулыя месяцы). Спісы асоб для збору грошай тут жа ўручылі акруговым начальнікам. Было ўстаноўлена, што сабраныя грошы акруговыя здаюць С. Ромеру і паведамляюць аб гэтым С. Сільвестровічу, а апошні перадаваў іх ваяводскаму касіру Людаміру Абрэмскаму для адсылкі ў Вільню. Усё рабілася для таго, каб грошы ішлі на прызначаную справу – на патрэбы паўстанцаў.



Выраб зброі паўстанцамі

*С. Ромер у Гродзенскай следчай камісіі катэгарычна адмаўляў свой удзел у падпольнай арганізацыі, заяўляў, што ніякім касірам не быў, а толькі меў цяжкі жалезны сейф, прывезены з Германіі. Маўляў, у такі небяспечны час ён прымаў ад некаторых знаёмых памешчыкаў грошы для захавання, ды і самому ён патрэбны, што ў Гродне пабудаваў і здае ў арэнду два дамы, трымае гасцініцу, валодае маёнткам у Губінцы. Царскія следчыя не дазволілі яму абвесці сябе вакол пальца і лёгка яго расшыфравалі. Хаця ён і не прызнаўся ва антыўрадавых дзеяннях, але быў пакараны ссылкай у Сібір.*

Сур’ёзную цяжкасць для падпольнай арганізацыі і паўстанцкіх атрадаў уяўляла сувязь паміж імі: ад Часовага правінцыяльнага ўрада да акруговага начальніка зносіны адбываліся часта па пошце, але гэта быў небяспечны шлях. Выкарыстоўвалася становішча Гродзенскага павятовага начальніка С. Сільвестровіча ў якасці перадатачнага звяна ў зносінах ваяводскага начальніка з Ваўкавыскім і Слонімскім павятовымі. Для гэтага была наладжана паштовая сувязь Гродна з Ваўкавыскам і Слонімам праз Уладыс-

лава Спірыдовіча (уладальнік маёнтка Навасёлкі) і Люцыяна Завістоўскага (маёнтак Алекшыцы), якія, атрымаўшы пісьмовую інфармацыю, дастаўлялі яе па прызначэнню. Акрамя таго С. Сільвестровіч купіў экіпаж з парай коней для тэрміновай перавозкі пошты ў названыя паветы і сваім акруговым. Гэтай справай было даручана займацца адстаўному падпаручніку Юльяну Тржацяку (Трацяку), шляхціцу з в. Шымакі каля Адэльска, які жыў у Гродне. З Беластокам, дзе часова знаходзіўся ваяводскі камісар К. Каліноўскі, зносіны падтрымваліся праз аканома маёнтка Каўбасін (каля Гродна) Баляслава Лапінскага і праз Саколку. Акрамя таго паўстанцам ахвотна дапамагалі ў сувязі, у забеспячэнні інфармацыяй ляснікі, аднадворцы, зямельная і беззямельная шляхта. У падпольнай арганізацыі, у паўстанцкіх атрадаў існавала, аднак, шмат цяжкасцяў у падтрымцы сувязей паміж сабой.

Гэтага нельга сказаць аб магчымасцях зносін паміж урадавымі ўстановамі і карнымі атрадамі. Да іх паслуг ужо працавала чыгунка ад Пецярбурга і Вільні да Варшавы праз Гродна, дзейнічала тэлеграфная сувязь. Як сведчаць архіўныя матэрыялы, паўстанцы не вялі барацьбы па разбурэнню тэлеграфнай сувязі, у чым была важная перавага расійскіх карнікаў.

# Атмасфера ў Гродне накаляецца

Весткі аб падзеях 1861 – 63 г.г. у Варшаве хутка даходзілі да Гродна і выклікалі хвалі салідарнасці ва ўсіх слаях грамадства. У горадзе і ваколіцах распаўсюджваліся "возмутительные листки" пад назвамі "Гутарка двух соседов", "Воззвание русским войскам в Польше", «Мужыцкая праўда». Найбольш бурна рэагавала вучнёўская моладзь: навучэнцы мужчынскай гімназіі ў пратэстах даходзілі да зрыву ўрокаў, незадаволенасць выказвалі аптэкарскія вучні. Настаўнік польскай мовы гімназіі Станіслаў Навакоўскі агітаваў вучняў далучацца да паўстання і накіроўвацца ў паўстанцкія атрады.

У казённых установах, сустракаючыся, чыноўнікі абмяркоўвалі падзеі, перадавалі і захоўвалі паперы рэвалюцыйнага зместу. Пра такія факты ўспамінаў на допытах касір рэвалюцыйнай арганізацыіі Людамір Абрэмскі. Варшаўскія падзеі былі галоўнай тэмай абмеркавання на прыватных вечарах, сустрэчах у тракцірах і шынках, знаходзілі выражэнне ў пратэстах на бытавым узроўні. Нават да генерал-губернатара Назімава ў Вільню дайшла інфармацыя, што " дворяне и помещики кроме траурного одеяния начали носить ещё ... костюмы отличительные, как-то: конфедератки, гарибальдийские шляпы, польские чемарки, жупаны серые крестьян, жупаны с поясами из лакированной кожи и др. ..."

Улады пільна адсочвалі пратэстныя паводзіны жыхароў і прымалі меры для іх падаўлення і недапушчэння. Таму 9 жніўня 1861 г. міністр унутраных спраў праінфармаваў губернатара Шпеера, што "по случаю возникших в последнее время в некоторых Западных губерніях в разных видах политических манифестаций" Его Императорским Величеством утверждено создание временных полицейских судов. Прапанавана гэтым "судам вменить в обязанность не затрудняться излишними формальностями па сему предмету, так как доказательства одежды служат достаточным фактом обвинения." Прадугледжана такія суды ўтрымваць за кошт штрафаў з асуджаных. І паліцэйскія суды запрацавалі.



Чыгуначная станцыя Гродна, на якую здзейснены напад 2 сакавіка 1863 г.

У горадзе да канца 1861 г. да судовай адказнасці былі прыцягнуты 15 чалавек, 4 з іх пакараны штрафам і арыштам, а 3 штрафам.

Аднак прынятыя меры па ўспакаенню грамадства не давалі вынікаў, і генерал-губернатар 14 студзеня 1963г. увёў у Гродзенскім, Сакольскім, Бельскім і Брэсцкім уездах ваеннае становішча, адмененае 3 месяцы назад. Калі 22 студзеня 1863 г. у Варшаве ўспыхнула паўстанне, "в связи с появлением злоумышленных людей" ваеннае становішча было ўведзена ва ўсёй губерні. У горадзе, на чыгуначным вакзале, у мястэчках Азёры, Каменка, Крынкі былі размешчаны вайсковыя падраздзяленні Калужскага пяхотнага палка, а ў горадзе і артылерыйскія батарэі.

Але і гэтыя меры не папярэдзілі выбух.

Трывожную ноч правялі гарадзенцы з суботы 2 сакавіка на нядзелю 3 сакавіка 1863 года. Суботнім вечарам вялікая група ( ад 70 да 100 чалавек ) жыхароў горада (вучнёўская моладзь, рабочыя, чыноўнікі) здзейсніла ўзброены напад на чыгуначную станцыю з мэтай захапіць цягнік і рушыць у Парэчча для далучэння да паўстанцаў. Вось як па гарачых слядах у той жа вечар гродзенскі губернатар фон Галер дакладаў тэлеграмай генерал-губернатару У. Назімаву ў Вільню:

“В 10 часов вечера сделано было сегодня нападение на Гродненскую станцию железной дороги. Мятежники, пользуясь необыкновенной темнотою ночи, при содействии начальника станции поляка Кульчицкого и с ним вместе, захватив поезд, уехали в Поречье. Ранено два чиновника ... Захвачено также два ... По словам одного из арестованных, мятежники, собираясь около Поречья, намерены сделать на Гродно сильное нападение.”

*Леон Кульчыцкі паходзіў з шляхты Марыямпальскага ўезда Аўгустоўскай губ., служыў на чыгунцы і, уліўшыся ў паўстанцкі атрад, удзельнічаў у баях з расійскімі войскамі, памёр ад атрыманых ран летам 1863 г.*

На працягу тыдня жандарска-паліцэйскія службы грунтоўна даследавалі здарэнне, і 9 сакавіка губернатар праінфармаваў міністра ўнутраных спраў і Вільню. Гэты даклад дае і нам магчымасць прасачыць усе драматычныя перыпетыі нападу. ( Прашу прабачыць за доўгае цытаванне):

“В 8 часов по полудни, при совершенной темноте ночи, начали собираться в находящийся вблизи станции деревянный сарай, где прежде ставились вагоны, подготовленные к бегству для участия в шайках мятежников люди разного звания. Там роздано было им оружие, состоявшее из ружей, пистолетов, кинжалов, топоров, не бывших в употреблении, и кос.

Затем они перешли к товарным крытым вагонам и платформам и заняли на них места. Когда ротный командир Калужского пехотного Его Величества короля Прусского полка штабс-капитан Макаров отдал приказание о выводе наружных часовых, то начальник станции Кульчицкий заметил ещё, что рано и что можно будет сделать это пред прибытием экстренного поезда с Софийским батальоном, о чём дано будет с последней перед Гродно станции, сам вышел к вагонам и поместился на локомотиве вместе с другими участниками. Машина эта как дежурная была в готовности. Первый поданный с неё свисток заставил машиниста Винтера выйти со станции, чтобы посмотреть,




Гродзенская мужчынская гімназія, навучэнцы якой актыўна падтрымалі паўстанне і напад на чыгуначную станцыю

кто распорядился вверенным ему локомотивом. В то самое мгновение, как [он] подошёл к машине, он окружён был тремя неизвестными людьми, из коих два по обеим сторонам с винтовками, а третий, приставив пистолет ко лбу, под угрозою смерти, требовали, чтобы он сел на машину и вёз их туда, куда будет приказано. Не смея противиться, машинист исполнил требование, но прежде ответа крикнул своему помощнику Якимовичу: "Вагон!" Последний, как оказалось, понял значение сего сигнала, ибо, пользуясь темнотою ночи, отцепил локомотив от вагонов... Машинист, дав ход одному локомотиву, сам успел соскочить с него.

Между тем перед самым движением машины кочегар, подошедши к вагонам, заметил, что в них сидели какие-то люди, а оружие стояло около, готовились последовать примеру, дал знать о происходившем ротному командиру. Последний с патрулём выбежал к вагонам и на троекратный отклик: "Кто тут? Что за люди?" – вместо ответа просвистели мимо него две пули и он получил удар большим железным винтом в левое плечо без вредных последствий на здоровье. Затем шайка, сделав залп из имевшегося у неё оружия, бросилась бежать, а нижние чины ответили

выстрелами ... Темнота ночи лишила возможности преследовать бежавших, так точно как и им возвратиться в свои квартиры...”

Познім вечарам на чыгуначную станцыю прыбыў і губернатар і распарадзіўся ўзмацніць патруляванне горада, пошук і арышт мяцежнікаў, якіх на працягу сутак схапілі каля 70 чалавек. Сярод затрыманых у спісах было 16 гімназістаў, 1 выключаны з гімназіі, 1 студэнт, 5 аптэкарскіх вучняў, 15 чыноўнікаў, 8 дваран, 2 рабочыя чыгункі, 8 сялян, мяшчане. На станцыі і вакол вакзала, па інфармацыі губернатара, знойдзена кінутая зброя :13 розных ружжаў, 5 пісталетаў, 2 касы, 3 шаблі, 7 сякер, адзін пуд 32 фунты пораху, 10 фунтаў свінцу, 5 фунтаў пістонаў, 10 тапаграфічных карт, папера, медыкаменты, рознае адзенне.

Следства аб падзеях 2 сакавіка ў Гродне вяла Гродзенская следчая камісія па палітычных справах пры Калужскім пяхотным палку. У ходзе разбіральніцтва выявілася, што “мятежники были разделены на 3 партии и собирались одна у вагонов на станции, другая – у Бригидского моста, а третья – в деревне Каплица”. Аб гэтым рапартаваў губернатару праз чатыры дні гродзенскі паліцмайстар і паведамляў, што да “дела” датычны і чыноўнік Э. Заблоцкі, які днём 2 сакавіка прагульваўся па бульвары з Самулінскім і Кульчыцкім.

Следчая камісія закончыла разбор справы 29 мая 1863 года, і ўсе матэрыялы былі накіраваны ў Вільню генерал-губернатару М. Мураўёву для прыняцця канчатковага рашэння. 17 верасня 1863 г. ён падпісаў канфірмацыю, згодна з якой 25 чалавек былі пакараны і высланы ў Сібір, 38 з-за недастатковасці доказаў пакінуты на радзіме, але ўсе ўзяты пад нагляд паліцыі, некаторыя зволнены з пасадаў.

(Поўны іх спіс змешчаны ў III частцы агульнага спісу ўдзельнікаў паўстання).






Будынак Гродзенскага чыгуначнага вакзала і ўсталяваны на ім мемарыяльны знак у гонар паўстанцаў і падзеі 2 сакавіка 1863 г.

# Баявыя дзеянні

Праз дзесяць дзён пасля выступлення Варшавы 1 лютага 1863 г. Літоўскі правінцыяльны камітэт заклікаў да паўстання ў Беларусі і Літве (гл. дадатак № 1,2). Баявыя дзеянні паўстанцаў планаваліся Гродзенскім ваяводскім ваенным начальнікам Ануфрыем Духінскім пачаць у лютым 1863 г., але да гэтага не ўсе паветы падрыхтаваліся. У лютым 1863 г. на Гродзеншчыне пачалі дзейнічаць першыя паўстанцкія атрады. У канцы лютага на тэрыторыі Гродзенскага павета ў Рускай пушчы каля Берштаў і Парэчча з'яўляюцца аддзелы з атрада Людвіка Нарбута з Лідскага павета. І многія жыхары горада і павета маладога і сярэдняга ўзросту пачалі рыхтавацца да ўступлення ў яго.

Аб з'яўленні атрада Л. Нарбута недалёка ад Парэчча паведамляў гродзенскі губернатар фон Галер у Беласток камандзіру 2-й дывізіі генералу З. Манюкіну 31 сакавіка:

"Сегодня в 6 утра было дело с шайкою Нарбута около деревни Дубичи за станцией Поречье. Там действовала гвардия...". Але поспехаў, відаць, не мела, таму што тут жа паведамляў генерал-губернатару ў Вільню: " Неизвестно, куда после того шайка направилась...". Нягледзячы на баі з карнымі камандамі атрад Л. Нарбута працягваў знаходзіцца ў Гродзенскай (Рускай) пушчы, перамяшчаючыся на поўнач уезда. Да яго далучаліся ўсё новыя і новыя жыхары ўезда. Як прызнаваўся пазней Міхаіл Эйсмант, былы рабочы Парэцкай чыгуначнай станцыі, толькі ў ноч на 24 красавіка збеглі да паўстанцаў з Парэчча 13 чалавек. Схоплены карнікамі Восіп Высоцкі, былы нагладчык вартаўнікоў на чыгунцы ў раёне м. Парэчча, прызнаваўся следчай камісіі, што ён 29 красавіка ў 4-х вярстах ад вёскі Салацце паступіў у атрад Л. Нарбута, які стаяў на хутары Анэлькі. Разам з ім пайшлі ў атрад яго брат Уладыслаў, былы наглядчык работ пры станцыі Ільцэвіч, рабочыя Восіп і Іван Клімовічы, Іван Саўка і інш. Пасля бою з царскімі войскамі атрад рушыў праз Нёман у Свентаянск, дзе злучыўся з атрадам Віктара Гласкі, які і ўзначаліў яго.



# KOMITET CENTRALNY

JAKO TYMCZASOWY

# Rząd Narodowy.

Nikczemny rząd najezdniczy rozwścieklony oporem męczonéj przezeń ofiary, postanowił zadać jéj cios stanowczy—porwać kilkadziesiąt tysięcy najdzielniejszych, najgorliwszych jéj obrońców, oblec w nienawistny mundur moskiewski i pognać tysiące mil na wieczną nędzę i zatracenie. Polska nie chce, nie może poddać się bezopornie temu sromotnemu gwałtowi pod karą hańby przed potomnością powinna stawić energiczny opór. Zastępy młodzieży walecznéj, młodzieży poświęconéj, ożywione gorącą miłością Ojczyzny, niezachwianą wiarą w sprawiedliwość i pomoc Boga, poprzysięgły zrzucić przeklęte jarzmo lub zginąć. Za nią więc Narodzie Polski, za nią! Po strasznéj hańbie niewoli, po niepojętych męczarniach ucisku, Centralny Narodowy Komitet obecnie jedyny, legalny Rząd Twój Narodowy, wzywa Cię na pole walki już ostatniéj, na pole chwały i zwycięztwa, które Ci da i przez imię Boga na Niebie dać przysięga, bo wie, że Ty, który wczoraj byłeś pokutnikiem i mścicielem, jutro musisz być i będziesz bohaterem i olbrzymem. Tak, Ty wolność Twoją, niepodległość Twoją, zdobędziesz wielkością takiego męztwa, świętością takich ofiar, jakich Lud żaden nie zapisał jeszcze na dziejowych kartach swoich. Powstającej Ojczyznie Twojéj dasz bez żalu, słabości i wahania wszystką krew, życie i mienie, jakich od Ciebie zapotrzebuje. W zamian K. C. N. przyrzeka Ci, że siły dzielności Twéj nie zmarnieją, poświęcenia nie będą stracone, bo ster, który ujmuje, silną dzierżyć będzie ręką. Złamie wszystkie przeszkody, roztrąci wszelkie zapory, a każdą nieprzychylność dla świętéj sprawy, nawet brak gorliwości, ścigać i karać będzie przed surowym, choć sprawiedliwym trybunałem obrażonéj Ojczyzny.
W pierwszym zaraz dniu jawnego wystąpienia, w pierwszéj chwili rozpoczęcia świętéj walki, K. C. N. ogłasza wszystkich synów Polski, bez różnicy wiary i rodu, pochodzenia i stanu, wolnemi i równemi Obywatelami kraju. Ziemia, którą Lud rolniczy posiadał dotąd na prawach czynszu lub pańszczyzny, staje się od téj chwili bezwarunkową jego własnością, dziedzictwem wieczystém. Właściciele poszkodowani, wynagrodzeni będą z ogólnych funduszów Państwa. Wszyscy zaś komornicy i wyrobnicy, wstępujący w szeregi obrońców kraju, lub w razie zaszczytnéj śmierci na polu chwały, rodziny ich otrzymają z dóbr Narodowych dział obronionéj od wrogów ziemi. Do broni więc, Narodzie Polski, Litwy i Rusi, do broni! bo godzina wspólnego wyzwolenia już wybiła, stary miecz nasz wydobyty, święty sztandar Orła, Pogoni i Archanioła rozwinięty.

A teraz odzywamy się do Ciebie Narodzie Moskiewski: tradycyjném hasłem naszém jest wolność i braterstwo Ludów, dla tego téż przebaczamy Ci nawet mord naszéj Ojczyzny, nawet krew Pragi i Oszmiany, gwałty ulic Warszawy i tortury lochów Cytadelli. Przebaczamy Ci, bo i Ty jesteś nędzny i mordowany, smutny i umęczony, trupy dzieci Twoich kołyszą się na szubienicach carskich, prorocy Twoi marzną na śniegach Sybiru. Ale jeżeli w téj stanowczéj godzinie nie uczujesz w sobie zgryzoty za przeszłość, świętszych pragnień dla przyszłości, jeżeli w zapasach z nami dasz poparcie tyranowi, który zabija nas a depcze po Tobie—biada Ci! bo w obliczu Boga i świata całego, przekleniemy Cię na hańbę wiecznego poddaństwa i mękę wiecznéj niewoli, i wyzwiemy na straszny bój zagłady, bój ostatni Europejskiéj Cywilizacyi z dzikiém barbarzyństwem Azyi.

Warszawa, dnia 22 Stycznia 1863 r.

Za zgodność z oryginałem ręczy Litewski Komitet, jako Prowincyonalny Rząd tymczasowy na Litwie i Białorusi.





*Maksymiljan Gierymski.* PIKIETA POWSTAŃCZA Z 1863 R.

Маніфест Часовага Народнага ўрада ў Варшаве з заклікам да паўстання 22 студзеня 1863 г. (пераклад глядзі на стар.)






Людвіг Нарбут, камандзір атрада, які дзейнічаў у Лідскім і Гродзенскім уездзе і Літве, загінуў 5 мая 1863 г. каля в. Дубічы;
Памятны знак у гонар Людвіка Нарбута, устаноўлены ў г. Ліда ў 1938 г.

Неўзабавае атрад накіраваўся да вёскі Кадыш, дзе ў баі з карнікамі пацярпеў паражэнне.

У пачатку сакавіка 1863 г. паўстанцкія атрады з’яўляюцца на левабярэжнай частцы Гродзеншчыны – у Сапоцкінскай зоне, пранікаючы з Царства Польскага, хаця расійскія ўлады прымалі меры для іх недапушчэння. Пра гэта паведамляў тэлеграмай губернатар фон Галер міністру ўнутраных спраў 3 сакавіка 1863 г. у С.-Пецярбург:

‟ По вновь полученным сведениям через лазутчиков, большие шайки мятежников собираются в Царстве Польском около Липска с намерением, как говорят, идти на Гродно. Навстречу войскам, посланным Августовским губернатором, послал ... колонну по железной дороге до Поречья, а оттуда переходом в 10 вёрст к Ротнице для огорожения берегов Немана и препятствия к переправе. В Гродно спокойно.” У той жа дзень сваю дэпешу генерал-губернатару У. Назімаву ў Вільню ён дапоўніў інфармацыяй аб сілах воінскай каманды: “Посланная сего числа подвижная колонна к Ротнице



Касінер і стралок у часы паўстання

по железной дороге из Поречья, а оттуда переходом в 10 вёрст состоит из Калужского батальона, дивизиона артиллерии, эскадрона уланов и 20 казаков под командой подполковника Мантейфеля". Праз дзень губернатар рапартаваў у Вільню: "... Подполковник Мантейфель сообщил, что мятежники устраивают плоты около Друзгеник для переправы. Полковник Вернер ... за Неманом."

Мясцовыя ўлады апасаліся захопу паўстанцамі Гродна і іншых гарадоў губерні. Губернатар фон Галер з трывогай паведамляў 5 сакавіка ў Вільню, што "партия мятежников в семи верстах от Гродно, я выступил с отрядом остановить их", што "конные разъезды одной [шайки] лазутчик сам видел на 5 версте от Гродно, за Неманом. Другая, говорят, идёт по Скидельскому тракту... Намерение напасть на Гродно было с вчерашнего дня... На Скидельский тракт послан разъезд улан, а за Неман небольшой отряд".

Невялікія групы і атрады, аб якіх дакладваў губернатар, маглі быць з атрадаў А. Духінскага або Вавера, якія ў сакавіку перамясціліся ў Аўгустоўскую пушчу і канцэнтраваліся паміж Ліпскам і Сапоцкінам. Сюды, у паўстанцкія атрады, збіралася навакольная шляхта, мяшчане, вучнёўская моладзь, сяляне. Сюды ад навакольных памешчыкаў падвозілася харчаванне, адзенне, іншая дапамога. Лазутчыкі інфармавалі губернатара: "Прошлой недели Дзеконский из Бальи послал бочку водки и живого вола, а также 12 булок хлеба мятежникам. Извозчиками были Иозеф Сецко с сыном из Бальи, при них был и мятежник. Ехали на Липск, потом через лес на Ясеново. Там



Бой паўстанцаў з расійскімі карнікамі

они ...видели множество мятежников, расположенных на протяжении версты и их оружие: ружья, косы и проч.” Другі інфарматар дадаваў: “... около Липска и Голынки большие скопища мятежников... Слепой Валлович [граф, уладальнік Свяцка – І.Б.] сам ездил к ним и доставил две брички с провизиею. Помещики со всех сторон день и ночь посылают продукты”.

Маючы такую інфармацыю, расійскае камандаванне таксама сцягвала свае войскі, каб не дапусціць аб’яднання паўстанцаў з Аўгустоўскай і Гродзенскай пушчаў. У пачатку красавіка ў раён Ліпска – Галынкі былі пасланы тры роты Лібаўскага палка, эскадрон уланаў і 10 казакаў пад камандаваннем палкоўніка Пенхяржэўскага. Але палкоўнік не быў упэўнены ў сіле сваёй каманды, тры дні заставаўся ў Конюхах і прасіў падмацавання з пяхоты і артылерыі. Адсюль ён дакладваў 4 красавіка: “ В Липск не пошли. Но говорят, что около Липска есть большие шайки, туда посылают провизию и собирается с разных сторон шляхта”. Толькі атрымаўшы падмацаванне, воінская каманда палк. Пенхяржэўскага выступіла з Галынкі супраць паўстанцаў. Паблізу вёскі Ястржэмбка (цяпер у Польшчы) адбыўся жорсткі бой рэгулярных войск з паўстанцамі, якія страцілі

звыш 24 чалавекі забітымі і параненымі, 2 палоннымі і адступілі ў глыб пушчы. Адступілі, але не былі разбіты, аб чым дакладваў 14 красавіка губернатар у Вільню, што ў бок Сапоцкіна з поўначы рухаецца атрад Камінскага. Ваенны начальнік г. Сувалкі генерал Менгдэн таксама інфармаваў губернатара фон Галера аб атрадзе Камінскага і прасіў паслаць войскі.

Жорсткія баі паўстанцкіх атрадаў Духінскага і Вавера з рэгулярнымі войскамі адбываліся пазней на мяжы Гродзенскага ўезда, Царства Польскага і сучаснай Літвы. У канцэнтрацыі паўстанцкіх сілаў на гэтай тэрыторыі бачыла вялікую небяспеку камандаванне Віленскай ваеннай акругі і пасылала воінскія каманды з Беластока, Сувалак, Сейнаў, Аўгустова, каб акружыць і знішчыць гэтыя атрады. 20 мая атрад Вавера знаходзіўся ў раёне вёскі Грушкі на поўдзень ад Аўгустоўскага канала, дзеючыя сумесна з ім атрады Брандта і Віктара Гласкі – на другім беразе канала ў раёне Ігоркі па абодва бакі дарогі з Копцева (суч. Капчамяйціс) у Кадыш. Прывядзем апісанне бою гэтых трох атрадаў з царскімі карнікамі па кнізе Станіслава Зеліньскага "Bitwy i potyczki powstania styczniowego", ласкава дадзенага Ю. Пажэцкім:

"Пасля паведамлення аб руху непрыяцеля (капітана Кулакова з Сейнаў з 2 ротамі пяхоты і гусарамі – І.Б.) Брандт і Гласка аб'ядналіся і прасунуліся да Кадыша з мэтай недапушчэння захопу мастоў каля в. Чарток на канале і пад Кадышом на Чорнай Ганчы. Тым часам сейненская калона ў ноч на 21 мая, пакінуўшы Падліпкі, рушыла на поўдзень і заняла Кадыш. Брандт і Гласка, вырашыўшы атакаваць Кулакова ў Кадышы, занялі абарону пры дарозе з Копцева да Сапоцкіна: атрад Гласкі заняў правы фланг, размясціўшы стралкоў па краю леса; Брандт з сваімі стралкамі кантраляваў шашу з левага боку; касінеры абодвух атрадаў, пастаўленыя паміж узгоркаў, складалі цэнтр.

Раз'езд з трох кавалерыстаў, пасланы Гласкам, атакаваў перадавую ахову маскавітаў, і зразу пачаўся бой на ўсім правым крыле, дзе маскалі кінулі гусараў, жадаючы

выцясніць стралкоў Гласкі з занятых пазіцый. Двухразовую атаку аплацілі гусары стратай афіцэра і некалькіх радавых і адступілі, але адначасова ланцуг стралкоў, ударыўшы па цэнтру пазіцый паўстанцаў, прымусіў касінераў адступіць да левага крыла, адсякаючы 18 стралкоў пад камандаваннем афіцэра Іосіфа Гласкі. Асноўныя сілы атрадаў вымушаны былі адступіць да Падліпак, пакідаючы адсечаных на волю лёсу. Невялікая жменька іх пасля гадзіннага бою здолела прабіцца да прыбываючага на дапамогу Вавера, пакінуўшы на полі бою 7 забітых: Гласку, Пронашку, Буткевіча, Верпахоўскага і 3 іншых; агульныя страты Брандта і В. Гласкі склалі 14 забітых і таксама 2 узятых у палон (Казлоўскага, напалеонаўскага салдата, і другога – не вядомага па прозвішчы).

Тым часам Вавер, апавешчаны аб намерах Брандта і Гласкі перакрыць дарогу непрыяцелю, фарсіраваным маршам перайшоў канал і Чорную Ганчу і затрымаўся для адпачынку жаўнераў пасля 18-гадзіннага пераходу. Атакаваны ў 7 гадз. раніцы ротай пяхоты і атрадам казакаў, ён пасля кароткай стычкі прымусіў іх адступіць да Кадыша, падтрымваючы адыходзячых на левае крыло Брандта і Гласку, якія змагаюцца з маскалямі, і такім спосабам вызваляючы іх ад праследу, а потым рушыў на Кодзі.”

І да сёння ў лесе каля вёскі Кадыш захоўваюцца магілы загінулых у тых баях паўстанцаў, імёнаў якіх заставаліся невядомымі.

У сярэдзіне красавіка пачаў дзейнічаць паўстанцкі атрад у паўднёва-усходняй і ўсходняй частцы ўезда, на чале якога стаяў Аляксандр Лянкевіч (псеўданім Ландэр, Ляндэр). Атрад фарміраваўся з навакольнай шляхты, аднадворцаў, мяшчан, дваровых людзей з навакольных вёсак і шляхецкіх ваколіц, памешчыцкіх маёнткаў Абуховічы, Талочкі, Юравічы, Эйсманты Надтабольскія, Шчукі, Вільянова, Задуб'е, Кашубінцы і мн. інш. Гродзенскі земскі спраўнік рапартаваў губернатару 21 красавіка, што 19 красавіка пайшлі ў інсургенты жыхары ваколіцы Абуховічы Аляксандр Абуховіч, Іван Радзіваноўскі, Фелікс Абуховіч, Кандрат Абуховіч, а з ваколіцы Талочкі далучыліся



Выступленне паўстанцаў з Гродна.

да “мяцежніцкай шайкі” чацвёра дваран, 6 аднадворцаў, 6 сялян. Сярод іх быў і сын уладальніка маёнтка Талочкі Канеўскі Уладыслаў, беглы юнкер Вялікалуцкага палка, які ў атрадзе стаў ад’ютантам А. Лянкевіча. Аб дзейнасці А. Лянкевіча губернская следчая камісія дакладала генерал-губернатару Мураўёву: “ В апреле 1863 г. Ленкевич начал формировать свою шайку из всех сословий, забирая в оную людей частью силой, а более обманом, под угрозой смерти... В апреле Ленкевич был в имениях помещиков Гродненского уезда Толочки (Б. Коневского), Вельянове (Л. Валицкого). У Коневского Ленкевич говорил речь для возбуждения к восстанию: “Вся молодёжь Царства Польского, Литвы и Малороссии вышла на поле брани против нашего неприятеля, который заграбил наше отечество и рубит нашу Божию матерь в костёлах. Будем сражаться за отечество, веру и свободу!”

Ішлі ў атрад добраахвотнікі, хаця пазней некаторыя з іх, трапіўшы ў палон, заяўлялі карнікам, што былі ўзяты прымусова. Аб непрымусовым знаходжанні ў паўстанцкіх атрадах сведчыць і тое, што яны маглі збегчы адтуль, але не рабілі гэтага, пакуль не былі захоплены ў палон. Як бы царскія ўлады ні гаварылі аб прымусе пры фарміраванні атрадаў, але такім шляхам на працягу трох дзён ён не

вырас бы да 200 чалавек, з якімі Лянкевіч размясціўся ў лесе за Азёрамі.

Дрэнна ўзброеныя, кепска забяспечаныя прадуктамі, фуражом, транспартам, слаба арганізаваныя паўстанцы шукаюць зброю і неабходныя сродкі ў лясніцтвах, валасных управах, іншых дзяржаўных установах, у памешчыцкіх маёнтках. Першай баявой аперацыяй толькі што арганізаванага атрада А. Лянкевіча, невялікага, узброенага толькі пяццю ружжамі, быў разгром 20 красавіка лясніцтва і валасной управы ў Азёрах. Гродзенскі земскі спраўнік даносіў, што ”появились... инсургенты до 200 человек и произвели следующие беспорядки: у лесничего...сожгли казённые бумаги, забрали казённых денег 316 руб. за продажу леса, 134 руб. на построение дома и 25 руб.30коп. остаточных с 1862г. и собственных 125 руб., ружьев стрелецких 55, 2 тесака, 2 ружья со штыками, 2 двуствольные ружья и 1 одноствольное, 2 пистолета, 1 револьвер, пороху 22 фунта и пуль за 25 фунтов...”. У фальварках Вільянова і Задуб’е графа ЛеапольдаВаліцкага мяцежнікі забралі 9 коней, 2 фургоны, “наклав на оные съестные припасы и овёс для лошадей”. Разам с паўстанцамі пайшлі 10 чалавек дваровай прыслугі і батракоў, а з саміх Азёр з імі сышло каля 20 чалавек жыхароў мястэчка. Атрад Лянкевіча хутка папаўняўся і часова размясціўся ў цяжкадаступным месцы Гродзенскай пушчы – ва ўрочышчы “Святое балота”, дзе заняўся ўмацаваннем лагера, арганізацыяй, прывядзеннем да прысягі, навучаннем, вырабам зброі. Новае папаўненне атрада прысягала ў прысутнасці яго камандзіра Аляксандра Лянкевіча. Па словах паўстанца батрака з вёскі Талочкі Міхаіла Кучынскага, да прысягі прыводзіў вікарны святар Азёрскага касцёла Янушэвіч адразу 60 чалавек новага папаўнення.

Колькасны склад атрада А. Лянкевіча, як і іншых, не быў пастаянны, хутка папаўняўся. Праз дзень тысяцкі з м. Азёры даносіў у Парэчча, што ў мястэчку знаходзіўся “з шайкой в 500 чалавек Ленкевич”. Яго шукала і праследавала воінская каманда падпалкоўніка Мантэйфеля. У раёне “Святога балота” адбыўся першы бой толькі што створанага атрада з рэгулярным войскам, у якім паўстанцы, дрэнна




Памятны знак і крыжы на магіле паўстанцаў з атрада Аляксандра Лянкевіча на Азёрскіх могілках

ўзброеныя, слаба абучаныя, былі разбіты і панеслі вялікія страты: адны загінулі ад куль ворага, другія прапалі ў топкім багністым балоце. Рэшткі атрада адступілі ў бок Парэчча і ў Ваўкавыскі павет. Падпалкоўнік Мантэйфель устрымаўся ад пераследу, баючыся загінуць у балоце, і паспяшаўся адрапартаваць “наверх”, што “шайка мятежников в 200 человек во главе с Ленкевичем разбита...”.

Мястэчка Азёры і далей з’яўлялася нейкай апорай у паўстанцаў. Усе слаі грамадства мястэчка: і ўладальнік маёнтка граф Леапольд Валіцкі, і шляхта, і дваровыя служачыя, і сяляне, і мяшчане, і святары – падтрымвалі паўстанцаў, дапамагалі і спачувалі ім. Дзясяткі жыхароў мястэчка папоўнілі атрад А. Лянкевіча, сярод іх быў і ксёндз Янушкевіч, які прыводзіў новых байцоў да прысягі. Былы ўніяцкі свяшчэннік Сцяпан Германовіч пасылаў сваіх дачок у лес з прадуктамі паўстанцам. Іх вазілі ў атрад і пляменніца Л. Валіцкга Людвіка, і дачка панскага аканома Шмігера Амелія, а сын аканома быў начальнікам невялікага атрада паўстанцаў.

Паўстанцкія камандзіры выкарыстоўвалі своеасаблівую тактыку ў час сутыкненняў з моцнай воінскай камандай:

атрад заранёў быў падзелены на невялікія групы па 20-25 чалавек і па камандзе начальніка ў час найбольшай небяспекі “знікаў”, рассейваўся, каб праз дзень-другі зноў сабрацца ў назначаным месцы. Так было пазней і з атрадам А. Лянкевіча. Ужо праз дзень земскі спраўнік рапартаваў губернатару, што “сего числа (23 апреля – І.Б.) шайка появилась в околице Котра в 4 часа ночи, 24 чалавека, побывали у дозорцы Фомы Гомулецкого,...ушли по дороге в м. Каменку”. У другім рапарце ён дапаўняе, што ў той жа дзень у 2 гадзіны па палудні ў маёнтку Чарлёна з’явілася ўзброеная шайка і ўзяла з канюшні князя Друцкага-Любецкага 5 коней са збруяй і вазамі і 2 верхавыя кані з сёдламі і рушыла па дарозе да Мількаўшчыны на Віленскі тракт. У гэты дзень лунненскі станавы прыстаў пасля абеда бачыў атрад мяцежнікаў каля вёскі Дубна, і накіроўваўся ён на Зяльвяны ў Ваўкавыскі ўезд. Частка атрада А. Лянкевіча перайшла ад Парэчча да Друскенік і пераправілася праз Нёман ў Аўгустоўскую пушчу, дзе з атрадам Вавера удзельнічала ў баях з царскімі войскамі.

Атрад А. Лянкевіча ў поўным складзе або асобнымі групамі дзейнічаў як ў Гродзенскім уездзе, так і ў суседніх– Ваўкавыскім, Слонімскім, Аўгустоўскім і на поўдні Літвы, падтрымваючы сувязі з тамашнімі атрадамі. У маі каля вёскі Мілавіды Слонімскага ўезда сабраліся асноўныя паўстанцкія сілы Гродзенскага (А. Лянкевіч), Ваўкавыскага, Слонімскага (Ф. Юндзіл) уездаў, каб аб’яднанымі сіламі даць бой расійскім карнікам. Агульнае камандаванне прыняў на сябе найбольш спрактыкаваны ў ваеннай справе падпалкоўнік царскай арміі А. Лянкевіч. У лагер пад Мілавідамі змаглі прыехаць, нягледзячы на небяспеку быць арыштаванымі па дарозе, К. Каліноўскі з Э. Заблоцкім з мэтай навядзення парадку ў арганізацыях Ваўкавыскага і Слонімскага паветаў і пашырэння паўстання. Тут Каліноўскі правёў агляд паўстанцкіх сіл. На наступны дзень, 22 мая, каля тысячы паўстанцаў, узброеных стрэльбамі, пісталетамі, косамі, паспяхова змагаліся з рэгулярнымі войскамі. Ім працістаялі пад камандай палкоўніка А. Чартова тры роты Стараінгерманландскага пяхотнага палка, сотня казакаў, артылерыя. Паўстанцы нанеслі праціўніку значныя стра-



Помнік паўстанцам, палеглым у бітве пад Мілавідамі ў 1863 г.

ты, і царскі палкоўнік запрасіў падмацавання. Паўстанцы пакінулі поле бою і сышлі ў суседнія ўезды.

Аб баявых дзеяннях паўстанцкіх атрадаў мы можам меркаваць толькі па рапартах начальнікаў воінскіх каманд, якія ваявалі з паўстанцамі, дакладах паліцэйскіх, што адсочвалі іх перамяшчэнні, прызнаннях трапіўшых ў палон паўстанцаў. Акрамя таго ў раёне захавалася шмат памятных месцаў, звязаных з баявымі дзеяннямі паўстанцаў 1863 г. Такімі з'яўляюцца калектыўныя магілы загінулых у баях паўстанцаў у лесе каля в. Кадыш, у Мінявіцкім лесе, на "Святым балоце", Канюхоўскі роў каля в. Віцькі, Коматаўская пераправа. Мінявіцкі лес – уладанне Івана Каменскага, які, будучы акруговым начальнікам, арганізаваў у сваім маёнтку ўсебаковую дапамогу паўстанцам: прадуктамі харчавання, фуражом, адзеннем, вырабам пікаў, адліўкай куль і г.д. Аб яго дзейнасці данёс уладам адзін з яго былых залежных сялян.

Коматаўская пераправа знаходзілася каля вёскі Коматава і выкарыстоўвалася паўстанцамі ў дзеяннях супроць царскіх войск. На крутым левым беразе Нёмана, насупраць Коматава, вёсачка Пескі і яе лясныя ваколіцы былі зручным прыстанішчам для паўстанцаў: тут у глыбокім і доўгім рове (Канюхоўскім) яны хавалі і падкоўвалі ў кузні сваіх коней, рыхтаваліся да баёў. Мясцовыя жыхары расказвалі, што ў гэтым месцы адбыўся крывавы бой паўстанцаў з казакамі, якія непрыкметна пераправіліся праз раку, захоўваліся магілы і курганы загінулых (Гарадзенскія запісы, вып.1, Гародня, 1993г., с. 90). Недалёка адсюль знаходзілася Панямунская каталіцкая капліца, дзе паўстанцы часам знаходзілі прытулак і падтрымку. Аб гэтым стала вядома станавому прыставу з м. Індура Смарагдаву, і ён з атрадам казакаў зрабіў налёт на капліцу. Учынены імі вобыск прывёў да таго, што ксёндз Ігнатовіч не мог болей праводзіць у ёй набажэнствы і закрыў яе.

Мясцовыя жыхары дапамагалі паўстанцам і далучаліся да іх. Аб гэтым сведчыць і факт вяртання з сібірскай ссылкі некаторых тутэйшых жыхароў. У снежні 1884 г. на аснове царскай амністыі ад 15 мая 1883 г. у вёску Жукевічы Горніцкай воласці вярнуліся з Сібіры Дамінік Іванавіч Гілюк і Якаў Восіпавіч Гасперскі, сасланыя за ўдзел у паўстанні. Толькі пакарыстацца "дараваным правам" ім не дазвалялі паліцэйскія ўлады і імкнуліся выдаліць з губерні: былым паўстанцам забаранялася пражываць у Паўночна-Заходнім краі. Вясной 1863 г. у паўстанцы пайшлі сыны ўладальнікаў невялікага маёнтка Пескі Соф'і і Вікенція Гласкаў – Іосіф і Юльян. Іосіф Гласка ўдзельнічаў у нападзе на чыгуначную станцыю Гродна 2 сакавіка 1863 г., быў арыштаваны, ваяваў у паўстанцкіх атрадах Аўгустоускага павета і загінуў у канцы мая каля Кадыша ў бітве з царскімі карнікамі. А яго брат Юльян, па сведчанні ваенна-следчай камісіі, "у 1863 г. паступіў у мяцежніцкую шайку, якая была пад начальствам Ваўра і дзейнічала ў Сувалкаўскім уездзе, але ў сувязі з хваробай ... сышоў за граніцу".

Самы дзейсны ўдзел у паўстанні прыняў спадчыннік маёнтка Жукевічы той жа Горніцкай воласці Віктар Гласка, які, не маючы ў той час 25 гадоў, у валоданне маёнткам уступіць



Помнік на магіле 43 паўстанцаў у Міневіцкім лесе

не паспеў, і ў ім гаспадарыла яго сястра. Перабраўшыся ў Царства Польскае, ён узначаліў паўстанцкі атрад у 150 – 200 чалавек і паспяхова змагаўся з расійскімі карнікамі ў маі 1863 г. пад Кадышом у Сапоцкінскай зоне, у Свентаянскіх лясах, пад Алітай, у Аўгустоўскім і Сейненскім уездах. Аб дзейнасці яго атрада і жорсткіх баях з войскамі расказвалі на допытах захопленыя ў палон паўстанцы Семяноўскі Іван з маёнтка Вільянова пад Азёрамі, Бура Іван, казённы селянін з в. Яскілевічы, Высоцкі Восіп, аднадворац з-пад Парэчча, якія знаходзіліся ў гэтым атрадзе. Літоўскім рэвалюцыйным камітэтам яму было нададзена званне маёра. Паўстанцкі атрад В. Гласкі змагаўся "до окончательного уничтожения мятежа" ( так дакладаў губернатар у Вільню), пасля чаго яго начальнік падаўся ў эміграцыю. А калі дабравольна вярнуўся ў 1872 г. ў Варшаву, быў арыштаваны і адпраўлены ў турму. Толькі цяпер маёнтак Жукевічы быў

секвестраваны і перададзены ў дзяржаўнае кіраванне, а пасля быў прададзены расійскаму чыноўніку.

У чэрвені – ліпені паўстанцы яшчэ актыўна дзейнічалі на тэрыторыі ўезда: каля ст. Парэчча, лясных вёсак Узбераж, Глушнева, Бабіна, Баброўня, Бандары, вакол Скідзеля, Мількаўшчыны, Каменкі, у Сапоцкінскай зоне Аўгустоўскага ўезда. Яны нападалі на канторы лясніцтваў, паштовыя станцыі, валасныя управы, уступалі ў схваткі з карнымі камандамі. Паўстанцкія атрады і асобныя групы ў многіх месцах карысталіся падтрымкай мясцовых жыхароў. Аб гэтым сведчаць і прадстаўнікі ўлады. Так, палкоўнік Шчарбатскі, які служыў у штаце пры губернатары, дакладаў 5 ліпеня ў Гродзенскую следчую камісію, што ён ужо тры дні рухаецца разам з воінскай камандай па паўднёвай частцы ўезда і не можа атрымаць "от многих жителей какие бы то ни было сведения о шайках мятежников, безвыходно находящихся в этих местах уже несколько недель, и не смотря на то, что на каждом шагу встречаются здесь несомненные и свежие следы шайки, до сих пор она не могла быть открыта и истреблена, хотя для этай цели постоянно направляются отряды из Гродно, Лиды и Волковыска".

Паўстанцкія атрады і іх камандзіры набывалі баявы вопыт, удасканальвалі тактыку, праяўлялі стойкасць і вынаходлівасць. Камандзір 3-га батальёна Неўскага пяхотнага палка маёр фон Крэмер адзначаў у сваім рапарце 3 чэрвеня, што, праследуючы атрад А. Лянкевіча, ён паспрабаваў яго атакаваць каля Ваўкавыска. У лесе шайкай была арганізавана абарона. Войскі паспрабавалі пайсці ў атаку і былі адбіты, пасля адступілі, каб выманіць мяцежнікаў і разбурыць іх абарону. " Мятежники 8 раз бросались вперёд с криком "ура!", но всё же отступили в непроходимые болота... Партия эта числом до 700 человек пеших и 40 конных ... имела правильную организацию, т.е. рассчитана на роты" і мела вайсковых камандзіраў.




Карта і фрагмент карты бітваў і стычак паўстанцаў з расійскімі войскамі ў Беларусі, Літве і Украіне

# Меры па падаўленні паўстання

Супраць паўстанцаў у Гродзенскім і суседніх уездах вялі баявыя дзеянні пяхотныя палкі Калужскі, Неўскі, Пскоўскі, Велікалуцкі, Стараінгерманландскі, лейб-гвардыі Сямёнаўскі, Курляндскі полк уланаў, Данскі 33-і казацкі полк. З іх складаліся воінскія каманды, куды ўключалі 2-3 пяхотныя роты, роту уланаў, паўсотні або некалькі дзесяткаў казакаў, некалькі гарматаў. Такі склад карных камандаў дазваляў весці як абарончыя, так і наступальныя дзеянні, забяспечваць ачыстку тэрыторыі і праследаванне “мяцежнікаў” у конным страі.

Дысцыплінаванай, добра ўзброенай і абучанай камандзе рэгулярнага войска не маглі процістаяць слаба арганізаваныя, неабучаныя, не нюхаўшыя пораху сялянскія хлопцы і шляхціцы, узброеныя косамі і зрэдку ружжамі, хаця і праяўлялі гераізм і стойкасць.

У сярэдзіне 1863 г. у выніку рэпрэсій і карных вайсковых аперацый, прапагандысцкіх мер з боку ўрада адбываецца спад баявых дзеянняў паўстанцкіх атрадаў. Некаторыя з членаў Гродзенскай паўстанцкай арганізацыі былі



Царскія карнікі напагатове

арыштаваны і знаходзіліся ў турме, пад ціскам рэпрэсій частка шляхты і памешчыкаў пачала адыходзіць ад паўстання. У сувязі з арыштамі членаў віленскага Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы ў пачатку чэрвеня ў Вільню быў выкліканы К. Каліноўскі і ўведзены ў яго склад. Адначасова адбыліся змены і на Гродзеншчыне: на месца ваяводскага камісара Кастусь Каліноўскі, прыехаўшы ў Гродна, прапанаваў назначыць Эразма Заблоцкага, цывільным ваяводскім начальнікам быў намінаваны Станіслаў Сільвестровіч, павятовым начальнікам – Іван Каменскі. "Чырвоныя" у Вільні зноў ўзмацнілі свой уплыў на ход паўстання, а сваімі зваротамі да сялянства імкнуліся актывізаваць яго ўдзел у барацьбе.

Царскія ўлады ў цэнтры і на месцах, выкарыстоўваючы тактыку "бізуна і перніка", "падзяляй і ўладар", прымалі ўсе меры, каб не дапусціць пашырэння паўстання, утрымаць сялянскую масу ад выступлення. 1 сакавіка 1863 г. імператар Аляксандр II выдаў указ, згодна з якім адмяняліся ў Беларуска-Літоўскіх губернях часовыя павіннасці сялян на карысць памешчыкаў, уводзіўся абавязковы выкуп сялянскіх надзелаў, выкупныя плацяжы за атрыманую зямлю зніжаліся на 20%. Цар выступаў у якасці абаронцы сялян ад памешчыкаў і клапатлівага бацькі сваіх падданых, што паўплывала на паводзіны сялян. У канцы месяца, 31 сакавіка 1863 г., з'явіўся новы ўказ, разлічаны ўжо на ўсіх удзельнікаў паўстання: цар абяцаў памілаванне ўсім, хто да 1 мая пакіне "мяцежніцкія шайкі" і складзе зброю, з'явіцца да мясцовага начальства. Гэтыя ўказы вясной і ў пачатку лета слаба яшчэ спрацоўвалі, таму што паўстанне было на ўздыме, і дапаўняліся жарсткімі карнымі мерамі. Генерал-губернатарам у Вільню з надзвычайнымі паўнамоцтвамі быў назначаны Міхаіл Мураўёў – з тых Мураўёвых, па яго словах, "якія вешаюць, а не з тых, каго вешаюць". Ён прыняў энергічныя і бязлітасныя меры па задушэнню паўстання і заслужыў мянушку "вешальніка". Гэтыя меры датычыліся як сялян, так і шляхты, памешчыкаў.

Зразу пасля прыбыцця ў Вільню М. Мураўёў 15 мая 1863 г. накіраваў гродзенскаму губернатару графу Бобрынскаму дасканала распрацаваныя і зацверджаныя царом правілы

аб парадку накладання спагнанняў на мяцежнікаў. Усе паўстанцы: ад кіраўнікоў і асобаў, захопленых са зброяй у руках, да саўдзельнікаў – падзяляліся на 5 катэгорый. І кожнай з іх была вызначана мера пакарання: ад расстрэлу да адпраўкі ў арыштанцкія роты. Удзельнікі паўстання, захопленыя ў палон у час баявых дзеянняў, расстрэльваліся без суда на месцы. Усім сельскім жыхарам, дзяржаўным службоўцам, памешчыкам строга загадана выяўляць і неадкладна паведамляць уладам аб з'яўленні "мяцежніцкіх шаек", іх перамяшчэнні, аб асобых паўстанцах. У выпадку невыканання загада накладваліся штрафы на ўсіх жыхароў вёскі. Суровыя меры прымяняліся да памешчыкаў, якія дапамагалі паўстанцам харчаваннем, фуражом або інфармацыяй аб карніках ці не дакладвалі аб з'яўленні атрадаў у іх маёнтках.

Генерал-губернатар распарадзіўся, каб "...к помещикам, которые снабдят когда-либо продовольствием мятежнические шайки или не предупредят ближайшие команды о нахождении шаек в их имениях, был со всей строгостью применён $ 19 Инструкции для устройства военно-гражданского управления, т.е. чтобы на имения их немедленно был налагаем секвестр, а находящиеся в этих имениях хлеб, овёс и прочие запасы были обращаемы на продовольствие войск, лошади и повозки на устройство перевозных средств. Самих же помещиков и управителей их брать под стражу и предавать военному суду, а семейства их немедленно удалять из имений ".

Пры адыходзе сялян у паўстанцкія атрады ад іх адымалася зямля на карысць сельскай абшчыны, аб чым было аб'яўлена ва ўсіх валасцях з царкоўных амбонаў. У вёсках была арганізавана за грашовую плату начная варта жыхароў для папярэджання прыходу паўстанцаў і ўстаноўлена паштовая сувязь для перадачы інфармацыі аб іх з'яўленні.

У небяспечны і трывожны час асноўная сялянская маса, знаходзячыся пад наглядам паліцэйскіх чыноў, праваслаўных святароў, вагалася і чакала. Да яе з цяжкасцю даходзілі звесткі аб планах, рашэннях паўстанцкага кіраўніцтва. А мясцовыя ўлады, карыстаючыся недасведчанасцю

сялян, настройвалі іх супроць "мяцежнікаў", "польскіх паноў", сеялі рэлігійную і нацыянальную варожасць. Ад іх патрабавалася сачыць за шляхтай, аканомамі, дворняй і даносіць начальству. Улада заахвочвала сялян на пошук і вылоўліванне паўстанцаў, за што ўстанавіла шчодрую плату: за выдадзенага начальству "мяцежніка" – 3 руб., за ўзброенага – 5 руб. Свае "срэбранікі" ( па 3 руб.) атрымалі ў верасні 1863 г. жыхары вёскі Каўбасін Ф. Казукевіч, Стаповіч і Стаповіч за тое, што злавілі і перадалі карнікам аднаго паўстанца. У гэты ж час у іншым месцы ўезда, паміж Луцкаўлянамі і Ярмолічамі, часова-абавязаныя сяляне памешчыка Пуслоўскага І. Нярэль, Я. Ярусейка, А. Кабарда, І. Ярусейка вылавілі чатырох узброеных паўстанцаў і нядрэнна "зарабілі" (па 20 руб.). Такое ж адбывалася і каля Сапоцкіна і ў іншых месцах.

Пад пільным наглядам расійская ўлада трымала каталіцкую шляхту, чыноўнікаў, вучнёўскую моладзь. Распараджэннем М. Мураўёва і гродзенскага губернатара было ўведзена абмежаванне на паездкі і перамяшчэнне жыхароў у межах уезда і губерні. Ім было забаронена пакідаць месца свайго пастаяннага пражывання, а для паездкі патрэбна звяртацца па дазвол да ваеннага начальніка ўезда, указаўшы мэту паездкі, яе працягласць і месца накіравання. Забаронены былі і прыватныя грашовыя і матэрыяльныя зборы, сходы памешчыкаў і шляхты без адпаведнага дазволу. Нават на вяселлі пры выдачы замуж ці жаніцьбе дзяцей патрэбна было атрымаць дазвол для запрашэння сваякоў і суседніх памешчыкаў.

Але ўрад лічыў важнейшым эканамічны ціск на землеўладальнікаў: канфіскацыя зямельнай і нерухомай уласнасці, увядзенне штрафаў, пастойнай павіннасці, секвестр (забарона на карыстанне). Па царскім указе ад 15 сакавіка1863 г. зямельныя ўладанні ўдзельнікаў паўстання або тых, хто дапамагаў "мяцежнікам", падлягалі канфіскацыі або секвестру без судовага рашэння. Так, тэрмінова былі канфіскаваны маёнткі :

графа Леапольда Валіцкага – Азёры, 9140 дзес. зямлі,

Уладыслава Спірыдовіча – Навасёлкі, 703 дзес.,

Севярына Ромера – Губінка, 170 дзес.,

Аляксандра Абуховіча – Мігова, 480 дзес.,

Рудольфа Мантовіча – Астапкоўшчына, 141 дзес.,

Пятра Пакубяты – Заблаць і Русота 393 дзес.,

Канстанціна Сапоцькі – Ласосна Сакольскага у. 294 дзес.,

хата ў Антона Качынскага, жыхара м. Азёры,

сядзіба і зямля (2,7 дзес.) Паўла Канстанціновіча ў ваколіцы Абуховічы.

Аб’яўлена аб канфіскацыі непадзеленых маёнткаў – тых частак, якія належалі “мяцежнікам”:

Аляксандра Лянкевіча – Панюкі (сумеснае ўладанне з сям’ёй памерлага брата Антона),

Станіслава Сільвестровіча – Гожа і Пералом (сумеснае ўладанне з братам Казімірам),

Івана Каменскага – Мінявічы (сумеснае ўладанне з сёстрамі).

# “Зачысткі”

Царская ўлада прыбегла і да спецыфічнай  меры пакарання – “зачысткі” тэрыторыі ад “мяцежных элементаў” з мэтай не толькі пакараць адных і запалохаць  іншых, але і падрыхтаваць месцы для перасялення надзейных з цэнтральнай Расіі. Гэтая мера паспяхова выкарыстоўваецца і сучаснымі расійскімі ўладамі на Каўказе. Жорсткую расправу ў ліпені 1863 г. учынілі царскія карнікі з ваколіцай Шчукі Каменскай воласці Гродзенскага ўезда. Многія жыхары Скідзельскай, Каменскай, Мастоўскай валасцей спрыялі, дапамагалі паўстанцам атрада А. Лянкевіча, уступалі ў яго шэрагі, паведамлялі яму аб знаходжанні расійскіх войскаў, каралі здраднікаў за даносы карнікам. Аб падтрымцы жыхарамі паўстанцаў дакладаў у рапарце губернатару камандзір 3-га батальёна  Неўскага пяхотнага палка маёр Крэмер, што 1, 2 і 3 ліпеня скопішча мяцежнікаў не адшукана. Па звестках, іх каля 120 чалавек з самых адчайных і добра ўзброеных, і больш тыдня яны канцэнтруюцца ў ваколіцах м. Каменка. “Несмотря на настойчивое и совокупное преследование трёх отрядов невозможно было



Maks. Gierymski. KOZACY (1863)

Казакі ў паходзе, з малюнка

отыскать означенную шайку,... мятежники пользуются как продовольствием, так равно всем необходимым для них из окрестных имений”.

Актыўнасць паўстанцкага атрада, садзеянне яму насельніцтва выклікала ў расійскіх карнікаў і ўлады лютае жаданне расправіцца як з мяцежнікамі, так з памагатымі ім, і яны шукалі для гэтага якую-небудзь падставу. І яна з’явілася. За супрацоўніцтва з карнікамі быў пакараны паўстанцамі селянін з вёскі Сарокі Іван Макарэвіч, якога яны ўжо папярэджвалі. Але тут ішла вайна, у якой гінулі яе ўдзельнікі з абодвух варагуючых бакоў, у тым ліку і іх памочнікі.

Улады выкарысталі гэты трагічны выпадак, каб расправіцца “для прыкладу другім” з шляхтай ваколіцы Шчукі, якую ўсю яны абвінавачвалі ў падтрымцы “мяцежнікаў” і расправе з селянінам Іванам Макарэвічам. Падазрэнне выпала на шляхціца Івана Шчуку, і ён быў арыштаваны і адпраўлены ў Гродна, але следства яго віны не раскрыла. Улады асабліва і не стараліся ў гэтай справе, яны рыхтавалі расправу. У Скідзель разам з следчай камісіяй накіраваўся ваенны начальнік г. Гродна з уездам палкоўнік Вернер для разгляду інфармацыі аб паводзінах шчукінскай шляхты. У ваколіцу Шчукі ён паслаў скідзельскага прыстава з сялянамі “з загадам даставіць у м. Скідзель усіх дваран названай ваколіцы”, але яны не выканалі загада: шляхта, касіўшая сенажаць, з пагрозамі збегла ў лес, а вёска пуставала, у ёй засталіся толькі 4 старыя бабкі ў апусцелых хатах.

Палкоўнік Вернер тут жа 11 ліпеня паінфармаваў губернатара графа Бобрынскага аб удзеле ўсёй шчукінскай шляхты ў мяцяжы і на наступны дзень атрымаў строгае прадпісанне:

“... предписываю Вашему Высокоблагородию самим …с ротою отправиться в Щуки и, убедившись в вчерашнем упорстве, … собрать соседних крестьян, дворян, шляхту и в присутствии отряда прочесть сие моё предписание. Сжечь всю околицу Щуки, потом уничтожить решительно все следы бывшего селения, отдать земли соседним крестьянским обществам... Я особенно настаиваю на то, чтобы

следов околицы Щуки не оставалось бы никаких... После сего составив облаву из крестьян следовало бы переловить бежавших”.

З гэтым загадам губернатара палкоўнік Вернер на наступны дзень з ротай салдат і 15 казакамі рушыў са Скідзеля ў Шчукі, куды сабраў суседніх памешчыкаў, іх прыказчыкаў, сялян з суседніх вёсак Грамовічы і Сяльвяны, старшыну Каменскай воласці. Тут ён зачытаў вылаўленым шчукінскім жыхарам прадпісанне губернатара, патрабаваў пакаяцца і выдаць “мяцежнікаў”. Але не дачакаўся пакаяння і загадаў салдатам падпаліць вёску. Калі некалькі хат рухнулі ў агні, адпусціў памешчыкаў і сялян, а сам з войскам стаў лагерам паблізу, “абклаўшы паселішча ланцугом казакаў”. А ў недалёкім лесе плакалі ад страху жанчыны і дзеці шчукінскай шляхты, назіраючы з жахам за пажарам, у якім гінуць у полымі іх родныя хаты і шматгадовыя набыткі. Неўзабаве ўсе яны былі вылаўленыя, далучаныя да сваіх сем’яў, перапісаныя і ўсе змешчаныя як злачынцы пад варту пры Калужскім пяхотным палку.

У спіс для высылкі на пастаяннае жыхарства на казённых землях у цэнтральныя і ўсходнія губерні Расіі былі ўключаны (указаны галава сям’і, яго жонка, колькасць членаў сям’і, месца высылкі):

1.Шчука Мікалай, ж. Разалія- 5 чалавек - у Арэнбургскую губерню
2.Шчука Разалія,удава 7 чалавек- Самарскую
3.Шчука Восіп, ж. Міхаліна 7 чалавек - Пермскую
4.Шчука Вікенцій,ж.Міхаліна 7 чалавек -Аланецкую
5.Шчука Восіп,ж. Саламея 5 чалавек -Ноўгарадскую
6.Шчука Сымон,ж. Антаніна 6 чалавек - Кастрамскую
7.Шчука Станіслаў, ж. Разалія 4 чалавекі -Валагодскую
8.Шчука Ігнат, ж. Вікторыя 5 чалавек - Самарскую
9. Шчука Станіслаў, ж. Антаніна 6 чалавек - Кастрамскую
10. Шчука Вінцэнт, ж. Тэафілія 8 чалавек - Саратаўскую
11. Шчука Фадзей, ж. Антаніна 6 чалавек -Тамбоўскую
12. Кузьміцкі Аляксандр, ж. Марцэля 4 чалавекі- Саратаўскую
13. Амбрусевіч Ігнат, ж. Марцыяна 2 чалавек - Арэнбургскую

14. Амбрусевіч Антон,  ж.  Ганна 10 чалавек - Пермскую
15. Шчука Мартын,ж. Францішка 3 чалавекі -  Пензенскую
16. Шчука  Ян, ж. Тэафілія 4 чалавекі -  Томскую(ён абвінавачаны ў забойстве І. Макарэвіча, знаходзіўся ў Гродзенскай турме).

Спешна закруцілася рэпрэсіўнае кола бюракратычнай машыны, і 31 ліпеня 1863 г. былі адпраўлены ў С.-Пецярбург 76 чал. жыхароў ваколіцы Шчукі, а астатніх, пасля адшукання,  высылалі пазней.

 А на месцы, у спаленай вёсцы, па загадзе баявога палкоўніка Вернера салдаты і сяляне рыліся на папялішчах, шукаючы прыхаваныя ў ямах скарбы зняволенай шляхты, у лесе і наваколлі збіралі бяздомную жывёлу. Улада хацела паказаць, што яна не толькі карае, але і клапоціцца аб сваіх несвядомых грамадзянах. І таму ўсё сабранае на папялішчах: і жывёла, і гаспадарчы інвентар, і адзенне, і зерне – было прададзена на аўкцыёне, а выручаныя грошы (1748 руб. 94 кап) перададзены ў Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў для размеркавання пароўну паміж вывезенымі сем'ямі.  Праўда, улада выкарыстала трэцюю частку гэтых грошай  для аплаты праезду высланых на новае месца жыхарства. І тут павінна панаваць справядлівасць: не можа дзяржава вазіць за свой кошт дзяржаўных злачынцаў.  Няхай яны плацяць самі!

Трэба дадаць, што адасланыя грошы доўга не маглі адшукаць некаторых гаспадароў з-за блытаніны, дапушчанай чыноўнкамі пры адпраўцы. У спіс на высылку ўключылі толькі 13 сем'яў, а не былі ўнесены туды

Шчука  Разалія  (збегла з-пад арышту з малым дзіцем),
Шчука  Ян  (знаходзіўся ў турме),
Кузьміцкі  Аляксандр  (хаця вывезлі ўсю сям'ю).

Іх маёмасць таксама была распрададзена на аўкцыёне. Адасланыя ў Міністэрства  дзяржмаёмасцяў грошы размяркоўвалі толькі праз год паміж 13 сем'ямі (згодна спіска). Але і праз два гады, у кастрычніку 1865 г., дачка Шчукі Разаліі – Марыя беспаспяхова спрабавала адшукаць у Міністэрстве, у Саратаўскай і Гродзенскай губернях грошы за адабраную маёмасць і гаспадарку яе маці, якая

памерла два гады назад па дарозе ў высылку. А Кузьміцкі Аляксандр яшчэ і ў 1874 г. шукаў у Міністэрстве ўнутраных спраў і ў Гродзенскай губерні грошы за сваю маёмасць, але грошай і станоўчага адказу ад улады не атрымаў. Для рэпрэсіўнай улады галоўным было чым хутчэй "для прыкладу іншым" жорстка расправіцца з непакорным народам, а не ўладкоўваць яго на новым месцы.

Не менш крывадушна паводзіла сябе ўлада і ў пытанні зямлі, адабранай у шчукінскай шляхты. У сваім прадпісанні палкоўніку Вернеру 12 ліпеня 1863 г. узорна пакараць жыхароў губернатар дадаваў: "... отдать земли соседним крестьянским обществам." Гэтае распараджэнне двойчы зачытаў баявы палкоўнік праваслаўным сялянам з суседніх вёсак перад падпалам вёскі Шчукі. Няхай радуюцца, што зямля каталіцкай шляхты пяройдзе ў іх рукі, радуюцца і дапамагаюць у расправе!

І вось прайшоў месяц з таго часу, як вывезены ў глыб Расіі "мяцежнікі", і гродзенскі губернатар 1 верасня звяртаецца ў Вільню да М. Мураўёва з запытам, што рабіць з адабранай зямлёй, якую навакольныя сяляне хочуць узяць у арэнду. Неўзабаве прыходзіць ад генерал-губернатара распараджэнне: канфіскаваную зямлю перадаць палаце дзяржаўных маёмасцяў " для водворения на этой земле русских хлебопашцев." І праз тры гады 170 дзесяцін зямлі ваколіцы Шчукі былі прададзены на ільготных умовах тром рускім і чатыром нямецкім сем'ям. Такая "зачыстка" праводзілася акупантамі на нашай зямлі пры падтрымцы памяркоўных абдураных паслугачоў.

Аднак "русские хлебопашцы", на якіх рабіла апору ўлада, не вельмі самі клапаціліся аб упарадкаванні атрыманых зямель, уладкаванні гаспадаркі, а патрабавалі ад улады, каб тая прымусіла навакольных сялян вывезці з лесу бярвенні для іх гаспадарчых пабудоў. Тры сям'і, што пераселены з Пскоўскай губерні, прывезлі з сабой і нездаровыя звычкі. Пра гэта дакладаў 18 мая 1866 г. у палату дзяржаўных маёмасцяў чыноўнік для асобых даручэнняў В. Шпеер: "... не могу умолчать, что русские переселенцы ежечасно замечаются в пъянстве, нисколько не заботятся

об устройстве хозяйств и из них Егор Фёдоров был мною за то арестован, а потому я внушил сельскому старшине следить за их нравственностью и настаивать, чтобы они занимались хозяйством.”

Расійскія карнікі не задаволіліся адной акцыяй – расправай з жыхарамі ваколіцы Шчукі, каб спыніць пашырэнне паўстанцкага руху. Штодня атрымоўваючы ад паліцыі інфармацыю аб уходзе жыхароў уезда ў “мяцежніцкія шайкі”, новы ваенны начальнік г. Гродна і ўезда палкоўнік лейб-гвардыі Сямёнаўскага палка Брант 31 ліпеня 1863 г. рапартаваў губернатару, што дасылае спіс шляхты, “имеющей жительство на собственной земле в околице Эйсмонтах Надтобольских, ...из числа которой бежавших 8 человек в мятежнические шайки... Околица Эйсмонтов Надтобольских заслуживает в пример прочим строгого наказания” і прапанаваў “переселить в русские губернии эти семейства”. Адчуваецца, што новаму ваеннаму начальніку не даюць спакою лаўры яго папярэдніка, палкоўніка Вернера, спаліўшага Шчукі. І закруціўся рэпрэсіўны махавік па распараджэнні генерал-губернатара і гродзенскага губернатара. У спіс неблаганадзейных занесены 22 сям’і шляхты і 2 сям’і мяшчан, а для высялення ў глыб Расіі вызначаны 8 сем’яў, моладзь з якіх пайшла ў паўстанцкі атрад. Гэта:

Чарняўскі Іван Сцяпанавіч, 69 гадоў, валодаў 17 дзес. зямлі,
Чарняўскі Адольф Іванавіч, жанаты яго сын, які жыў сумесна, 26 г., 4 дзес.,
Эйсмант Кацярына, удава, 50 г., 10,2 дзес.,
Эйсмант Мартын Іванавіч, 30 г., зямлі не меў,
Чарняўскі Сцяпан Якаўлевіч, 30 г., 10,7 дзес.,
Яблонскі Антон Міхайлавіч, 30 г., 3 дзес.,
Марцыеўскі Вікенцій, мешчанін, 60 г., зямлі не меў,
Марцыеўскі Юры В., мешчанін, яго жанаты сын, 27 г., зямлі зв. 1 морга.

По распараджэні губернатара ўсе небагатыя пабудовы і маёмасць “неблаганадзейных у палітычных адносінах“ жыхароў Эйсмантаў Надтабольскіх былі прададзены на аўкцыёне. Зямля спачатку знаходзілася ў распараджэнні палаты дзяржаўных маёмасцяў і здавалася ў арэнду. А ў

1868 г. прададзена, як таго патрабаваў царскі ўказ 1865 г., рускім па паходжанні Івану Прохараву з Чарнігаўскай губерні і адстаўному штабс-капітану Варфаламею Філарэтаву, якія пражываў у вёсцы Грандзічы.

Пакараным без следства і суда жыхарам ваколіцы Эйсманты Надтабольскія распараджэннем гродзенскага губернатара была вызначана высылка ў Самарскую губ. (сем'ям Яблонскага Антона і Чарняўскага Сцяпана) і Астраханскую губ. (астатнім 6 сямействам). І ўжо ў пачатку лістапада 1863 г. яны былі адпраўлены "па этапу ўстаноўленым для сяго парадкам" на месца прызначэння, акрамя Чарняўскага Адольфа ў сувязі з хваробай яго жонкі. Аднак не ўсе высланыя трапілі ў вызначаныя ім месцы. Замест Самарскай губерні з-за паліцэйскага самавольства тры сям'і апынуліся ў Сібіры – у Табольскай (Кацярыны Эйсмант і Антона Яблонскага) і Томскай (Івана Чарняўскага) губернях без сродкаў для існавання. Грошы за прададзеную маёмасць блукалі па Сібіры, па Самарскай і Астраханскай губернях, а тыя, каму яны прызначаліся – Чарняўскі Сцяпан, Яблонскі Антон, Эйсмант Кацярына, Чарняўскі Адольф, – і праз чатыры, і праз пяць, і нават дзевяць гадоў дамагаюцца іх ад уладаў. А яна, улада, была больш зацікаўлена ў пакаранні, а не ва ўсталяванні праўды і справядлівасці. Яна была занята, разбурыўшы "мяцежныя гнёзды", стварэннем умоваў для "водворения русских хлебопашцев".

Такія "зачысткі" па загадзе генерал-губернатара графа М. Мураўёва праведзены і Берштаўскай воласці. 5 кастрычніка 1863 г. за дзейсную дапамогу паўстанцам высланы ў Астраханскую губерню сялянскія сем'і з вёскі Шумы Сяргейчыка Івана, Гудачэўскага Казіміра, Малевіча Антона і вырашана пасяліць на іх зямлі некалькі сем'яў "русских хлебопашцев". Але ад пасялення тут рускіх сялян улада адмовілася з-за дарагавізны гэтага прадпрыемства і нізкай урадлівасці зямлі. А ў 1864 г. такі лёс напаткаў і 11 сялянскіх сем'яў з вёскі Зуброва за тое, што хавалі ад карнікаў паўстанцаў. Іх пазбавілі маёмасці і зямлі, а саміх рассялілі па Берштаўскай воласці. Праз чатыры гады сяляне прасілі іх вярнуць на ранейшае месца пражывання, але ўлады ім адмовілі.

А колькі нашых землякоў пасля кожнага грамадскага ўзрушэння прымусова выдвараліся ў малаабжытыя раёны бязмежнай Расіі, каб абуджаць іх да жыцця, ствараць багацце гэтай краіны!



A. Grottger. POCHÓD NA SYBIR

Шлях паўстанцаў у Сібір, з малюнка

# Спад паўстанцкага руху

Летам 1863 г. пагаршаюцца магчымасці дзейнасці паўстанцкіх атрадаў, і паўстанцкі рух на Гродзеншчыне скарачаецца. Ва ўмовах, калі вёскі, маёнткі, лясы і дарогі пастаянна кантраляваліся спецыяльна сфармаванымі камандамі рэгулярнага добра ўзброенага войска, праблематычна перамяшчацца вялікім слаба дысцыплінаваным атрадам паўстанцаў. Таму і віленскі Выканаўчы Аддзел, і паўстанцкія камандзіры бачылі выйсце з гэтага ў большай мабільнасці атрадаў, у новай тактыцы. У час сутычак ці баёў з карнікамі, калі паўстанцы бачылі перавагу праціўніка, яны раптоўна пакідалі пазіцыі і рассыпаліся дробнымі атрадамі ў розных накірунках, каб праз пэўны час сабрацца ў раней дамоўленым месцы. Воінскія каманды залічвалі гэта на свой рахунак і рапартавалі аб перамогах, але праз дзень-два сустракалі зноў атрад "мяцежнікаў".

Аб няўлоўнасці "мяцежнікаў" дакладваў губернатару ў пачатку ліпеня ўжо знаёмы нам маёр Крэмер, які з сваім батальёнам і з воінскай камандай падпалкоўніка Казанлі тры дні безвынікова адшуквалі ў лясах паміж Скідзелем і Мастамі "скопішча" інсургентаў: "Несмотря на настойчивое и совокупное преследование трёх отрядов невозможно было отыскать означенную шайку".

З мястэчка Парэчча ў канцы чэрвеня ад паручніка Іванова і маёра Хазбіевіча ішлі губернатару падобныя рапарты. "Сторож на 6 версте от ст. Поречье ...абъявил мне, что ночью приходили мятежники, но ничего не забрали. Тут же от него недалеко в лесу Узбережь появилась шайка человек около 200, как донёс мне стрелочник Михаил Грик...Послано 100 человек для преследования на небольшое расстояние,"- дакладаў паручнік. А праз тры гадзіны маёр Хазбіевіч дадаў: "Прибыв к стрелочнику Михаилу Грику, где застал роту Астраханского полка, собранную у лесника после имевшей [месца] стычки с мятежниками, ...которые неизвестно куда скрылись..." А ўжо ноччу сітуацыю патлумачыў генерал Плаксін: "Сего числа между д. Лушнева (канешне, Глушнева – І.Б.) и Кабылями

в лесу отряд мой встретил и взял 4 мятежников из шайкі Ландера,...которые показали, что шайка их состояла из 90 человек и разделена на малые части по 20 человек для вербовки в шайку людей. Сам предводитель  их остался в Мостовских лесах”.

Для поспеху ў барацьбе і пераследу паўстанцкіх атрадаў маскоўскія карнікі праръэджвалі лясы і рабілі роўныя прасекі ў адной-двух вярстах адна ад другой, ачышчалі іх ад карчоў, каб зрабіць прыдатнымі для перавозкі артылерыі і перамяшчэння воінскіх каманд. Вышэй названы паручнік Іваноў інфармаваў губернатара 9 чэрвеня, што ўжо 4 дні каля станцыі Парэчча пілуюць лес і робяць прасекі шырынёй у 30 сажняў.  Такія  лясныя работы праводзіліся і на поўдні Гродзенскай пушчы.

З набліжэннем  восені дробныя паўстанцкія атрады перамяшчаюцца ў больш лясістыя месцы, радзеюць  іх шэрагі: адны сыходзяць праз мяжу ў Царства Польскае, у эміграцыю; другія – выходзяць з лесу і здаюцца царскім уладам, каб праз нейкі час апынуцца ў ссылцы. У эміграцыю пайшоў і камандзір паўстанцкіх атрадаў у Гродзенскім уездзе Аляксандр Лянкевіч (Ляндар), і звесткі аб яго далейшым лёсе адсутнічаюць. Па загадзе генерал-губернатара М. Мураўёва ў лясных масівах Гродзеншчыны, каб забяспечыць “...совершенное уничтожние скрывающихся ещё по лесам мелких разбойничьих банд”, праводзілася таксама “зачыстка”: высялялі лясных стражнікаў, а іх жыллё прыводзілі  ў непрыгоднасць – разбіралі стрэхі, печы, знімалі дзверы і вокны, каб “мятежники не могли найти в них убежища”. Патрабавалася гэтак жа паступаць і зляснымі паселішчамі шляхты, аднадворцаў і іншых, што забяспечыць поўнае выкараненне мяцежніцкага духу ў краі.

Выканаўчы Аддзел у Вільні бачыў  “пастаяннае разладжанне арганізацыі і – пры нязмерным збядненні краю людзьмі, здольнымі на нацыянальную працу, – цяжкасці з узнаўленнем арганізацыйнай сеткі” (пісьмо Б. Длускаму за мяжу 4 (16) снежня 1863 г.), бачыў немагчымасць далей прадаўжаць барацьбу і разлічваў на аднаўленне паўстання вясной наступнага года пры магчымай замежнай падтрымцы.

## Наступствы

Нам застаецца выявіць наступствы нацыянальна-вызваленчага паўстання на Гродзеншчыне. Па няпоўных падліках расійскіх ваенных гісторыкаў, выкладзеных у "Виленском вестнике" (кн.VI, 1915 г.), у паўстанні ў Паўночна-Заходнім краі ўдзельнічала каля 77 тыс. чалавек; на падаўленне паўстання было накіравана 90-тысячная расійская армія (69 палкоў: 8 гвардзейскіх, 44 пяхотных, 6 кавалерыйскіх, 11 казацкіх Данскіх; яшчэ 19 часцей іншых радоў войскаў: артылерыя, памежная стража і інш.). У бітвах з расійскім войскам загінула каля 6000паўстанцаў, 733 былі паранены, захоплены ў палон 1361 чал., пакараны смерцю 128 чал.. Ад пачатку паўстання да 1 студзеня 1865 г. з Паўночна-Заходняга краю і Польшчы былі высланы ў Расію на катаргу і пасяленне каля 21 тыс. чалавек, цэлымі вёскамі сасланы больш 5 тыс жыхароў. Многія з іх так і засталіся ў тых месцах. Удзельнікі паўстання ўвасаблялі найбольш актыўную, нацыянальна свядомую частку насельніцтва, якая змагалася за волю і незалежнасць.



Рамуальд Траўгут, апошні кіраўнік Народнага ўрада

Гэты выбух народнага незадаволення быў ужо трэцім за апошнія 70 гадоў. Як папярэднія два, і гэтае паўстанне не прынесла волі і пазбаўлення ад расійскага панавання, якое "нас абдзірае і глуміць" ("Мужыцкая праўда", № 3). Але царскі ўрад вымушаны быў пайсці на пэўныя саступкі, каб не дапусціць народнага выбуху. Для жыхароў Гродзеншчыны, як і іншых частак Паўночна-Заходняга краю ( чытай: Беларусі)




Медаль “За усмирение польского мятежа 1863 – 1864”

урадам былі скарочаны выкупныя плацяжы за зямлю на 20%; адменены дзевяцігадовы часоваабавязаны стан, які прадугледжваўся Палажэннем ад 19 лютага 1861 г., і запатрабавана ў двухгадовы тэрмін канчаткова падпісаць устаўныя граматы па рэгуляванні адносін з памешчыкамі, прымаць якія раней сяляне адмаўляліся; ствараліся паверачныя камісіі для праверкі складзеных устаўных грамат, і яны атрымалі права надзяляць батракоў і беззямельных сялян надзеламі ў 3 дзесяціны з панскага поля. Адзначаныя меры ў некаторай ступені палепшылі становішча былых прыгонных, але былі прыняты царскай уладай, зразумела, не з-за клопатаў аб іх дабрабыце, а з мэтай адарваць іх ад падтрымкі паўстання. Статыстычныя звесткі аб арыштаваных за ўдзел і падтрымку паўстання сведчыць аб значным удзеле сялян у ім. Так, у лістападзе 1863 г. з 180 чалавек, якія ўтрымваліся ў Гродзенскай турме, сялян было 54 чал. (30%), у снежні 1863 г. – з 142 чалавек сялян 65 чал. (зв.45%). Але пераважаючая частка сялян, асабліва праваслаўных, падтрымвала дзеянні ўрада, была ўдзячная цару-вызваліцелю за дараваную волю, што ўсімі мерамі прапагандавалі ўлады. Таму па даручэнні генерал-губернатара М. Мураўёва ваенны начальнік Гродзенскага ўезда палкоўнік Брант аб’яўляў падзяку “за похвальные

действия и усердие” сялянскім абшчынам, якія найбольш вызначыліся ў пошуку і лоўлі паўстанцаў.

У шматэтнічным шматканфесійным краі расійская ўлада сеяла нянавісць, варажнечу, супрацьстаянне паміж мясцовым праваслаўным (рускім – па сцвярджэнню ўлады) сялянствам і мясцовай каталіцкай шляхтай (польскай – па словах улады). Мясцовыя ўлады (уезныя, валасныя) чыталі ва ўсіх сельскіх абшчынах прадпісанне генерал-губернатара, “чтобы не допускали они со стороны крамольной шляхты вероломных поступков”, сачылі за ёю, арандатарамі, аканомамі маёнткаў, аднадворцамі, лавілі іх і аддавалі ваенным начальнікам, выносілі прыгавор аб неблаганадзейнасці; землі ўсіх, хто далучыўся да “мяцежных шаек”, перадаваць сялянскім абшчынам.

Ведучы барацьбу з няскораным насельніцвам (шматлікай шляхтай, памешчыкамі, аднадворцамі, мяшчанамі і інш.), расійская ўлада імкнулася знішчыць эканамічную аснову яго незалежнасці – адабраць зямлю і іншую маёмасць і перадаць іх у рукі асобам рускага паходжання або праваслаўнай веры, дазвалялася і лютаранам. З гэтай мэтай на аснове царскага ўказа ад 5 сакавіка 1864 г. пры генерал-губернатары была ўтворана асобая “Канцелярия по водворению русских землевладельцев в Северо-Западном крае,” праз якую праходзілі ўсе аперацыі па набыцці зямель, маёнткаў, нерухомасці ў гарадах асобамі рускага паходжання і праваслаўнага веравызнання. У першую чаргу падлягалі продажу канфіскаваныя маёнткі і маёмасць удзельнікаў паўстання або падтрымаўшых яго, і належала іх прадаць на працягу двух гадоў – да 10 снежня 1867 г. У Гродзенскім уездзе былі прададзены канфіскаваныя маёнткі

1. Азёры графа Леапольда Валіцкага, 9140 дзес., за аказанне рознабаковай дапамогі паўстанцам – прададзены графу Левашову. У 1867 г. багатая бібліятэка графа Валіцкага, якая складалася з 2850 асобнікаў кніг, рукапісаў, старажытных грамат і ляжала зваленай у хляве, перададзена Віленскай вучэбнай акрузе. Сам уладальнік маёнтка высланы ў больш аддаленыя месцы Сібіры.

2. Корчыкі Уладыслава Жукоўскага, 1/10 частка з 316 дзес. – свяшчэнніку Рыгору Пранеўскаму ў 1885 г.

3. Астапкоўшчына Рудольфа Мантовіча, 141 дзес. – чыноўніку Гродзенскага губернскага праўлення Аляксандру Нікуліну.

4. Губінка Севярына Ромера, 170 дзес. і

5. Мігова Аляксандра Абуховіча 480 дзес. – жонцы генерал-лейтэнанта рускай арміі Паўла Брасэ – Кацярыне Брасэ ў 1867 г.

6. Навасёлкі Уладыслава Спірыдовіча, 703 дзес. – калежскаму саветніку Яўграфу Курлову ў 1868 г.

7. Ласосна Канстанціна Сапоцькі, 294 дзес. – калежскаму саветніку Афанасію Ліцвінаву ў 1864 г.

8. Закрэўшчына і Струпін Міхаіла Юроўскага, 328 дзес. – генерал-маёру рускай арміі Фёдару Фішару ў 1870 г.

9.Жыдомля – генерал-маёру Пятру Дзяконскаму ў 1868 г.

10. Масты – княгіні Кацярыне Урусавай ў 1868 г.

11.Дзямідкава – калежскаму саветніку Міхаілу Тафрасу.

Былі канфіскаваны долі нераздзеленых маёнткаў і часова знаходзіліся ва ўпраўленні палаты дзяржаўных маёмасцяў. Яны маглі быць прададзенымі пры выдзяленні іх у асобнае ўладанне або пры пераходзе ў спадчыну. Канфіскаваны долі і не прададзены:

1. Гожа і Пералом – 1/2 частка, Станіслава Сільвястровіча,
2. Заблаць і Русота – 11/28 частка, Пятра Пакубяты,
3. Міневічы – 11/14 частка, Івана Каменскага,
4. Панюкі – 1/2 доля, Аляксандра Лянкевіча,
5. Ласосна і Волкуш – 1/6 доля, Льва Астрамецкага,
6. Мішкенікі – 1/3 частка, Антона Явароўскага,
7. Ласосна – 1/3 частка, Івана Сержпутоўскага,
8. Шымакі – 1/3 частка, Юльяна Тржацяка,
9. Верцялішкі, Скраблякі Аляксандра Біспінга – канфіскавана поўнасцю,
10. Вярэйкі Станіслава Солтана–канфіскавана поўнасцю,
11. Карасоўшчына Аляксандра Эйсманта – канфіскавана поўнасцю,
12. Марцынкоўшчына Фелікса Белакоза – канфіскавана поўнасцю.

Землі і нерухомая маёмасць дробнай шляхты, аднадворцаў, мяшчан, якія падтрымалі паўстанне, таксама канфіскоўваліся на карысць дзяржавы для продажы надзейнаму рускаму праваслаўнаму насельніцтву – перасяленцам з Расіі, а іх былых уладальнікаў высялялі ў глыб імперыі або на катаргу.

Эканамічны ціск на маёмасныя саслоўі выражаўся і ў пасылцы воінскіх каманд для пастою ў неблаганадзейных вёсках, шляхецкіх ваколіцах, маёнтках і ў накладанні штрафаў на ўсіх жыхароў вёсак, мястэчак, маёнткаў, якія хавалі ад уладаў перамяшчэнні "мяцежнікаў"; ва ўвядзенні кантрыбуцыйных збораў у памеры ад 1,5% да 8,5 % ад гадавога прыбытку. Такія зборы былі ўведзены з пачаткам паўстання на памешчыкаў, падтрымаўшых яго, а з 1865 г. – на ўсіх памешчыкаў, шляхту, аднадворцаў, домаўладальнікаў у гарадах каталіцкага веравызнання. У Гродзенскім уездзе яго наклалі  на 773 асобы, у тым ліку 149 памешчыкаў і 624 – дробнай шляхты і аднадворцаў. Па ўезду за перыяд з 1863 па 1 лістапада 1965 г. спагнана securities рознага роду кантрыбуцыйных збораў 135 447 руб. 28 кап. Напрыклад, з маёнтка Мількаўшчына Элізы Ажэшка ён склаў у 1865 г. 324 руб.80 кап., у 1866 г. – 552руб. 16 кап. (Даволі вялікія грошы, т.ш., да прыкладу, 1чвэрць – 102 кг –  жыта, ячменю, гароху каштавалі 2 руб., бульбы – 75 кап.).

Кантрыбуцыйныя зборы выкарыстоўваліся для ўзнагароджання сельскіх каравулаў за вылоўліванне "мяцежнікаў", для выплаты тым сем'ям, што пацярпелі ад паўстанцаў за службу карнікам. Але найбольш – для павелічэння, згодна з царскім указам ад 5 сакавіка 1864 г., на 50%  жалавання рускім чыноўнікам,  "состоящим ныне на службе в Северо-Западном крае и поступающим на оную и о выдаче сим последним при отправлении их на службу в Западные губернии прогонных и подъёмных денег." Гэтая 50-працэнтная прыманка падштурхнула сотні дробных і буйных клеркаў з цэнтральнай Расіі "на ловлю счастья и чинов" у Беларусь. Нават 35 выпуснікоў Уладзімірскай семінарыі рушылі ў ліпені 1864 г. на Гродзеншчыну на пасады валасных пісараў. Так рэалізоўвалася заява М. Мураў'ёва пасля падаўлення паўстання: чаго не зрабіў тут рускі штык, давершыць спра-



М. М. Мураўёў,
генерал-губернатар
Паўночна-Заходняга
краю, граф Віленскі,
душыцель паўстання

ву рускі чыноўнік, праваслаўная царква і рускі настаўнік.

Надзвычай сур'ёзным наступствам паражэння паўстання з'явілася татальная русіфікацыя краю, якая датычылася беларусаў і палякаў, праваслаўных і католікаў і якая працягваецца і ў нашы дні. Узмацненне гэтай палітыкі дакладна выразіў цару Аляксандру II генерал-губернатар М. М. Мураўёў у сваіх "Записках по устройству Северо-Западного края". Нельга абыйсці гэтыя дакументы з-за іх актуальнага гучання і сёння. У "Записке" ад 14 мая 1864 г. ён пісаў:

"Для утверждения Русского владычества в Северо-Западном крае необходимо:

1. Упрочить и возвысить Русскую народность и Православие так, чтобы не было и малейшего повода опасаться, что край может когда-либо сделаться Польским. В сих видах в особенности заняться прочным устройством быта крестьян и распространением общественного образования в духе Православия и Русской народности...

Осуществить общие административные меры:

1. Подтвердить окончательно о повсеместном введении Русского языка ... во всех официальных и служебных сношениях, а также и в наружных изображениях всякого рода
2. Немедленно все высшие служебные должности по всем ведомствам, а также все места, имеющие прикосновение с народом, заместить Русскими чиновниками.

3. Заселять край Русскими сколько возможно сосредоточеннее ... "

Праблемы "упрочения в крае нашего владычества" прадаўжалі турбаваць М. Мураўёва ўсе гады яго прабывання ў Вільні. Ужо незадоўга да сваёй адстаўкі з пасады



Аляксандраўская капліца ў Вільні, устаноўленая па ініцыятыве М. Мураўёва з імёнамі 403 загінуўшых расійскіх воінаў-карнікаў

генерал-губернатара 5 красавіка 1865 г. ён дапоўніў свае прапановы па поўнай русіфікацыі краю:

"2. Не отменять установленного 5-% сбора, ... надобно, как говорят, бить по карману ...

3.Не возвращать ёще долгое время высланных из Северо-Западного края за политические преступления...

7. Утверждение Православия в крае есть одна из самых необходимых основных мер...

10. Умножить везде русские школы ...

12. Стараться правильным преподаванием истории уничтожить превратное и враждебное нам направление, распространённое бывшими Польскими школами. Надобно всем и постоянно разъяснять, что край Северо-Западный всегда был и есть Русский ..."

У нешматлікіх гімназіях, уезных і народных вучылішчах забаранялася размаўляць па-беларуску, а выкладанне польскай мовы 7 ліпеня 1864 г. было забаронена ва ўсіх навучальных установах – і дзяржаўных, і прыватных.

Існаваўшыя да паўстання прыватныя польскія школы забараняліся, а іх стваральнікаў і настаўнікаў прыцягвалі да крымінальнай адказнасці. Так, напрыклад, адбылося і ў вёсцы Грандзічы ў 1873 г.. Гродзенскі ўезны спраўнік далажыў губернатару, што шэсць мяшчан вёскі незаконна адкрылі тайную хатнюю школу, дзе навучаў дзяцей польскай грамаце Кушалеўскі Вікенцій. Губернатар распарадзіўся накіраваць справу ў суд для пакарання настаўніка штрафам і пазбаўлення права займаць настаўніцкую пасаду.

Пасля падаўлення паўстання ў 70-я гады XIX ст. улады пайшлі на адкрыццё навучальных устаноў розных ступеняў, асабліва для падатных саслоўяў – прыхадскіх вучылішчаў і школ граматы пры цэрквах, народных вучылішчаў Міністэрства народнай асветы. Працавалі ў іх рускія настаўнікі па рускіх праграмах і падручніках пад пастаянным наглядам праваслаўных святароў. Папячыцель Віленскай вучэбнай акругі А.П. Шырынскі-Шыхматаў яшчэ ў 1864 г. пісаў у цыркуляры "Некалькі ўказанняў у дапаўненне да інструкцыі для народных настаўнікаў", што галоўная мэта народных вучылішчаў не толькі ў тым, каб навучыць дзяцей рускай граматыцы, але і ў тым, каб "развіць іх разумова і маральна, абудзіць і замацаваць у іх пачуццё адданасці праваслаўнай веры і рускай народнасці".

Знаёмства з "запаветамі" душыцеля паўстання М. Мураўёва сведчыць, наколькі актуальнымі з'яўляюцца і ў пачатку XXI ст. мэты і ідэі паўстання. І ў апошнія дні перад пакараннем гэтыя ідэі не пакідалі кіраўніка паўстання Кастуся Каліноўскага, які хацеў бачыць беларускі народ вольным і шчаслівым:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе.

# Спіс

## удзельнікаў паўстання 1863–1864г.г. з г. Гродна, Гродзенскага ўезда і сучаснага раёна

*І. Удзельнікі падпольнай рэвалюцыйнай арганізацыі і паўстанцкіх атрадаў:*

1. Абрэмскі Людамір (Любамір) Паўлавіч, 43г., чыноўнік палаты дзяржмаёмасцяў, у гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі быў ваяводскім касірам. " За принятие деятельного участия в восстании лишён дворянского достоинства и всех прав состояния и сослан в Сибирь на каторжные работы на 8 лет; по признанию неспособным к ношению оков 15 апреля 1866 г. заключён в Тобольскую тюрьму, откуда сослан в Восточную Сибирь. 18 января 1879 г. выехал на жительство в Гродно."

2. Багатка Франц Фаміч, 46 г., памешчык, уладальнік маёнтка Котра в. Кашубінцы, рэферэнт апекі, быў ксірам і займаўся зборам грошай і іншай дапамогі ад памешчыкаў на паўстанне, восенню арыштаваны і 1863 г. высланы ў Тамбоўскую губ., дзе памёр у 1864 г..

3. Баяроўскі Адольф, 43 г., чыноўнік земскага суда, за захоўванне дакументаў падпольнай арганізацыі, падтрымку паштовай сувязі высланы на жыццё ў Енісейскую губ.

4. Брыерэ дэ Мартэрэ, 24 г., вольнапрактыкуючы ўрач, быў памочнікам ваяводскага начальніка, высланы ў Сібір, пазбаўлены дваранства.

5. Вайсятыч Іосіф Цітавіч, 44 г., упраўляючы маёнтка Краснік, у падпольнай арганізацыі быў ваенным рэферэнтам, па канфірмацыі 14 лістапада 1864 г. асуджаны на катаржныя работы ў крэпасцях на 10 гадоў, пазбаўлены правоў, маёмасць канфіскавана.

6. Геніуш Ігнат Ігнатавіч, чыноўнік, у паўстанцкай арганізацыі быў начальнікам ваяводскага бюро, арыштаваны восенню 1863 г., распараджэннем М. Мураўёва ад

14 лістапада 1864 г. пазбаўлены дваранства і ўсіх правоў стану і сасланы на катаргу ў крэпасцях на 8 гадоў.

7. Заблоцкі Баляслаў Карлавіч, (1835–?), урач, брат Эразма, у падпольнай арганізацыі быў памочнікам ваяводскага начальніка, арыштаваны восенню 1863 г., сасланы ў Арэнбургскую губ.

8. Заблоцкі Эразм Карлавіч (1831- ?), псеўданім Медыёр, чыноўнік губернскага праўлення, з 1861г. у Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, з 1863 г. цывільны паўстанцкі начальнік, а з чэрвеня – камісар Гродзенскага ваяводства; арыштаваны ў верасні 1863 г., сасланы на катаржныя работы ў рудніках на 15 гадоў па канфірмацыі камандуючага Віленскай ваеннай акругай М. Мураў'ёва ад 14 лістапада 1864 г..

9. Жалкоўскі Уладыслаў, 27 г., чыноўнік канцылярыі губернатара, памочнік цывільных начальнікаў горада Ц. Цэханоўскага, потым – І. Руткоўскага, пасля іх арышту быў цывільным начальнікам, асуджаны на катаржныя работы ў крэпасцях на 8 гадоў, маёмасць канфіскавана.

10. Каменскі Іван Восіпавіч, 36 г., міравы пасрэднік, памешчык маёнтка Міневічы, у час паўстання акруговы начальнік у Лунненскай акрузе і рэферэнт па надзяленні сялян зямлёй, пасля С. Сільвестровіча стаў павятовым начальнікам, дапамагаў паўстанцкаму атраду А. Лянкевіча харчаваннем, зброяй. Сасланы спачатку ў Арэнбургскую, пасля ў Омскую губ. на катаржныя работы ў рудніках на 12г. Яго добра ведала Э. Ажэшка, называла "рыцарам крыштальнай душы", "вельмі заслужаным патрыётам". Вярнуўся ў 1887 г. і жыў у Міневічах. Памёр у 1896 г. і пахаваны ў Лунне.

11. Лапінскі Іван, упраўляючы маёнтка Каўбасіно, ажыццяўляў паштовую сувязь паміж паўстанцкімі арганізацыямі Гродна, Саколкі, Беластока, маёмасць канфіскавана, па канфірмацыі ад 14 лістапада 1864 г. сасланы ў больш аддаленыя месцы Сібіры.

12. Лянкевіч Аляксандр Алойзавіч, 40 г., ваенны начальнік Гродзенскага павета, адстаўны падпалкоўнік царскай арміі, Часовы правінцыяльны урад Літвы і Беларусі

надаў яму званне палкоўніка. У красавіку 1863г. арганізаваў паўстанцкі атрад з шляхты, сялян, мяшчан, чыноўнікаў павета і паспяхова дзейнічаў супраць расійскіх карнікаў у Гродзенскім, Ваўкавыскім, Слонімскім, Аўгустоўскім пав. (псеўданім – Ляндар). Пасля паражэння паўстання эміграваў на Захад, некаторыя гісторыкі лічаць, што загінуў. Завочна ў 1865 г. прыгавораны да смяротнага пакарання.

13. Мілевіч Ільдафонс Юр'евіч (1835 –?), землямер, чыноўнік палаты дзяржмаёмасцяў; удзельнік гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, памочнік К. Каліноўскага, у час паўстання быў сакратаром і памочнікам цывільнага начальніка Гродзенскага ваяводства, а з лета 1863 г. – у Вільні памочнік Каліноўскага, арыштаваны ў студзені 1864 г., сасланы на катаргу.

14. Пакубята Пётр Пятровіч, 30 г., былы чыноўнік, памешчык маёнтка Забалоць (5 км ад Гродна), акруговы начальнік Азёрскай акругі, арыштаваны і высланы ў верасні 1863 г. у Арэнбургскую губ., асуджаны на катаржныя работы ў крэпасцях на 10 гадоў.

15. Ромер Севярын Аляксандравіч, 44 г., уладальнік маёнтка Губінка, у паўстанцкай арганізацыі быў касірам, захавальнікам сабраных на паўстанне грошай, зняволены ў Гродзенскай турме, сасланы ў Табольскую губ. разам з жонкай Тэадорай, маёмасць канфіскавана.

16. Руткоўскі Іосіф Іосіфавіч, 33 г., працаваў у дваранскім пансіёне, быў памочнікам Ц. Цэханоўскага, пасля яго арышту стаў цывільным начальнікам горада Гродна, арыштаваны ў верасні 1863 г., высланы ў Табольскую губ., асуджаны на катаржныя работы ў рудніках на 15 гадоў.

17. Рэдых Эмільян 33 г., аканом маёнтка Свіслач В. Пуслоўскага, акруговы начальнік Індурскай акругі, зняволены ў Гродзенскай турме, асуджаны на катаржныя работы ў крэпасцях на 10 г.

18. Сільвестровіч Станіслаў Іванавіч (1833-1910), памешчык маёнтка Гожа-Пералом (разам з братам Казімірам), пасля адмены прыгоннага права ў 1861г. сяляне маёнтка Гожа былі пераведзены на самы ўмераны аброк; з красавіка 1863г. цывільны начальнік Гродзенскага павета, з чэрве-

ня – ваяводскі начальнік, арыштаваны 30 ліпеня 1863г. і ў 1864 г. адпраўлены на катаржныя работы на заводах у Іркуцкую губерню на 8 гадоў, па абвінавачванні ў бунце на Кругабайкальскай дарозе быў закаваны на 1 год у кайданы; у 1874 г. атрымаў права пераехаць ва ўнутраныя губерні Расіі і жыў у г. Ядрыне Казанскай губ. (цяпер у Чувашыі), у 1883г. вызвалены ад паліцэйскага нагляду, пераехаў у Валынскую губ..

19. Талочка Адольф Іванавіч, 30 г., чыноўнік Гродзенскай казённай палаты, у паўстанцкай арганізацыі выконваў абавязкі ў бюро перапіскі, захоўваў ваяводскую пячатку, па канфірмацыі ад 14 лістапада 1864 г. асуджаны на катаржныя работы  на заводах на 8 гадоў.

20. Тржацяк Юльян Віктаравіч, 29 г., шляхціц з в Шымакі, жыў у г. Гродна, у паўстанцкай арганізацыі выконваў кур'ерскія і паштовыя абавязкі, па канфірмацыі  ад 14 лістапада 1864 г. сасланы на катаржныя работы ў крэпасцях на 8 г.

21. Урублеўскі Сігізмунд, 18 г.,  студэнт Кіеўскага універсітэта, стрыечны брат Станіслава Сільвестровіча, памочнік і сакратар павятовага і ваяводскага начальніка, восенню1863 г. арыштаваны і зняволены ў Гродзенскай і Віленскай турмах, высланы ў Табольскую губ., пазбаўлены ўсіх правоў.

22. Цэханоўскі Цэлесцін Міхайлавіч, (1835 -1906), былы штатны доктар дваранскага пансіёна, у 1863 г. паўстанцкі начальнік горада Гродна, арыштаваны 30 ліпеня 1863г., поўнасцю адмаўляў свой удзел у арганізацыі і паўстанні, сасланы па канфірмацыі ад 14 лістапада 1864 г. на катаржныя работы ў рудніках на 15 гадоў у Іркуцкую губ.

23. Чаповіч Андрэй, 39 г.,  ксёндз-пробашч Мастоўскай парафіі, акруговы начальнік Скідзельскай акругі, быў памочнікам камісара Гродзенскага ваяводства Э. Заблоцкага, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе ў Аўгустоўскай губ., сасланы ў Арэнбургскую губ..

24. Аблашэвіч Юльян, 25 г.,  селянін з в. Калбасіно, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў  Гродзен-

скай турме, адпраўлены на 3 гады ў Кастрамскую арыштанцкую роту.

25. Абуховіч Аляксандр Паўлавіч, памешчык, уладальнік маёнтка Мігова, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе Лянкевіча (Ландэра), адпраўлены на пасяленне ў Сібір.

26. Абуховіч Іван Фаміч, селянін з в. Новая Руда, высланы ў глыб Расіі за палітычную неблаганадзейнасць.

27. Абуховіч Фелікс Сцяпанавіч, 27 г., шляхціц ваколіцы Абуховічы, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе Аляксандра Лянкевіча.

28. Абухоўскі Іван Фаміч, селянін, в. Новая Руда, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, высланы ў глыб Расіі.

29. Абуховіч Кандрат, шляхціц ваколіцы Абуховічы, знаходзіўся ў атрадзе Аляксандра Лянкевіча.

30. Адашкевіч Мацвей Фёдаравіч, 44 г, селянін в. Жытомля, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе і схоплены пасля бою каля м. Азёры, высланы ў Арэнбургскую губ.

31. Апрошка Габрыель, 18 г., дваровы работнік памешчыка Валіцкага (м. Азёры), знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

32. Арцішак Фадзей, 30 г., селянін, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, з Гродзенскай турмы адпраўлены ў Смаленскую арыштанцую роту.

33. Багдановіч Уладыслаў Вікенцьевіч, 23 г., аднадворац, в. Сухая Даліна, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, адпраўлены ў Маскву для высылкі ў Сібір.

34. Банькоўскі Іван, 22 г., шляхціц, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

35. Бартушэвіч Антон, 25 г., за знаходжанне ў паўстанцкім атрадзе адпраўлены ва Уладзімірскую арыштанцкую роту на 3 гады.

36. Бондар Іван Максіміль'янавіч, 21 г., селянін, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

37. Бура Іван Мацвеевіч, 40 г., казённы селянін, в. Старая Руда, ляснік у Гродзенскай пушчы, уроч. Яскілевічы, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе Вавера.

38. Валансовіч Іван, жыхар м. Азёры, шавец памешчыка Валіцкага, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе Лянкевіча.

39. Выдра Адам Фёдаравіч, 24 г., шляхціц, в. Радзівілкі, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны і адпраўлены ў Маскву.

40. Высоцкі Восіп Раманавіч, 20 г., аглядчык пуцей на чыгунцы, ст. Парэчча, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе Людвіка Нарбута, Віктара Гласкі.

41. Высоцкі Уладыслаў Раманавіч, брат Восіпа, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе Людвіка Нарбута, Віктара Гласкі.

42. Гасперскі Якаў Восіпавіч, селянін в. Жукевічы Горніцкай вол., за ўдзел у паўстанні высланы ў Сібір.

43. Гец Адам Фёдаравіч, 22 г., селянін, в. Азяркі, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, быў паранены і ўзяты ў палон, адпраўлены ў Маскву.

44. Гілюк Дамінік Іванавіч, селянін в. Жукевічы Горніцкай вол., за ўдзелу паўстанні высланы ў Сібір.

45. Гласка Віктар Іосіфавіч, 26 г., памешчык, уладальнік маёнтка Жукевічы, камандзір паўстанцкага атрада, які дзейнічаў у Аўгустоўскім у. у Сапоцкінскай зоне, маёр, сышоў у эміграцыю, пасля вяртання адпраўлены ў турму.

46. Гласка Іосіф Вікенц'евіч, сын памешчыка з маёнтка Пескі Горніцкай вол., удзельнічаў у падзеях 2-3 сакавіка 1863г. у Гродне, загінуў у баі каля в. Кадыш.

47. Гласка Юль'ян Вікенц'евіч, брат Іосіфа, сын памешчыка з маёнтка Пескі, знаходзіўся ў атрадзе Вавера ў Аўгустоўскім у., сышоў у эміграцыю восенню 1863г..

48. Глябовіч Восіп (Іосіф), 29 г., аднадворац ваколіцы Глябовічы, знаходзіўся ў атрадзе Млотка, адпраўлены на 3 г. ва Уладзімірскую арыштанцкую роту.

49. Губарэвіч Карл Філіпавіч, 20 г., праваслаўны, селянін в. Кашубінцы з маёнтка Котра, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе Лянкевіча, зняволены ў Гродзенскай турме.

50. Гулецкі Ян, 25 г., селянін, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

51. Дзяконскі Гаўрыла, 52 г., ксёндз касцёла Тэалін, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

52. Дубінскі Лука Хрыстафоравіч, 18 г., селянін з в. Раўкі Гродзенскага у., знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны ў лістападзе 1864 г. (Дзярж. архіў Грод. вобл., газ. "Echo Grodzienskie", № 162, 1921г.)

53. Жук Лявон, 16 г., праваслаўны, селянін, в. Задуб'е (м. Азёры), знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе А. Лянкевіча, зняволены ў Гродзенскай турме, сасланы на пасяленне ў Самарскую губ.

54. Жукоўскі Станіслаў Іванавіч, мешчанін, з в. Грандзічы, за палітычную неблаганадзейнасць высланы ў глыб Расіі.

55. Жукоўскі Якаў, 25 г., мешчанін м. Азёры, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены пасля бою па дарозе ў Азёры, адпраўлены ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 3 гады.

56. Жылінскі Іван, 20 г., аднадворац, м. Індура, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе Вавера, сасланы ў арыштанцкія роты.

57. Заверскі Антон, 18 г., селянін, в. Коханава, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, адпраўлены ў Маскву.

58. Завістоўскі Люцыян, 31 г., шляхціц, упраўляючы маёнтка Алекшыцы Гродзенскага у., рэферэнт камунікацый у паўстанцкай арганізацыі, забяспечваў паўстанцаў прадуктамі, пазбаўлены дваранства, сасланы ў Томскую губ., адкуль збег праз 2 гады.

59. Залеўскі Каспер, 18 г., шляхціц Гродзенскага ўезда, за ўдзел у паўстанні пазбаўлены шляхецкіх правоў, сасланы ў Табольскую губ..

60. Зубоўскі (Зубраўскі) Восіп Аляксандравіч, 25 г., селянін, в. Старына, знаходзіўся ў атрадзе Лянкевіча, схоплены пасля бою каля м. Азёры, зняволены ў Гродзенскай турме, адпраўлены ў Разанскую арыштанцкую роту на 2 г.

61. Казлоўскі Людвік, 28 г., мешчанін Гродзенскага у., за знаходжанне ў паўстанцкім атрадзе адпраўлены ў Яраслаўскую арыштанцкую роту на 3 г.

62. Калышка (Калыска) Васіль Ігнатавіч, селянін з в. Топалева, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, у лістападзе 1863 г. высланы на пасяленне ў Томскую губ.

63. Канановіч Уладыслаў, памешчык, яго маёнтак Дзяміткава быў секвестраваны за ўдзел у паўстанцкім атрадзе.

64. Канеўскі Уладыслаў Баляслававіч, 21 г., шляхціц з маёнтка Талочкі, быў юнкерам Вялікалуцкага палка, звольніўся са службы ў 1860 г., з'яўляўся ад'ютантам А. Лянкевіча ў паўстанцкім атрадзе, адпраўлены на катаргу ў Сібір на 6 гадоў.

65. Канстанціновіч Павел Паўлавіч, з вольных людзей маёнтка Талочкі памешчыка Канеўскага Б., знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, высланы ў 1864 г. у Калужскую арыштанцкую роту.

66. Карловіч Сцяпан, 20 г., селянін, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

67. Касінскі Дзіяніс, 24 г., шляхціц, служыў у маёнтку Самойлавічы, у атрадзе А. Лянкевіча з чэрвеня 1863 г..

68. Касоўскі Леапольд Карлавіч, 31 г., шляхціц Гродзенскага у., за ўдзел у паўстанні высланы ў Пензенскую губ. (" Echo Grodzien'skie" № 168, 1921.)

69. Качынскі Антон Восіпавіч, 34 г., памешчык Гродзенскага у., знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, арыштаваны ў снежні 1863 г.("Echo Grodzien'skie", № 167, 1921г.).

70. Краснікоўскі Васіль Сцяпанавіч, 19 г., мешчанін, з в. Бракава, за знаходжанне ў паўстанцкім атрадзе арыштаваны ў кастрычніку 1863 г. ("Echo Grodzien'skie," № 168, 1921г)

71. Кулікоўскі Канстанцін Міхайлавіч, 19 г., шляхціц, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

72. Кучынскі Міхаіл Аляксеевіч, 17 г., праваслаўны, селянін, маёнтак в. Талочкі, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе Лянкевіча.

73. Лазавіцкі Валярьян Вікенцьевіч, 25 г., аднадворац, Гродзенскі уезд, прывозіў прадукты паўстанцам, схоплены ў час боя ў Гродзенскай пушчы, адпраўлены ў арыштанцкія роты.

74. Лапінскі Актавій, 16 г., шляхціц, з в. Калбасіно, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

75. Лапінскі Баляслаў, 22 г., брат Актавія, шляхціц, в. Калбасіно, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

76. Маркевіч Іосіф Іванавіч, 29 г., штатны ўрач Гродзенскай гарадской лячэбніцы, збіраў грошы для паўстанцаў і высылаемых у Расію.

77. Марцыеўскі Міхаіл Вікенцьевіч, 30 г., мешчанін, в. Эйсманты Надтабольскія, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, сасланы ў Астраханскую губ..

78. Марцыеўскі Юрый Вікенцьевіч, 27 г., мешчанін, в. Эйсманты Надтабольскія, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, сасланы ў Астраханскую губ..

79. Марэня Антон Ільіч, 20 г., селянін, м. Азёры, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, узяты ў палон, адпраўлены ў Маскву.

80. Мацкевіч Уладыслаў, шляхціц Гродзенскага у., за удзел у паўстанні высланы на пасяленне ў Сібір.

81. Мацяевіч Іван, 21 г., шляхціц Гродзенскага у., знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

82. Мізгер Войцэх, аднадворац, удзельнік паўстання, зняволены ў Гродзенскай турме, адпраўлены ў Смаленскую арыштанцкую роту.

83. Палуяноўскі Ігнат, 35 г., шляхціц Гродзенскага у., удзельнік паўстання, зняволены ў Гродзенскай турме, адпраўлены на пасяленне ў Сібір.

84. Панасевіч Міхаіл, 20 г., фельчар, в. Алекшыцы Гродзенскага у., знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, дастаўляў паўстанцам харчаванне, у 1864 г. адпраўлены на 2 гады ва Уладзімірскую арыштанцкую роту.

85. Паўловіч Аляксандр Восіпавіч, 28 г., селянін з в. Капліца, знаходзіўся ў атрадах Млотка, потым Влодэка, паранены каля м. Кузніца, у 1864 г. арыштаваны і пасаджаны ў турму, адпраўлены ва Уладзімірскую арыштанцкую роту, адкуль збег праз 4 месяцы.
86. Паўлоўскі Міхаіл, шляхціц Гродзенскага у., удзельнік паўстання, зняволены ў Гродзенскай турме.

87. Пачобут Люцыян Каэтанавіч, 18 г., шляхціц Гродзенскага у., знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, высланы ў Ніжагародскую губ., дзе памёр у1871 г..

88. Пачобут Міхаіл, шляхціц Гродзенскага у., удзельнік паўстання, зняволены ў Гродзенскай турме.

89. Пашкевіч Міхаіл, 20 г., фельчар, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, дастаўляў паўстанцам харчаванне, зняволены ў Гродзенскай турме.

90. Плаўскі Іван, шляхціц Гродзенскага у., удзельнік паўстання, адпраўлены на пасяленне ў Сібір.

91. Пырскі Адам, 18 г., шляхціц Гродзенскага у., знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

92. Радзівуаноўскі Іван, шляхціц ваколіцы Абуховічы, знаходзіўся ў атрадзе Аляксандра Лянкевіча.

93. Саўка Іван, рабочы-чыгуначнік на ст. Парэчча, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе Людвіка Нарбута і Гласкі.

94. Семяноўскі Іван Міхайлавіч, 21 г., праваслаўны, садоўнік з маёнтка Вільянава (м. Азёры) памешчыка Л. Валіцкага, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе А. Лянкевіча.

95. Семянчук Міхаіл Міхайлавіч, 27 г., праваслаўны, селянін, з в. Шчэчычы Гродзенскага у., знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе А. Лянкевіча.

96. Сіповіч Франц Адамавіч, 22 г., аднадворац, в. Прыгодзічы, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, узяты на парукі сельскай грамадой.

97. Скаржынскі Вікенцій, 45 г., шляхціц Гродзенскага у., знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме.

98. Скірмунт Пётр, 23 г., вольны чалавек, Гродзенскі у., за ўдзел ў паўстанні зняволены ў Гродзенскай турме.

99. Солтан Станіслаў, (1822 – 1896), граф, памешчык Гродзенскага у., сын старшыні Літоўскага часовага ўрада 1812 г. і прыхільніка Канстытуцыі 3 мая, скончыў Дэрпцкі універсітэт, уваходзіў у склад гродзенскай паўстанцкай арганізацыі, удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання, дапамагаў паўстанцам зброяй, прадуктамі, пазбаўлены дваранства і ўсіх правоў, высланы ў больш аддаленыя месцы Сібіры.

100. Спірыдовіч Уладыслаў Рыгоравіч, 30 г., памешчык з маёнтка Навасёлкі, забяспечваў сувязь кіраўніцтва ваяводства з іншымі паўстанцкімі арганізацыямі і атрадамі, зняволены ў Гродзенскай турме, высланы ў Томскую губ., маёнтак канфіскаваны ў казну.

101. Старжынскі Вікенцій, селянін Гродзенскага у., перададзены на парукі сельскай абшчыне.

102. Сухініч Габрыель, 18 г., праваслаўны, селянін з маёнтка Задуб'е памешчыка Л. Валіцкага, знаходзіўся ў атрадзе А. Лянкевіча, сасланы ў Тульскую арыштанцкую роту.

103. Талочка Канстанцін Вікенцьевіч, 25 г., шляхціц ваколіцы в. Талочкі, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, схоплены пасля бою каля м. Азёры, высланы на пасяленне ў Томскую губ., пазбаўлены ўсіх правоў.

104. Талочка Міхаіл, 21 г., шляхціц ваколіцы м. Заполле, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе А. Лянкевіча, зняволены ў Гродзенскай турме, пазбаўлены дваранства, адпраўлены радавым у батальёны Амурскага края.

105. Таронiс Дамiнiк, 51 г., селянiн Гродзенскага у., за знаходжанне ў паўстанцкiм атрадзе адпраўлены ў Разанскую арыштанцкую роту на 2 г..

106. Хлюстаў Мацвей, лясны аб'ездчык Гродзенскага лясніцтва, вызвалены ад пасады, перададзены на парукі.

107. Чарняўскi Iван Якубавiч, 27 г., беззямельны шляхціц в. Эйсманты Надтабольскiя, знаходзiўся ў паўстанцкiм атрадзе, высланы ў Самарскую губ.

108. Чарняўскi Канстанцiн Iванавiч, 20 г., шляхцiц в. Эйсманты Надтабольскiя, працаваў на чыгунцы, знаходзiўся ў паўстанцкiм атрадзе, высланы ў Астраханскую губ.

109. Шмурло Iван, 21 г., шляхцiц Гродзенскага у., знаходзiўся ў паўстанцкiм атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме, высланы ў Енiсейскую губ..

110. Шобат Васiль Мiхайлавiч, праваслаўны, селянiн з в. Пыра, за ўдзел у паўстаннi адпраўлены ў Разанскую арыштанцкую роту на 2 г.

111. Эйсмант Аляксандр Валяр'янавiч, 20 г., шляхцiц, фальв. Каральсоўшчына, знаходзiўся ў паўстанцкiм атрадзе А. Лянкевiча, зняволены ў Гродзенскай турме, дзе памёр у 1864 г.

112. Эйсмант Клiменцiй, 20 г., шляхцiц в. Эйсманты Надтабольскiя, знаходзiўся ў паўстанцкiм атрадзе, высланы ў Астраханскую губ.

113. Эйсмант Мартын Iванавiч, 30г., беззямельны шляхцiц в. Эйсманты Надтабольскiя, знаходзiўся ў паўстанцкiм атрадзе, высланы ў Астраханскую губ.

114. Эйсмант Мiхаiл Вiкенцьевiч, дваранiн, працаваў на чыгуначнай станцыi Парэчча, у лiку 13 чалавек 24 красавiка 1863 г. далучыўся да паўстанцаў.

115. Юдко Мiхаiл, 36 г., фельчар, Гродзенскi у., знаходзiўся ў паўстанцкiм атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме, перададзены на парукi.

116. Юзафовiч (Iозафовiч) Андрэй, 18 г., селянiн з в. Карашава, Гродзенскi у., знаходзiўся ў паўстанцкiм атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме, адпраўлены ў Маскву для высылкi.

117. Юшко Аляксандр Іванавіч, 29 г., праваслаўны, селянін, Гродзенскі у., знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, зняволены ў Гродзенскай турме, адпраўлены на 4 гады ў Кастрамскую арыштанцкую роту.

118. Яблонскі Антон Міхайлавіч, 30 г., шляхціц в. Эйсманты Надтабольскія, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, высланы ў Самарскую губ.




Іван Каменскі ў адзенні катаржніка

119. Яблонскі Іван Іосіфавіч, 26 г., шляхціц в. Эйсманты Надтабольскія, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, прыгавораны да высылкі ў Самарскую губ.

120. Янулевіч Іван Андрэевіч, селянін, в. Пальніца, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, высланы ў Томскую губ.

## II.Дапамагалі паўстанцкім атрадам

*(прадуктамі, адзеннем, зброяй, грашыма, інфармацыяй)*

1. Астрамецкі Леў, памешчык, яго маёнтак Ласосна секвестраваны за дапамогу паўстанцам прадуктамі.

2. Бальцар Мацей Фаміч, 38 г., селянін, в. Лойкі, прывозіў прадукты паўстанцам, дапамагаў ім будаваць лагер, узяты сельскай грамадой на парукі.

3. Баневіч Севасцян, 55 г., ксёндз, в. Адамавічы, заклікаў да паўстання, дапамагаў паўстанцам, зняволены ў Гродзенскай турме.

4. Белакоз Фелікс, 26 г., памешчык маёнтка Марцыновічы, прывозіў паўстанцам прадукты, зняволены ў Гродзенскай турме, высланы ў Арэнбургскую губ..

5. Белічанскі Оўзер, мешчанін, м. Сапоцкін, дапамагаў паўстанцам прадуктамі, зняволены ў Гродзенскай турме.

6. Бондар Іван, 26 г., праваслаўны, селянін з маёнтка Алекшыцы, дастаўляў паўстанцам харчаванне, знаходзіўся ў паўстанцкім атрадзе, адпраўлены на 2 гады ў Кастрамскую арыштанцкую роту.

7. Бялевіч Павел Янавіч, 25 г., селянін в. Навасады графа Валовіча, прывозіў паўстанцам прадукты, узяты на парукі.

8. Вайнеуш Фелікс, 44 г., ксёндз Кашубінскага касцёла Гродзенскага у., агітаваў уступаць у паўстанцкія атрады, зняволены ў Гродзенскай турме, высланы ў Пермскую губ.

9.Валіцкі Леапольд, 50 г., граф, уладальнік маёнтка Вільянова (м. Азёры), дапамагаў паўстанцам прадуктамі, адзеннем, фуражом, зняволены ў Гроденскай турме, высланы ў аддаленыя месцы Сібіры, памёр у Іркуцкай губ. у 1875 г.

10. Валіцкая Людвіка, 18 г., пляменніца графа Л. Валіцкага, шмат разоў дастаўляла паўстанцам у "Святое балота"прадукты, адзенне, гаспадарчыя рэчы; выслана ў Варонежскую губ. у лістападзе 1863 г.

11. Валовіч Вітольд, 35 г., граф, з маёнтка Свяцк Аўгустоўскага у., прывозіў прадукты ў паўстанцкі атрад, зняволены ў Гроденскай турме.

12. Валовіч Міхаіл, 50 г., граф, уладальнік маёнтка Свяцк Аўгустоўскага у., прывозіў прадукты ў паўстанцкі атрад, зняволены ў Гродзенскай турме.

13. Валянтовіч Марцэлій, былы аканом, м. Азёры, прывозіў паўстанцам прадукты і фураж, зняволены ў Гродзенскай турме.

14. Верыён Іван, 68 г., памешчык Гродзенскага у., дапамагаў паўстанцам прадуктамі, зняволены ў Гродзенскай турме.

15. Верыён Станіслаў, 31 г., сын Івана, прывозіў прадукты паўстанцам, зняволены ў Гродзенскай турме.

16.Внароўскі (Ванароўскі) Донат, 46 г., шляхціц з в. Баля Сольная, ляснік у маёнтку Азёры Л. Валіцкага, даваў паўстанцам інфармацыю аб перамяшчэнні карных каманд, "распространял вредные слухи", высланы ў лістападзе 1863г. у Томскую губ..

17. Германовіч – сёстры Схаластыка (39 г.), Леакадзія (30 г.), Камілія (28 г.), дочкі былога ўніяцкага святара ў м. Азёры Сцяпана Германовіча, забяспечвалі паўстанцаў прадуктамі, у лістападзе 1863 г. высланы ў Казанскую губ.

18. Глябовіч Іосіф, аднадворац Гродзенскага у., дапамагаў паўстанцам, адпраўлены ва Уладзімірскую арыштанцкую роту.

19. Зуброўскі Іпаліт, 55 г., памешчык, маёнтак Кульбакі, за дапамогу паўстанцам высланы ў Пермскую губ. на жыццё, пазбаўлены дваранскіх правоў.

20. Клапатоўскі Іосіф, 32 г., аканом маёнтка Свяцк графа М. Валовіча, в. Валавічоўцы Аўгустоўскага у., агітаваў уступаць у паўстанцкія атрады.

21. Крынскі Моўша Арыевіч, 40 г., мешчанін м. Сапоцкін Аўгустоўскага у., быў інфарматарам у паўстанцаў, узяты на парукі жыхарамі.

22. Лазавіцкі Валяр'ян Вікенцьевіч, 25 г., аднадворац Гродзенскага ў., прывозіў прадукты паўстанцам, захоплены ў час бою, зняволены ў Гродзенскай турме.

23. Літман, кравец, яўрэй з м. Сапоцкін, сувязны.

24. Лунеўскі Іван, 24 г, сын ляснічага з м. Азёры, хаваў паўстанцаў, збіраў і прывозіў ім харчы, сасланы ў Табольскую губ.

25. Ляговіч Ян, 30 г., аканом у маёнтку Астапкоўшчына Р. Мантовіча, прывозіў паўстанцам прадукты, высланы ва Уладзімірскую губ.

26. Мазюк Адам Іванавіч, 40 г., казённы селянін лясной стражы, в. Лосева, агітаваў у Парэччы ўступаць у паўстанцкія атрады, зняволены ў Гродзенскай турме.

27. Мазюк Мацвей Іванавіч, 42 г., казённы селянін лясной стражы, в. Лосева, разам з братам агітаваў у Парэччы ўступаць ў паўстанцкія атрады, зняволены ў Гродзенскай турме.

28. Мантовіч Рудольф Іванавіч, 55 г., памешчык, маёнтак Астапкоўшчына, прывозіў паўстанцам прадукты і фураж, высланы ў Табольскую губ.

29. Міхайлоўскі Аляксандр, 52 г., селянін Гродзенскага у., садзейнічаў паўстанцам, зняволены ў Гродзенскай турме.

30. Мрочак Фелікс, 76 г., шляхціц Гродзенскага у., прывозіў паўстанцам прадукты, зняволены ў Гродзенскай турме.

31. Нядзвецкі Антон, 51 г. , шляхціц, арандатар маёнтка ў в. Кадыш Аўгустоўскага у., агітаваў уступаць у паўстанцкія атрады, зняволены ў Гродзенскай турме.

32.Панятоўскі Міхаіл, 52 г., чыноўнік Гродзенскай казённай палаты, за захоўванне пораху і куль, высланы ў Пензенскую губ..

33. Пташынскі Антон, паштовы экспедытар м. Сапоцкін, падтрымваў сувязі паміж паўстанцкімі атрадамі, зняволены ў Гродзенскай турме.

34.Пуховіч Іван, 28 г., аднадворац Гродзенскага у., дапамагаў паўстанцам, зняволены ў Гродзенскай турме.

35. Раслевіч Ян Янавіч, 27 г., селянін м. Сапоцкін, дапамагаў паўстанцам прадуктамі, узяты на парукі.

36. Сакалоў Іван, 57 г., селянін Гродзенскага у., прывозіў паўстанцам прадукты, зняволены ў Гродзенскай турме.

37.Санкоўскі (Сянкоўскі) Станіслаў Вікенцьевіч, 49 г., фельчар з маёнтка Закрэўшчына Гродзенскага у., за неданясенне вярбоўкі ксяндзом м. Азёры жыхароў у паўстанцкі атрад адпраўлены ў Кастрамскую арыштанцкую роту на 4 г., пражываў у Табольскай губ., дзе памёр у 1876 г.

38. Сержпутоўскі Адам Эмільевіч, 27 г., памешчык з маёнтка Ласосна, прывозіў харчаванне паўстанцам, маёнтак канфіскаваны, высланы ў Табольскую губ..

39. Серкучэўскі Фелікс Іванавіч, 50 г., шляхціц, в. Эйсманты Надтабольскія, вербаваў моладзь у паўстанцкія атрады, адпраўлены ў Маскву.

40. Сраброўскі Рамуальд, 73 г., аднадворац Гродзенскага у., прывозіў прадукты паўстанцам, зняволены ў Гродзенскай турме.

41. Сраброўскі Станіслаў, 33 г., сын Рамуальда, прывозіў прадукты паўстанцам, зняволены ў Гродзенскай турме.

42. Стычынскі Юзаф, 27 г. , ямшчык Сапоцкінскай паштовай станцыі, падтрымваў сувязь паміж паўстанцкімі атрадамі і паўстанцамі, адпраўлены ў Кастрамскую арыштанцкую роту.

43. Таўрэль Францішак, 50 г., шляхціц Гродзенскага у., прывозіў паўстанцам прадукты, зняволены ў Гродзенскай турме.

44.Тукала Валерыян, 30 г., шляхціц, в. Перстунь, дапамагаў паўстанцам прадуктамі, зняволены ў Гродзенскай турме.

45. Чацвярцінскі Георгій, 31 г., князь, м. Скідзель, адстаўны штаб-ротмістр, дапамагаў паўстанцкай арганізацыі грашыма, зняволены ў Гродзенскай турме, пакінуты пад строгім паліцэйскім наглядам.

46.Шмігера Юзаф, 57 г., аканом у маёнтку Вільянова (Леапольда Валіцкага), прывозіў паўстанцам прадукты і фураж, зняволены ў Гродзенскай турме.

47. Штарк Іван, былы рэдактар “Гродненских губернских ведомостей”, пасыльны па перавозцы пошты і даручэнняў пры Гродзенскім і Брэсцкім ваяводствах.

48. Шымборскі Абрам Шэрнавіч, 32 г., мешчанін, м. Сапоцкін, вырабляў паўстанцам боты, пакараны штрафам, узяты на парукі.

49. Эйсмант Матэвуш Андрэевіч, 40 г., шляхціц, в. Эйсманты Надтабольскія, прывозіў паўстанцам прадукты, узяты на парукі.

50. Эйсмант Самсон Іванавіч, 38 г., шляхціц, в. Эйсманты Надтабольскія, заклікаў сялян да паўстання, адпраўлены ў Маскву.

51. Юнг Юзаф, 50 г., упраўляючы маёнтка Вільянова Л. Валіцкага, прывозіў паўстанцам прадукты, зняволены ў Гродзенскай турме.

52. Юроўскі Міхаіл, 52 г., памешчык, яго маёнткі Закрэўшчына і Струпін канфіскаваны за дапамогу паўстанцам, адпраўл ены на катаргу ў Табольскую губ.

53. Явароўскі Антон, памешчык, уладальнік маёнтка Мішкенікі, за дапамогу паўстанцам канфіскаваны маёнтак.

54.Якубельскі Войцэх, 32 г., мешчанін, сакратар бурмістра м. Сапоцкін, агітаваў уступаць у паўстанцкія атрады, зняволены ў Гродзенскай турме.

55. Ятkоўскі Вікенцій, 45 г., шляхціц, в. Грандзічы, прывозіў паўстанцам прадукты, зняволены ў Гродзенскай турме.

56. Яцунскія (сям’я): Іосіф (58г.), Юзэфа (54г.), Аляксандр (18г.), сяляне, в. Грабяні, прывозілі паўстанцам прадукты і фураж, узяты на парукі.



Бюст і надпіс на магіле Валерыя Урублеўскага, устаноўлены на могілках Пер-Лашэз у Парыжы







Памятная пліта ў гонар паўстанцаў атрада Людвіка Нарбута ў в. Нача

# III. Удзельнікі нападу на чыгуначную станцыю г. Гродна 2 сакавіка 1863 г.

**А**.17 верасня 1863 г. па канфірмацыі камандуючага Віленскай ваеннай акругай генерал-ад-інфантэры М. М. Мураўёва пакараны і высланы за межы губерні

Гімназісты:

1. Багатырэвіч Антон, 17 г., пазбаўлены дваранства, адпраўлены радавым у Сібірскія лінейныя батальёны,

2. Букраба Аляксандр, 19 г., пазбаўлены дваранства, адпраўлены радавым у Сібірскія лінейныя батальёны.

Без пазбаўлення дваранства адпраўлены радавымі ў Сібірскія лінейныя батальёны:

3. Гартунг Януарый, 18 г.,

4. Жук Іван, 19 г.,

5. Ізбіцкі Кліменцій, 17 г.,

6. Кашуба Адольф, 16 г.,

7. Кашуба Іосіф, 18 г.,

8. Крэйбіх Станіслаў, 18 г., з невялікага маёнтка каля в. Грандзічы,

9. Кудзінскі Іосіф, 17 г.,

10. Ражбіцкі Станіслаў, 18 г.,

11. Ржажніцкі Антон, 18 г.,

12. Сямашка Антон, 21 г., радавым у батальёны Амурскага краю,

13. Шэршаневіч Аўгуст, 19 г.,

14. Гамулецкі Іосіф, 18 г., былы гімназіст, радавым у Сібірскія лінейныя батальёны.

**Б**.Жыхары г. Гродна:

15.Баяроўскі Юльян, 29г., чыноўнік палаты грамадзянскага суда, высланы на 2 месяцы ў Дынабургскую крэпасць (суч. Даўгаўпілс), пасля – на пасяленне ў Арэнбургскую губ.;

16. Блашынскі Станіслаў, 23 г., рабочы друкарні, высланы ў Валагодскую губ.;

17. Красноўскі Георгій, 17 г., шляхціц, работнік магазіна, адпраўлены радавым у батальёны Амурскага краю;

18. Красноўскі Юльян, 25 г., шляхціц, наглядчык на вакзале, на 3 месяцы ў Дынабургскую крэпасць, пасля высланы ў аддаленыя ўезды Пермскай губ.;

19. Навакоўскі Станіслаў, 28 г., настаўнік польскай мовы Гродзенскай мужчынскай гімназіі, пазбаўлены ўсіх правоў, высланы ў менш аддаленыя месцы Сібіры;

20. Пржыбылка Адам, 18 г., тэлеграфіст чыгуначнай станцыі, адпраўлены радавым у батальёны Амурскага краю;

21. Самулінскі Казімір, 21 г., шляхціц, чыноўнік, затрыманы са зброяй у руках, пазбаўлены дваранства, сасланы на катаржныя работы на заводах на 6 гадоў;

22. Талочка Казімір, 24 г., шляхціц, чыноўнік дваранскага дэпутацкага сходу, затрыманы са зброяй у руках, пазбаўлены дваранства, сасланы на катаржныя работы на заводах на 6 гадоў;

23. Шмідт Адольф, 28 г., шляхціц, уладальнік аптэкі ў г. Гродна, пазбаўлены ўсіх правоў, высланы ў Томскую губ..

Арыштаваны ў час нападу на станцыю і зняволены да жніўня ў турме. Па пастанове ваенна-палявога суда ўсе ўзяты пад нагляд паліцыі, чыноўнікі звольнены з службы, узяты на парукі:

24. Антушэвіч Іосіф, 19 г., гімназіст,

25. Бараноўскі Міхаіл, 19 г., гімназіст,

26. Барціцкі Уладзімір, 20 г., служачы аптэкі,

27. Бергель Марцін, 19 г., рабочы друкарні, г. Гродна,

28. Быстры Іосіф, 17 г., гімназіст,

29. Высоцкі Іосіф, 22 г., чыноўнік канцылярыі губернатара,

30. Высоцкі Міхаіл, 21 г., чыноўнік палаты дзяржаўных маёмасцяў,

31. Гальконт Антон, 21 г., пісар палаты дзяржмаёмасцяў,

32. Гласка Іосіф, шляхціц з маёнтка Пескі Гродзенскага у.,

33. Грабавецкі Уладыслаў, пісар, работнік Друскеніцкіх мінеральных вод,

34. Жмуйлоўскі Іван, 41 г., шляхціц, з Кобрынскага у.,

35. Жукоўскі Вікенцій, 16 г., сын салдата з г. Гродна,

36. Зубраўскі Уладыслаў, шляхціц з маёнтка Кульбакі,

37. Ізбіцкі Баляслаў, 34 г., чыноўнік губернскага праўлення,

38.Казіміроўскі Іван, 29 г., чыноўнік палаты дзярж-маёмасцяў,

39. Карны Канстанцін, 17 г., гімназіст,

40. Карчэўскі Ксаверый, 16 г., гімназіст,

41. Квяткоўскі Антон, 18 г., гімназіст,

42. Крэвін Казімір, 25 г., селянін, з Сакольскага у.,

43. Куроўскі Станіслаў, 19 г., паходзіў з Люблінскай губ.,

44. Лапінскі Актавіан, 16 г., гімназіст,

45. Немчыневіч Венцаслаў, 16 г., гімназіст, з Лідскага у.,

46. Ожэ Іван, гімназіст, з Гродна,

47. Пачобут Уладыслаў, 25 г., шляхціц, з Гродзенскага у.,

48. Плаўскі Емяльян, 17 г., гімназіст, з Ваўкавыска,

49. Пушкарэвіч Юльян, 20 г., мешчанін Гродна,

50. Развадоўскі Станіслаў, 18 г., шляхціц, з Люблінскай губ.,

51. Ружэ Фёдар, 32 г., паходзіў з Прусіі,

52. Філістовіч Іван, 23 г., селянін, з Віленскай губ.,

53. Хамічэўскі Сільвестр, 22 г., чыноўнік, з Лідскага у.,

54. Чачот Людвіг, 26 г., чыноўнік угалоўнай палаты,

55. Чачот Эдуард, 33 г., адстаўны калежскі сакратар,

56. Шантыр Станіслаў, 23 г., шляхціц, з маёнтка Дзяміткава Гродзенскага у.,

57. Шыдлоўскі Адольф, 20 г., рабочы друкарні, г. Гродна,

58. Эйслер Іван, 22 г., замежны грамадзянін,

59. Янкоўскі Карл, 29 г., рабочы друкарні, г. Гродна,

60. Ястржэмбскі Любамір, 31 г., машыніст на вакзале, з Радомскай губ.,

61. Ястржэмбскі Ляон, 17 г., шляхціц, з Радомскай губ.

Аб сацыяльным складзе ўдзельнікаў паўстання сведчыць колькасць арыштаваных і зняволеных у Гродзенскай турме ў 1863 г., справамі якіх займалася Гродзенская следчая камісія па палітычных справах.

| Знаходзіліся ў турме | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | На 1.10.1863 | На 1.11.1863 | У лістападзе 1863г | У снежні 1863г. |
| Ксяндзоў | 12 | 13 | 3 | 4 |
| шляхты-памешчыкаў | 264 | 259 | 75 | 49 |
| сялян | 274 | 339 | 54 | 65 |
| аднадворцаў | | | 7 | 2 |
| афіцэраў | | | 6 | 4 |
| чыноўнікаў | | | 17 | 7 |
| мяшчан | | | 9 | 5 |
| ніжніх чыноў | | | 3 | 4 |
| яўрэеў | | | 2 | 2 |
| замежных грамадзян | | | 4 | 1 |
| Усяго | 550 | 661 | 180 | 143 |
| *НГАБ у Гродне: ф.3, в.1, с.26, стар. 176 – 178.* | | | | |

# “ МЯЦЕЖНІКІ “ З ПРЫНЁМАНСКІХ ВЁСАК

Вядомы сотні самаахвярных удзельнікаў паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў Беларусі. Тут хацелася б павесці размову аб паўстанцах і іх дзеяннях у месцах, прылежных да Нёмана, – ад Віцькоў да Жукевіч.

У час паўстання 1863 г. гэтыя левабярэжныя пакрытыя лесам месцы ўпадабалі паўстанцы. Сама прырода садзейнічала гэтаму з’яўленню: вялікія звілістыя рвы, берагі сухія, незабалочаныя, маюцца спрыяльныя спускі да ракі. Рака не толькі раздзяляла тутэйшых жыхароў, але і яднала іх пераправай.

Прынёманскія тэрыторыі ад Віцькоў і Пескаў да Славіч на левым беразе Нёмана і каля Мігова – Коматава на правым былі добра асвоены людзьмі з даўніх часоў. Аб існаванні паромнай пераправы каля вёскі Коматава і Мігова сведчыць афіцэр Генеральнага штаба падпалкоўнік Калмберг у “Ваенна-статыстычным апісанні Гродзенскай губерні за 1849 г.” Ён паведамляе аб такой пераправе на 50 чалавек каля в. Мігова, якая дзейнічала з вясны да позняй восені, а перад Першай сусветнай вайной каля в. Пескі пачалі будаваць мост насупраць Коматава, але вайна спыніла работы.

Пра існаванне пераправы праз Нёман каля Коматава-Мігова добра ведалі і паўстанцы 1863 г. і карысталіся ёю, каб знікнуць з поля зроку паліцыі ці праследу карных вайсковых атрадаў. У паўстанцкія атрады ішлі мясцовыя жыхары з навакольных вёсак і шляхецкіх ваколіц Абуховічы, Талочкі, Юравічы, Эйсманты Надтабольскія, Жукевічы, Пескі і інш.

Тыя, хто пераправіўся на адзін ці другі бераг, меў магчымасць выйсці на Індурскі тракт або на Скідзельскую дарогу. Коматаўскай і мігоўскай пераправай карысталіся і мясцовыя жыхары ў гаспадарчых і жыццёвых мэтах.

# Ні крыжа ні каменя

Лясныя мясціны на левабярэжжы каля Віцькоў і Панямуні на поўначы служылі паўстанцам 1863 г. базай для збору, падрыхтоўкі да паходаў, адпачынку. Берагі Нёмана, зрэзаныя равамі і парослыя лесам і густым хмызняком, уяўлялі зручнае месца, каб у бяспечным месцы рыхтаваць зброю, каваць коней, падлячыць параненых, зрэшты схавацца ад пераследу царскіх карнікаў. Пра такі роў, доўгі, звілісты і глыбокі, які існуе і цяпер паміж былымі Пескамі і Панямунню, апавядаў Сяргей Дрозд у "Гарадзенскіх запісах" ( 1993 г.). Ён і цяпер захоўвае сваю назву – Канюхоўскі роў, магчыма, з-за тых падзей, што тут адбыліся.  У 60-я гады ХХст. краязнаўцы змаглі пачуць у суседніх Віцьках аповед мясцовай жыхаркі Ганны Баранавай (Баран) пра яе дзеда Лаўрэнція Кроя, сведку бою паўстанцаў з казакамі летам 1863г.. К гэтаму часу паўстанцкі атрад пад камандаваннем былога царскага падпалкоўніка Аляксандра Лянкевіча ад вясны вёў на Гарадзеншчыне паспяховыя баі з войскамі і цярпеў ад іх паражэнні. Паўстанцы ў ходзе няўдачнага бою, разбіўшыся на дробныя групы, паспяхова знікалі, а потым зноў збіраліся ў патаемных месцах. Такім месцам і быў роў каля вёскі Пескі. Тут і адбыліся драматычныя падзеі. Казацкі атрад у некалькі сотняў чалавек, якія пераправіліся праз Нёман каля Мігова-Сіўкава,  нечакана напаў на паўстанцаў, і адбылася жорсткая бітва, у час якой загінула многа і паўстанцаў, і расійскіх салдат. Доўгі час у рове жыхары бачылі рэшткі загінулых тут людзей. Існавалі тут і некалькі невысокіх курганоў-магілак, але няма ніякіх памятных знакаў аб тых падзеях  .

Паўстанцы знаходзілі падтрымку ў навакольных сялян і ўладальнікаў невялікіх маёнткаў  Панямунь, Пескі, прытулак у Панямунскай каталіцкай капліцы. Аб гэтым стала вядома ўезнаму спраўніку, і па яго загаду восенню 1863 г. станавы прыстаў Індурскага стану Смарагдаў з казакамі ўчынілі ў капліцы вобыск. Але гэта быў не столькі ператрус, колькі сапраўдны пагром за спачуванне "мяцежнікам", таму што пасля яго малебны і служба ў ёй не праводзіліся.  Праз год яна была зачынена, галоўная святыня –

візантыйскага пісьма ікона Божай Маці – і касцельныя рэчы перавезены ў Квасоўскі касцёл. Такія жорсткія паводзіны карнікаў тлумачацца адмоўным стаўленнем царскай улады да грэка-уніяцкіх храмаў, якім была Панямунская капліца да 1839 г., а цяпер стаўшая каталіцкай. Пазней гэтая капліца была перабудавана ў праваслаўную і адносілася да Коматаўскага прыходу, а пасля ўстанаўлення тут савецкай улады ў 1939 г. і зусім разбурана. На месцы яе існавання ляжыць некалькі камянёў, як кажуць, ад яе фундамента, а ў дзясятку метрах нядаўна пабудавана праваслаўная каплічка.

Мясціны вакол Канюхоўскага рова параслі кустоўем і лесам, падзеі, што адбываліся тут, выветрыліся з памяці людской. Ні каменя ні крыжа. А падзеі і людзі, хто тут жыў і змагаўся за волю і незалежнасць нашай дзяржавы, заслугоўваюць ушанавання.



Праваслаўная капліца ў былой вёсцы Панямунь каля былой каталіцкай ( фота Савашынскай А.).

# “Мяцежнікі”

Аб знаходжанні паўстанцаў у гэтых прынёманскіх мясцінах ведалі жыхары навакольных вёсак і маёнткаў і далучаліся да іх, удзельнічалі ў баявых дзеяннях. Пра двух такіх паўстанцаў, жыхароў вёскі Жукевічы, Гілюка Дамініка Іванавіча і Гасперскага Якава Восіпавіча, захаваліся дакументы за 1884 г. За ўдзел у паўстанні 1863 г. яны, трапіўшы ў палон да карнікаў, былі пакараны ссылкай у Сібір. Царскім указам ад 15 мая 1883 г. удзельнікам паўстання было дазволена вярнуцца з ссылкі, і яны з’явіліся ў Жукевічах. Але ў той жа час ім было забаронена пражыванне ў Паўночна-Заходнім краі, і гродзенскі губернатар запатрабаваў ад уезнага спраўніка выдаліць іх у Царства Польскае. Яны вымушаны былі адправіцца ў Сапоцкінскую воласць Аўгустоўскага уезда, але зноў і зноў парушалі забарону і з’яўляліся ў роднай вёсцы, дзе жылі іх сем’і.

Царскія ўлады пільна сачылі за паводзінамі памешчыкаў, шляхты, сялян, каб не дапусціць папаўнення паўстанцкіх атрадаў і дапамогі ім. У выпадку падазрэння праводзілі вобыскі. Такі вобыск паліцыя ўчыніла ў маёнтку Мігова ў памешчыка Аляксандра Абуховіча, брата Соф’і Гласка з Пескаў, што ў чатырох вярстах уверх па рацэ на левым беразе. З Мігова сышлі ў “мяцежнікі” некалькі сялян. Паліцыя адшукала пісьмо “предосудительного содержания” ад яго сваяка Вікенція Гласкі з Пескаў. У ходзе допытаў аб змесце эзопавай мовы пісьма выявілася, што два сыны Гласкі – Іосіф і Юльян – вясной 1863 г. сышлі з дому нявedama куды. Следчыя слушна заключылі, што яны пайшлі ў “мяцежнікі”. На бацькоў быў накладзены штраф у 300 руб., а маёнтак часткова секвестраваны “до отыскания сыновей”. Як выявілася пазней, Юльян Гласка перайшоў у Аўгустоўскі ўезд і ўступіў у паўстанцкі атрад Ваўра. У складзе гэтага атрада ўдзельнічаў у баявых дзеяннях з расійскімі карнікамі каля вёскі Кадыш ў Аўгустоўскім уездзе. У атрадзе ён захварэў, а калі вылечыўся, барацьба пайшла на спад, і ён эміграваў на Захад. Жыў і працаваў у Францыі і ў Аўстрыйскай імперыі і ўсе гады не расставаўся з надзеяй

вярнуцца на радзіму. Ён разумеў, што царскі ўрад не даруе яму ўдзел у паўстанні, але гэта яго не спыніла. Праз васямнаццаць гадоў ён ужо з жонкай і двума дзецьмі прыбыў у Гродна, дзе за ім быў зразу ўстаноўлены паліцэйскі нагляд, з-пад якога быў вызвалены пасля царскага ўказа аб амністыі 1883 г. Іосіф Гласка ўдзельнічаў у нападзе на чыгуначную станцыю Гродна 2 сакавіка 1863 г., быў адпушчаны на парукі, пасля ўступіў у атрад Ваўра і загінуў у бітве з расійскімі карнікамі пад Кадышом у маі 1863 г. Невялікі маёнтак Пескі Гласкаў пасля смерці бацькоў быў канфіскаваны і прададзены ўладальніку суседняга мёнтка Гарны Пятру О'Брыен дэ Ласі.

## *"Мяцежнік" з Жукевіч*

У "мяцежнікі" падаўся і Віктар Гласка, уладальнік маёнтка Жукевічы Горніцкай воласці, што знаходзіўся ў двух вярстах ад Нёмана, па суседству з Панямунню. Гэтае ўладанне агульнай плошчай у 801 дзес. ён атрымаў у валоданне ад свайго дзядзькі Юльяна Леапольдавіча Гласкі па духоўнаму завяшчанню ў 1858 г., але ім не распараджаўся, не маючы абумоўленых завяшчаннем 26 гадоў. Усімі справамі ў маёнтку кіравала яго сястра Марыя і яе муж Аляксандр Белаблоцкі.

Калі пачалося паўстанне 1863 г., Віктар Гласка зразу далучыўся да яго і ўзначаліў паўстанцкі атрад у Аўгустоўскім уздзе. Яго атрад у 150 – 200 чалавек паспяхова змагаўся ў Сапоцкінскай зоне, у Свентаянскіх лясах, пад Алітай, у Сейненскім уездзе, падтрымваў сувязі з атрадам Ваўра. Ва ўсіх баявых сутычках з расійскімі войскамі ён дзейнічаў умела і пазбягаў разгрому. У маі 1863 г.пры ўдзеле атрада В.Гласкі адбылася жорсткая бітва паўстанцаў з расійскімі карнікамі каля вёскі Кадыш. Аб умелых дзеяннях атрада і жорсткіх сутычках з войскамі расказвалі на допытах захопленыя ў палон паўстанцы Семяноўскі Іван з маёнтка Вільянова пад Азёрамі, казённы селянін з в. Яскілевічы Бура Іван, аднадворац з-пад Парэчча Высоцкі Восіп, якія ў розныя часы знаходзіліся ў атрадзе В. Гласкі. У перапісцы гродзенскага губернатара з Віленскім генерал-губернатарам знаходзім сведчанне: "Из дел канцелярии моей видно, что

при секретном предложении бывшего генерал-губернатора графа Муравьёва от 21 декабря 1863 г. ... препровождена была выписка из приказа революционного комитета от 14 сентября за № 12, найденного в бумагах, захваченных в Гродне, в которой показано, что по Августовской губернии произведён тогда Виктор Гласко в майоры и что он поставлен первым после известных начальников мятежных шаек Ландера, Острога и Глеба, произведенных в полковники”.

Паўстанцкі атрад В. Гласкі змагаўся “до окончательного уничтожения мятежа”, пасля чаго яго начальнік перайшоў на Захад. Усе гады знаходжання ў эміграцыі ён думаў аб вяртанні дамоў. Праз дзевяць гадоў ён добраахвотна вярнуўся ў Царства Польскае, ведаючы, што будзе пакараны як камандзір аднаго з паўстанцкіх атрадаў. У Варшаве ён быў арыштаваны і пасаджаны ў турму. У гэты час і было выяўлена, што ён з’яўляецца уладальнікам маёнтка Жукевічы. Таму маёнтак па распараджэнні генерал-губернатара быў секвестраваны і аддадзены ў кіраванне губернскаму ўпраўленню дзяржаўных маёмасцяў. Пасля вызвалення з турмы Віктару Гласка было забаронена пражыванне ў губернях Паўночна-Заходнага краю, і ён жыў то ў Сувалках, то ў сваякоў у Сейненскім уездзе і беспаспяхова спрабаваў адшукаць нейкія правы на Жукевічы, дзе жыла яго сям’я. А маёнтак пераходзіў то ў адны, то ў другія рукі.

Аднапавярховы панскі дом і гаспадарчыя пабудовы, што размясціліся каля жывой і чыстай рачулкі Горніца, паступова прыходзілі ў заняпад. Сучасныя жыхары Жукевіч нічога не могуць расказаць пра былых уладальнікаў маёнтка, іх дзейнасці і барацьбе, толькі ўспомняць, што была тут панская сядзіба.

А падзеі заслугоўваюць іх ушанавання.

# ФЛАРЭНЦІЙ АЖЭШКА: ДОКТАР, ПАЎСТАНЕЦ

Пры вывучэнні жыццёвага і творчага шляху знакамітай асобы мы з увагай прыслухоўваемся да сведчанняў людзей, што былі побач з ёю. У адносінах да нашай вялікай зямлячкі Элізы Ажэшка важным момантам падаецца знаходжанне побач з ёю Фларэнція Ажэшкі, малодшага брата яе мужа Пятра. Калі будучая пісьменніца Эліза Паўлоўская выйшла замуж і пераехала ў 1858 г. з мужам у яго маёнтак Людвінова Кобрынскага ўезда, яна па-сяброўску сышлася з Фларэнціем, які быў старэйшы за сваю братавую на восем гадоў (нарадзіўся ў 1833г.). Пасля заканчэння гімназіі ў Мітаве ён паступіў вучыцца ў Пецярбургскую медыка – хірургічную акадэмію і штогод прыязджаў летам у Людвінова, дзе на сустрэчах з сябрамі вяліся гарачыя спрэчкі аб вызваленні сялян ад прыгону, аб падзеях у сталіцы. Эліза прысутнічала пры іх размовах, удзельнічала ў спрэчках, спачувала дэмакратычна настроеным маладым людзям. Пазней яна прызналася, што і гэтыя дыскусіі, і падзеі 1863 г. садзейнічалі таму, што яна стала пісьменніцай. Пасля заканчэння акадэміі з адзнакай ў 1861 г. поўны энергіі Фларэнцій вяртаецца ў Кобрынскі ўезд і займаецца прыватнай урачэбнай практыкай, дапамагае Элізе ў адкрытай ёю школе для некалькіх дзясяткаў сялянскіх дзяцей. Яна не разумела абыякавасці свайго мужа Пятра да грамадскіх праблем і яго захапленне картачнай гульнёй і паляваннем.

Тыя гады супалі з уздымам грамадскага руху, звязанага з адменай прыгоннага права, і паўстаннем 1863 г. Гэтыя падзеі крута змянілі яго жыццё. Фларэнцій Ажэшка прыняў у іх самы актыўны ўдзел як змагар і як доктар. Ён ездзіў на маёнтках і вёсках і заклікаў шляхту і сялян ісці ў паўстанцкія атрады, збіраў адзенне, прадукты, грошы на паўстанне. Пазней пайшоў у паўстанцкі атрад і ўдзельнічаў у баявых дзеяннях, лячыў параненых. Яго нястомную кіпучую дзейнасць бачыла Эліза Ажэшка і сама дапамагала паўстанцам.

Вывучэнне сацыяльнага складу ўдзельнікаў паўстання 1863 – 64 г. выявіла значны ўдзел у ім медыцынскіх работнікаў. Урачы, атрымаўшыя адукацыю ў сталічных навучальных установах, жыўшыя ў дэмакратычным асяроддзі, па роду заняткаў ведалі настроі грамадства і свядома ўключаліся ў шэрагі барацьбітоў за волю. У час паўстання яны ўваходзілі ў склад Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, знаходзіліся ў паўстанцкіх атрадах, дапамагалі пацярпелым. Так, паўстанцкім начальнікам г. Гродна быў намінаваны паважаны ў горадзе доктар Цэлясцін Цэханоўскі, павятовым начальнікам Ваўкавыскага ўезда – Мечыслаў Гліндзіч, павятовым начальнікам Слонімскага ўезда – Сімановіч, зборам сродкаў для паўстанцаў у Гродзенскім уездзе займаўся доктар Іосіф Маркевіч, у Гродзенскую арганізацыю таксама ўваходзілі ўрачы Баляслаў Заблоцкі, Уладыслаў Брыерэ дэ Мартэрэ і іншыя. Таму невыпадкова далучыўся да паўстанцаў і лекар Ажэшка.

Вось што расказаў у Гродзенскай ваенна-следчай камісіі адстаўны радавы Людгард Беркусевіч:

У час знаходжання яго ў памешчыка Гутоўскага ў красавіку 24 чысла 1863 г. прыязджаў доктар Фларыян Ажэшка і з ім два маладыя чалавекі ... Нагаворвалі ісці ў мяцеж, гаворачы, што прыдуць французы і англічане, ... пагражаючы расправай, і тады яго дзеці будуць няшчасныя. Урэшце палажылі крыж і прымусілі прысягнуць, узялі слова, каб прышоў заўтра ў Людвінаў лес і далучыўся да іх. На другі дзень ён прышоў у назначаны пункт. (НГАБ у Гродне, ф.1, в.35, сп.1, л.42).

Названы радавы Беркусевіч атрымаў ад Фларэнція Ажэшкі зброю і ўдзельнічаў у баях з карнікамі, сустракаў доктара ў лагеры пры перавязках параненых паўстанцаў.

Бацькаў маёнтак Оўзічы, дзе жыў Фларэнцій і яго хворы малодшы брат Браніслаў, выкарыстоўвалі паўстанцы для вырабу зброі, адпачынку. У час вобыску вясной 1863 г. тут былі знойдзены волава, кулі, шрот, забароненыя вершы. Старэйшы брат Пётр, муж Элізы, слаба падтрымваў паўстанне, хаця дапамагаў матэрыяльна, у яго маёнтку

Людвінова знаходзіў сховішча паранены Ромуальд Траўгут, адкуль быў вывезены Элізай Ажэшка ў Царства Польскае.

У баях з расійскімі карнікамі атрад Р. Траўгута панёс вялікія страты і адышоў у пінскія балоты. Пасля гэтага Фларыян Ажэшка накіраваўся ў небяспечную паездку па Кобрынскім уездзе, каб сагітаваць новых байцоў для атрада, але ў час яе 5 ліпеня 1863 г. быў затрыманы і арыштаваны. Пацягнуліся доўгія дні следства, допытаў, і нарэшце ў 1864 г. па канфірмацыі гродзенскага ваеннага губернатара ён "лишён всех особенных лично и по состоянию присвоенных прав и преимуществ" і сасланы ў Томскую губерню пад нагляд паліцыі. З гэтага часу ўсё астатняе яго жыццё было звязана з Томскам.

Томскія краязнаўцы ў наш час вывучалі жыццё ссыльных пасяленцаў і папоўнілі нашы веды пра іх. Жыццё палітычных ссыльных у суровай Сібіры было даволі складаным. Да нязвыкла халоднага клімату дадаўся недахоп сродкаў на жыллё, набыццё цёплых вопраткі і абутку. А знайсці працу з добрым заробкам было вельмі цяжка. Ссыльным дваранскага паходжання ад казны выдавалася на пражыццё па 6 руб. у месяц пасля таго, як мясцовыя ўлады атрымвалі з месца ранейшага пражывання ссыльнага даведку аб адсутнасці ў яго нерухомай маёмасці або іншага даходу. Некаторым з іх родныя ці сваякі прысылалі грашовую дапамогу. Але маёнткі Фларэнція і Пятра Ажэшкаў Оўзель і Людвінова былі канфіскаваны на карысць дзяржавы, а ў 1867 г. прададзены калежскаму саветніку Паўлу Іванавічу Кантараву. Пётр Ажэшка таксама быў высланы ў глыб Расіі – у Пермскую губерню. Дапамогі не было. Прыватнай урачэбнай практыкай займацца забаранялася: улады асцерагаліся дрэннага ўплыву палітычных ссыльных. Таму высокакваліфікаваны доктар Ажэшка выпадкова ўладкаваўся "аптекарским мальчиком" за 10 руб. у месяц пры адной аптэцы. Трэба дадаць, што хатнія выдаткі з прыбыццём у Томск узраслі: ён стаў ужо сямейным чалавекам. Па шляху ў Сібір ён узяў шлюб з Геленай Мількевіч, якая дабраахвотна рушыла за ім у далёкую ссылку. Вянчанне адбылося ў Цюмені, адкуль кожны з сужэнцаў дабіраўся да Томска сваім шляхам: Фларэнцій пешым этапам, а яго маладая жонка – параходам.

У 1871 г. Фларэнцій Ажэшка быў вызвалены ад паліцэйскага нагляду, а праз год яму дазволілі паступіць на дзяржаўную службу па медыцынскай частцы, толькі з пэўнымі абмежаваннямі, якія не дапускалі свабодную ўрачэбную практыку і атрыманне дзяржаўных заахвочванняў па службе. У тым жа годзе ён атрымаў месца ўрача ў турэмнай бальніцы, а трохі пазней са згоды епіскапа Томскага і Семіпалацінскага зацверджаны доктарам духоўнай семінарыі. Пасля доўгага перапынку ён з усёй нерастрачанай энергіяй прыняўся за працу і выконваў свае службовыя абавязкі старанна і сумленна.

Толькі прыгняталі яго ўстаноўленыя абмежаванні па службе, а выдаткі на ўтрыманне сям'і раслі, як і расла сама сям'я. А тут яшчэ навальваліся на сям'ю адно за другім няшчасці: памерлі, нядоўга пражыўшы, дзве дачкі; пасля нараджэння першага сына памерла трэцяя дачка, потым адышла і сама маці ў 27 гадоў, праз некалькі дзён пасля нараджэння другога сына. З Геленай Мількевіч пражыў Фларэнцій 12 гадоў, у іх выраслі два сыны: Уладыслаў-Іван (нар.1868 г.) і Браніслаў-Кліменцій (1870 г.). Добрая душой і клапатлівая, яна перад смерцю прасіла сваю маладзейшую сяброўку 17-гадовую Люцыю Пацалоеўскую, дачку гарадскога ўрача, стаць жонкай Фларыяна і выхоўваць асірацелых хлопчыкаў. Трэба прызнаць да гонару пані Люцыі, што яна годна выканала высакародныя абавязкі і добрай жонкі, і клапатлівай, строгай маці для двух пасынкаў і траіх сваіх дзяцей: дачкі Антаніны-Канстанцыі (1875 г.), сыноў Вікенція-Пятра (1876 г.)і Даменіка-Сцяпана (1878 г.).

Фларэнцій Ажэшка не траціў надзеі на паляпшэнне свайго становішча, хаця даводзілася жыць сціпла і аканомна, але трымаўся ён з годнасцю. І тут склаліся такія абставіны, якія пасадзейнічалі пераменам у яго жыцці. Летам 1873 г. вялікі князь і наследнік прастола Аляксандр Аляксандравіч рабіў паездку па Заходняй Сібіры. Вось да яго і звярнуўся доктар Ажэшка з прашэннем аб змяненні свайго службовага статуса, звярнуўся, напэўна, па падказцы мясцовага начальства, якое падтрымала яго хадайніцтва. Да канца года прыйшло ў Томск рашэнне яго імператарскай вялікасці "вызваліць Аржэшка ад тых абмежаванняў па службе, якім



Фларэнцій Ажэшка ў Томску

ён быў падвергнуты", але гэта не было яшчэ даразаннем за яго ўдзел у паўстанні. Толькі ў 1879 г. цар Аляксандр II "всемилостивейше соизволил на несчитанье ему, Оржешко, бытность его под судом препятствием к получению наград и других преимуществ, кроме знака отличия беспорочной службы и ордена Св. Владимира за выслугу лет". Цар мілаваў, але ўсё-такі не даравяў.

З гэтага часу службовае становішча лекара Ажэшкі пачало мяняцца да лепшага. Праз год, у 1880 г., за выслугу гадоў указам Правіцельствуючага сената ён быў узведзены ў тытулярныя саветнікі (чын 9-га класа), а праз шэсць гадоў – у калежскія асэсары, што давала права на дваранскае званне, пазней прысвоены чыны надворнага саветніка і калежскага саветніка (6 клас). Але яго больш усцешыла прэмія ў 1000 руб., атрыманая ад міністра ўнутраных спраў, якая трохі паправіла яго матэрыяльнае становішча.

Уся працоўная дзейнасць доктара Ажэшкі была звязана з турэмнай бальніцай. У Томску існавала цэнтральная перасыльная турма, праз якую прайшлі сотні палітычных ссыльных. Іх абследаваў і лячыў доктар Фларэнцій, які сам памятаў свой шлях палітычнага зняволенага. Яны запомнілі яго як чулага, уважлівага чалавека, які са спачуваннем адносіўся да іх лёсу, і панеслі аб ім добрую пагалоску па Усходняй Сібіры. У турэмным шпіталі ён доўгія гады працаваў простым урачом, а з 1889 г. загадам па Міністэрству ўнутраных спраў зацверджаны старшым урачом. Адказваючы за стан здароўя бяспраўных зняволеных, ён вёў пастаянную барацьбу за нармальнае забеспячэнне шпіталя патрэбнымі лекамі, чыстай бялізнай, за выкананне санітарна-гігіенічных умоў, таму што час ад часу ўспыхвалі

захворванні тыфам. Аб стараннай працы доктара Фларэнція Ажэшкі мы сустрэлі сведчанне і зусім з нечаканага боку. У 70-я гады 19 ст. амерыканскі журналіст Джордж Кенан падарожнічаў па Сібіры і пасля выдаў кнігу "Сібір", у якой адзначаў і турэмную бальніцу ў Томску, дзе служыў доктар Ажэшка: "... пакоі для хворых былі ў чысціні, ложак чысты, і ўмовы былі значна лепшыя, чым у падобнай бальніцы для ссыльных у Цюмені... Але і тут, нягледзячы на стаpaнні доктара, было вельмі цяжка."

Шматгадовая нястомная праца доктара Ажэшкі была адзначана і ардэнамі. "За отлично усердную службу и особые труды по тюремному ведомству" па хадайніцтву міністра ўнутраных спраў ён быў узнагароджаны ардэнамі Св. Станіслава III ст., Св. Анны III і II ст.. Але адзнакі і ўзнагароды не дадавалі здароўя, якое было падарвана ссылкай. І ў 1895 г. ён папрасіўся ў адстаўку.

Яму была назначана "усиленная пенсия" у памеры 600 руб. у год, але ён не складваў рук і прадаўжаў прыватную практыку. У Томску яго многія ведалі як дасведчанага і бескарыслівага доктара, прыходзілі да яго людзі рознага стану і звання, і нікому ён не адмаўляў. Двойчы самаахвярна ўдзельнічаў у ліквідацыі ўспышкі халеры ў горадзе. За сваю вернасць клятве Гіпакрата, чуйнасць да людзей, бескарыслівасць Фларэнцій Ажэшка карыстаўся ўсеагульнай павагай жыхароў.

За трыццаць гадоў жыцця ў Сібіры горад і яго жыхары сталі яму сваімі, ён палюбіў гэты прыгожы край і яго людзей, не замыкаўся ў вузкім коле прафесійных інтарэсаў, а ўдзельнічаў у грамадскім жыцці горада, падтрымваў добрыя сувязі з выхадцамі з Беларусі і Польшчы, высланымі сюды, у яго доме размяшчалася бібліятэка мясцовага польскага таварыства. Яго сяброўства і ўдзел у рабоце Томскага таварыства практыкуючых урачоў, у каталіцкім таварыстве, дабрачынных і асветніцкіх арганізацыях садзейнічалі поспеху ў іх дзейнасці; яго тройчы выбіралі ганаровым міравым суддзёй Томскага акружнога суда. Калі яго не стала ў 1905 г., праводзіць у апошні шлях вышла паўгорада ўдзячных яму жыхароў. Пахаваны Фларэнцій – Дыяніс Ажэшка на



Фларэнцій Ажэшка з жонкай Люцыяй і дачкой Антанінай

каталіцкіх могілках ў Томску, стаўшым для яго другой радзімай.

Члены яго сям'і, як і ён, далучаліся да актыўнай працы на карысць растучага горада, годна працягвалі справу бацькі. Жонка Люцыя Ажэшка знаходзіла час і для выхавання сваіх дзяцей, і для грамадскай працы. Яна з'яўлялася членам праўлення каталіцкага таварыства ў Томску, апякала прытулак для бедных дзяцей пры гэтым таварыстве. На карысць абяздоленых дзяцей члены таварыства ладзілі ў горадзе дабрачынныя спектаклі, канцэрты, вечарыны. Да гэтай дзейнасці яна прыцягвала ўсіх сваіх дзяцей, і выраслі яны паважанымі людзьмі. Малодшы сын Фларэнція і Люцыі Ажэшкаў Вікенцій стаў вядомым томскім архітэктарам, некалькі яго будынкаў упрыгожылі горад. А яго "дом з драконамі", пабудаваны ў 1917 г., урадам Расіі аб'яўлены помнікам драўлянай архітэктуры федэральнага значэння.

Пасля смерці Фларэнція Ажэшкі яго сям'я працягвала жыць у Томску. У пачатку XX ст. усе сыны Фларэнція паспрабавалі вярнуць дваранскае званне і звярнуліся з адпаведным прашэннем у Гродзенскі дваранскі дэпутацкі сход, але адказ ў дакументах адсутнічае. Хутчэй усяго ён быў адмоўны, таму што праз дзесяць гадоў яго старэйшы сын Уладыслаў зноў звяртаўся ў гэты сход з прашэннем аб далучэнні яго і ягоных сыноў Вітольда-Фларэнція і Аляксандра да дваранскага роду. Жыла яго сям'я на станцыі Асіповічы Бабруйскага ўезду, дзе працаваў ён лекарам. У адмоўным адказе прыводзілася некалькі прычын такога рашэння, але галоўнай была адсутнасць дакумента аб несудзімасці яго бацькі Фларэнція. А тут і вайна пачалася – І-я сусветная.

Калі скончыліся войны, рэвалюцыі і грамадскія ўзрушэнні ў Расіі, Люцыя Ажэшка з унукам Георгіем, сынам Даменіка, у пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя пакінула Томск і пераехала ў Польшчу. За вялікую работу сярод польскіх ссыльных у Сібіры ўрад Польшчы ўзнагародзіў яе ордэнам. Яшчэ адзін сын доктара Фларэнцiя – Бранiслаў ( ад першага шлюбу) пасяліўся ў Ружаным Стоку Сакольскага павету Беластоцкага ваяводства і ў 1923 г. адшукваў правы на бацькоўскую вотчыну, адабраную расійскімі ўладамі пасля паўстання 1863 г.. Як бы ні было на чужыне, але бацькоўская зямля кліча да сябе.



Томск. Дом з драконамі. Пабудаваны Вікенціем Ажэшка ў 1917 г.



Томск. Дом, пабудаваны Вікенціем Ажэшка ў пач. 20 ст. для ўласнага жыцця.

## Дадатак № 1

## Перевод Манифеста Центральный Комитет в качестве временного Народного Правительства.

Подлое грабительское правительство, разъяренное сопротивлением мучимой им жертвы, постановило нанести ей удар схватить несколько десятков тысяч самых лучших и ревностнейших её защитников, облечь в ненавистный московский мундир и погнать за тысячи миль на вечную нищету и погибель. Польша не хочет, она не может подчиниться этому позорному насилию и, под карою позора перед потомством, должна оказать энергическое сопротивление. Сонмы храброй молодежи, молодежи самоотверженной, одушевленной горячею любовью к отечеству, с непоколебимой верою в правосудие и помощь Божию, дали клятвенное обещание свергнуть проклятое ярмо или погибнуть. За нею поэтому Польский народ, за нею! После ужасного позора рабства, после невообразимых мук угнетения Центральный Комитет, в настоящее время единственное законное твое Народное Правительство, призывает тебя на поле борьбы - уже последней, на поле славы и победы, которую даст тебе и во имя Бога на небесах клятвенно обещает дать, ибо знает, что ты, вчерашний покаянник и мститель, завтра должен быть и будешь героем и великаном. Так! Ты завоюешь свою свободу, свою независимость таким величием мужества, святостью таких жертв, каких ни один из народов еще не записал на страницах своей истории. Возрождающемуся своему отечеству ты без сожалений, слабости и колебания отдашь свою кровь, жизнь и имущество, которых оно потребует от тебя. Взамен  этого Центральный Народный Комитет обещает тебе, что усилия твоей храбрости не пропадут бесследно, пожертвования твои не будут потеряны, ибо он, принимая кормило правления, будет держать его сильною рукой. Он сокрушит все препятствия, разметает все запоры, всякое недоброжелательство к святому делу и даже недостаток усердия будет преследовать и наказывать пред суровым, хотя и справедливым судилищем оскорбленнаго отечества.

С первого же дня открытого выступления, с первого момента начала святой борьбы Центральный Народный Комитетъ объявляет всех сынов Польши, безь различия веры и рода, происхождения и состояния, свободными и равными гражданами края. Земля, которою пахари владели па правах чинша или барщины, с настоящего момента становится безусловною их собственностью, на правах вечного наследования. Понесшие убыток владельцы будут вознаграждены из общих средств государства. Безземельные и поденщики, вступающие в ряды защитников края, или, в случае доблестной их смерти на поле чести, семейства их получат наделы из защищенных ими от врагов земель государства. Итак, к оружию, народ Польши, Литвы и Руси! К оружию! Ибо час общего освобождения уже пробил, старый меч наш обнажён, священное знамя Орла, Погони и Архангела уже развернуто.

А теперь мы обращаемся к тебе, Московский народ! Наш традиционный пароль--свобода и братство народов. Поэтому мы прощаем тебе даже убийство нашего отечества, прощаем даже кровь Праги и Ошмян, насилия на улицах Варшавы и пытки в крепостных подземельях. Прощаем тебе, ибо и сам ты, бедный, подвергаешься мученіямь; трупы твоих детей качаются на царских виселицах, пророки твои мерзнут в снегах Сибири. Но если ты в этот решительный момент не почувствуешь внутри себя угрызения за прошлое, не почувствуешь святой жажды о лучшем будущем, если в нашей борьбе ты окажешь помощь тирану, который нас убивает, а тебя топчет, то – горе тебе! Ибо мы пред лицом Бога и всего света проклянем тебя на позор вечного подданства и вечную муку рабства: мы вызовем тебя на страшный бой уничтожения, последний бой европейского просвещения с диким варварством Азии !

Варшава. 22 Января 1863 т.

Верность с подлинным свидетельствует Литовский Комитет в качестве Временного Провинциального Правительства в Литве и Беларуси.

№ 2

## Прокламация Центральнаго Народнаго Комитета.

Centralny Narodowy Komitet, jako tymczasowy Rząd Narodowy, zwaïywszy: ïe zrzucenie obcego jarzma wymaga jak najwiккszej liczby walczNºcych i nikt od peinienia siuïby wojskowej wymywiж siк nie moïe:

zwaïywszy nadto: ïe kaïdy Obywatel z pracy rNºk utrzymujNºcy siк.' skoro pyjdzie na wojnк, mieж winien zapewniony byt tak dla siebie jak i dla swej rodziny,

postanowi] i stanowi:

Art. l. Chałupnicy, Zagrodnicy, Komornicy, Parobcy i w ogyle wszyscy Obywatele z zarobku jedynie utrzymanie mający, którzy powolani do broni, w szeregach wojska narodowego za Ojczyznę walczyć będe, otrzymają, a w razie ich śmierci, żony i dzieci, na własność po ukończeniu wojny z dóbr narodowych, dział gruntu najmniej mórg trzy przestrzeni zawierający.

Art. 2. Ogloszenie i wprowadzenie w wykonanie niniejszego Dekretu Centralny Narodowy Komitet, juko tymczasowy Rząd Narodowy naczelnikom wojskowym i wojewydzkim poleca.

Dan w Warszawie 22 stycznia 1863 r.

## Перевод

### Прокламации Центрального Народного Комитета

Центральный Народный Комитет, как временное народное правительство сообразив о том, что чтобы сбросить чуждое иго, нужно много народа и никто от исполнения военной службы отговариваться не может. Сверх сего, сообразив, что каждый обыватель, содержащий себя трудами, коль скоро отправится на войну, обязан обеспечить своё и своих родных существование, постановил и постановляет:

1. Однодворцы, батраки и прочие и вообще все помещики, содержащие себя единственно с заработков, призванные к оружию в ряды народного войска отчизны будут сражаться, получают они, а в случае их смерти жёны и дети в собственность с окончанием войны с народных имений надел не менее по крайней мере 3 морга.

2. Объявление и проведение в исполнение настоящего постановления Центральный Комитет поручает местным и воеводским начальникам.

Дан в Варшаве 22 января 1863 г.

## № 3

## Предписание Военнаго Министра Командующему войсками Виленскаго Военнаго Округа об охране линий железных дорог. 12 Января 1863 года, № 81.

Государь Император по случаю возникающих вновь в Царстве Польском волнений Высочайше повелеть соизволил: обратить особенное внимание Вашего Высокопревосходительства на предупреждение и пресечение беспокойств, могущих отозваться между населением вверенного Вам края, и принять неотлагательно самые действительные меры к охранению линий железной дороги и телеграфного сообщения, и для сего употребить вверенные Вам войска. В случае же появления в каких-либо местностях шаек злоумышленников, имеющих целью нарушить спокойствие края, объявлять эти местности на военном положении, на основании существующих правил; самих же виновных предавать Полевому Уголовному Суду.

К сему имею честь присовокупить, что для командования отрядами, которые будут сформированы Вами с целью охранения дорог, назначаются по Высочайшему повелению по линии от Вильно до границы Царства Польского Генерал-Лейтенант Веселитский, а по линии от Вильно до Прусской границы Свиты Его Величества Генерал-Майор Волков.

Независимо постоянных отрядов вблизи станций железной дороги, небесполезно посылать от времени до времени отряды по самой дороге в полной готовности к действию в тех местах, где окажется нужным.

О всех распоряжениях, какие будут по сему предмету делаемы, я буду ожидать уведомлений Вашего Высокопревосходительства.

Генерал-адъютант Д. Милютин